ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

8 ліпеня 1994 г. № 27 (3749) Кошт 250 руб.

## «МОЖА БЫЦЬ, НАМ УДАСЦА ПРАГАВАРЫЦЬ ТРАДЫЦЫЮ»

**Гісторык Андрэй КІШТЫМАЎ: «Мы хочам аздаравіць нацыю. Ідучы да сябе і ад сябе. Гістарычнае пазнанне — толькі адна з форм нацыянальнай свядомасці. Гэта лекі, лекі моцныя. А моцныя лекі нярэдка бываюць горкімі».**

5, 12

## ШУКАЦЬ І ЗНАХОДЗІЦЬ ПРАЎДУ

**Уладзімір КАЛЕСНІК адказвае на пытанні анкеты «ЛіМа»: «Не разумею, навошта літаратару, які стараўся працаваць сумленна, прафесійна, мяняць арыенціры. Прадмет даследавання застаецца ж вякамі той самы, якія б стылёва-эстэтычныя змены ні адбываліся ў тэкстах. Усё, створанае ў розных манерах і жанрах, акрамя бяздарнага, безгустоўнага, пустога, застаецца літаратурай, мастацтвам слова».**

7

## СВЯТА ДЛЯ ЎСІХ З «НАШЫМІ» ПРАБЛЕМАМІ

**Водгулле фестывалю нацыянальнай песні і паэзіі «Маладзечна-94».**

10

## МЫ ДОЙДЗЕМ ДА БЕЛАРУСІ

**Прафесар Аляксей САЛАМОНАЎ: «Штучныя перашкоды на шляху беларускасці ёсць. Яны вельмі вялікія. Але ў любым выпадку можна выказаць упэўненасць, што Бог не дапусціць новага прыгнечання беларускай нацыі і мовы, іх знікнення. Беларусь павінна ўстаць самастойнай, раўнапраўнай і паважанай часткай сусветнага супольніцтва. І рускія, якія жывуць у Беларусі, павінны дапамагчы краіне, якая стала для іх Радзімай».**

13






## І Я РАСКАЖУ ЯМУ...

*85-гадовы ветэран Вялікай Айчыннай вайны, народны архітэктар СССР (на Беларусі за ўвесь савецкі час толькі два чалавекі былі ўдастоены гэтага звання), аўтар архітэктурнага рашэння мінскага манумента Перамогі Георгій Уладзіміравіч Заборскі (вы бачыце яго на верхнім здымку) на той вайне быў тройчы паранены. Тое, што адбылося ў Мінску на плошчы Перамогі ў часе святкавання 50-й гадавіны вызвалення, ён назваў сваёй чацвёртай ранай...*

*(Працяг на стар. 2)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***У дні святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусь наведала ўрадавая дэлегацыя Расійскай Федэрацыі на чале з прэм'ер-міністрам В. Чарнамырдзіным. У часе візіту былі падпісаны паперы, якія павінны былі стварыць ілюзію рэальнага існавання рублёвай зоны, падтрымаць у вачах грамадзян Беларусі імідж прэм'ера В. Кебіча. А імідж той і раней быў не надта трывалы, а пасля першага тура выбараў дык увогуле... Усё святкаванне рабілася ўрадам «пад Чарнамырдзіна». Таму не было ў сталіцы ў святочны дзень нацыянальных сцягоў; таму напярэдадні свята заставаліся без юрыдычных наступстваў факты знявагі ветэранамі бел-чырвона-белых сцягоў і «Пагоні»; таму не пусцілі 3 ліпеня на пляц Перамогі, увесь аточаны бальшавіцкай чырванню, калону з дзяржаўнымі сцягамі Рэспублікі Беларусь і сцягамі антыгітлераўскай кааліцыі (бо гэта была, маўляў, дэманстрацыя нязгоды з лініяй Кебіча, дэманстрацыя заходняй арыентацыі пэўных палітычных сіл на Беларусі). Спадар Кебіч спрабаваў давесці расійскаму госцю, што ён па-ранейшаму на Беларусі гаспадар і ўся Беларусь думае так, як Вячаслаў Францавіч.***

## «НЕДАКЛАДНАСЦЬ» ТЫДНЯ

У газеце «Известия» (Расія) за 5 ліпеня пад загалоўкам «Народы былога СССР маюць права аб'яднацца зноў, калі яны вельмі гэтага захочуць» надрукаваны адказ, які Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан даў на пытанне карэспандэнта газеты. Мяркуючы па загалоўку, Прэзідэнт ЗША рашуча падтрымлівае ідэю рэанімацыі СССР. Але загаловак матэрыялу супярэчыць ягонаму зместу. На самай справе Біл Клінтан такіх заяў не рабіў, а выказваўся па гэтым пытанні вельмі асцярожна, дыпламатычна ўзважана. «Гэта залежыць ад таго, наколькі падобнае рашэнне будзе зроблена сапраўды добраахвотна і будзе волевыяўленнем большасці нацый», — сказаў прэзідэнт. І далей: «Калі ўзнікне сапраўды незалежнае палітычнае развіццё, напрыклад, у Беларусі, якое заявіць: маўляў, мы лічым, што нам будзе лепш, калі ў нас будуць крыху іншыя стасункі з Расіяй, тут, я думаю, усё залежыць ад таго, што сапраўды адбудзецца. Народы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы адчуюць, наколькі натуральныя, шчырыя і дэмакратычныя гэтыя намеры. І ў гэтым уся сутнасць».

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Першая сталіца, якую Біл Клінтан наведаў у часе паездкі па Еўропе, — Рыга. Па словах латышскага прэм'ер-міністра Валдзіса Біркаўса, гэты візіт «пацвярджае правільнасць абранага Латвіяй напрамку руху». У рыжскім замку адбылася сустрэча амерыканскага прэзідэнта з прэзідэнтамі Латвіі, Эстоніі і Жамойці, а таксама з латвійскім прэм'ер-міністрам.

## ЯЗЫЧНІЦТВА ТЫДНЯ

Купалле — гэта самы вялікі дзень і самая кароткая ноч года. Сёлета гэта народнае свята прайшло ў ноч з серады на чацвер. Мінчукі гэтым разам адзначалі Купалле паблізу Вязынкі. Былі традыцыйныя песні, карагоды, скокі цераз вогнішча, купанне ў рацэ — усё, з чаго спрадвеку складаецца Купалле.

## ДОЎГ ТЫДНЯ

Паводле падлікаў спецыялістаў Нацыянальнага банка Беларусі, рэспублікі былога СССР завінаваціліся нашаму банку каля мільярда долараў.

## ХАМСТВА ТЫДНЯ

У газеце «Мы и время» за 4 ліпеня надрукаваны развагі сакратара ЦК КПБ В. Чыкіна аб выніках першага тура прэзідэнцкіх выбараў. Знерваваны тон публікацыі выдае жаданне камуністаў прадставіць сваю паразу перамогай. Перамогай іхніх ідэй. Не маючы ў сваім асяроддзі ніводнага прыстойнага дзеяча культуры, камуністы дазваляюць сабе хамскія выпады супраць тых, хто стаў у шэрагі Адраджэння, — супраць Быкава, Барадуліна, Мальдзіса. Як тут не прыгадаць байку Крылова пра Моську, якая рабіла свой палітычны імідж, гаўкаючы на слана.

## НАСІЛЛЕ ТЫДНЯ

Следчы Камітэт МУС узбудзіў крымінальную справу па факце нападу на фотакарэспандэнта газеты «Рэспубліка» Аляксандра Кушнера. Невядомыя ў цывільным перанялі А. Кушнера каля пад'езда ягонага дома, запхнулі ў чорную «Волгу», вывезлі за горад. Там, у прыдарожным ляску, учынілі журналісту допыт. Іх цікавіла, як А. Кушнер апынуўся ў Доме ўрада адразу пасля інцыдэнта Лукашэнкі з міліцыяй, хто яму паведаміў пра гэта і г.д. Закончыўшы «інтэрв'ю», гэтыя невядомыя ўдарылі пад дых і ў патыліцу, «адключылі» фотакарэспандэнта і пакінулі ў ляску апрытомневаць. Дарагую фотаапаратуру, якую ён меў пры сабе, красці не сталі.

## ЗАПЫТ ТЫДНЯ

Арцыбіскуп Казімір Свёнтак звярнуўся да ўрада Беларусі з просьбай запрасіць у нашу краіну яшчэ пару дзесяткаў польскіх ксяндзоў. Паўстае пытанне: што, Польшча адзіная ў свеце краіна, дзе водзяцца ксяндзы? Тым больш, што дзейнасць польскіх каталіцкіх эмісараў на Беларусі, на жаль, далёка не заўжды стасуецца з дзяржаўнымі інтарэсамі Рэспублікі Беларусь.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

З пачатку ліпеня мінімальная заработная плата на Беларусі — 100000 рублёў. Але што такое сёння сто тысяч?

## КРЫМІНАЛ ТЫДНЯ

Як паведамілі «Известия» ў публікацыі «Лідэр мінскіх камуністаў спрабаваў увайсці ў рынак з 500000 бутэлек гарэлкі», апошні першы сакратар Мінскага гаркама КПБ Мар'ян Місуна ў хуткім часе павінен прадстаць перад судом. Яго абвінавачваюць у прысваенні 9 мільёнаў рублёў (у цэнах 1992 года).

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Лукашэнка—Кебіч: хто каго. Камуністычнае шоу на Беларусі працягваецца».

*(«Народная газета», 8 ліпеня)*

## «АДКРЫТАСЦЬ» ТЫДНЯ

Згодна афіцыйным звесткам, летась іншаземнымі грамадзянамі ў Беларусі здзейснена 1741 злачынства, што амаль у два разы больш, чым у папярэднім годзе. Колькасць адміністрацыйных парушэнняў перавысіла за 42000. На Беларусь распаўсюджвае свой уплыў наркамафія. Адна з прычын гэтага бязрадаснага становішча — адкрытая мяжа з Расіяй. Большасць злачынцаў трапляе ў нашу краіну з Усходу.

## АБЯЦАННЕ ТЫДНЯ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі М. Грыб ладзіў пасля святаў прэс-канферэнцыю. Сярод іншых яму было зададзена пытанне пра інцыдэнт на плошчы Перамогі 3 ліпеня. Спадар Грыб, які звычайна пазбягае рэзкіх і адназначных ацэнак, калі справа датычыць палітычных з'яў альбо падзей (чым крыху нагадвае асцярожнага Шушкевіча з ягонай «згодай»), назваў тое, што адбылося на плошчы, «дзікасцю» і абяцаў «разабрацца».

# І Я РАСКАЖУ ЯМУ...

*(Пачатак на стар. 1)*

Калоне, у якой пад дзяржаўнымі сцягамі Рэспублікі Беларусь і сцягамі краін антыгітлераўскай кааліцыі — Вялікай Брытаніі, Злучаных Штатаў, Францыі, разам з актывістамі і прыхільнікамі Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў і БНФ ішоў Георгій Уладзіміравіч, загарадзілі шлях людзі з чырвонымі і БССРаўскімі сцягамі. «Не пустим фашистов на площадь!», «Это ваш последний шабаш!» — чулася з іхняга натоўпу. А досыць вялікая група ветэранаў — гасцей свята, што з'ехаліся ў сталіцу па запрашэнні ўрада, заняла «абарончую пазіцыю» непасрэдна ля помніка і, мабыць, вырашыла «стаяць да канца». Пустымі пайшлі аўтобусы на Хатынь і Курган Славы, дзе планаваўся працяг афіцыйных цырымоній. Бо для гэтых невядома кім падбухтораных і арганізаваных людзей (юрыдычна абгрунтаваныя высновы можа зрабіць толькі следства і суд, я ж магу толькі здагадвацца пра тое, хто кіраваў натоўпам) прадэманстраваць нянавісць да сваіх палітычных апанентаў было важней, чым ушанаваць памяць герояў і ахвяр вайны.

Міліцыя замест таго, каб давесці нявыхаваным у прававым сэнсе грамадзянам, што такія выбрыкі ўвогуле недапушчальныя, а тым болей на дзяржаўным свяце, можа нават затрымаць найбольш актыўных хуліганаў, стала на іхні бок, узяла пад сваю абарону. Выконваючы загад са «штаба», які месціўся ў Саўміне. Ланцуг хуліганаў быў умацаваны буйным (у дзевяць шэрагаў) кардонам міліцыі. Адчуўшы падтрымку ўлады, людзі з Саюза афіцэраў і СС «Белая Русь» пачалі яшчэ мацней размахваць за спінамі міліцыянтаў бальшавіцкімі сцягамі, узнялі над галовамі свае лозунгі, сярод якіх быў і «Да здравствует Советский Союз!», задаволена смяяліся і лаяліся — карацей, адчувалі сябе героямі дня.

Каб спыніць гэты брудны спектакль, калона Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў і БНФ рушыла ад плошчы ў Купалаўскі парк, дзе



*Мінск святкаваў Дзень вызвалення*



*Загадана -- «не пушчаць!»*



*На адкрыцці мастацкай выставы, прысвечанай юбілею*

потым адбыўся мітынг. Да калоны далучыліся многія людзі з плошчы, якія перад гэтым з прыкрасцю назіралі за дзеяннямі ветэранаў ад наменклатуры. Такім чынам не давялося ў той дзень архітэктару Георгію Заборскаму пакласці кветкі да помніка, які ён калісь падарыў гораду і краіне, да помніка, які ён мае законнае і маральнае права называць сваім. На свяце, якое ладзіў урад, не знайшлося месца і іншым слаўным ветэранам — Васілю Быкаву, Мікалаю Крукоўскаму, Артуру Вольскаму, усіх не пералічыць...

Мне даводзілася чуць ад людзей, якія перажылі ваеннае ліхалецце, што пакуты неяк збліжалі, з'ядноўвалі людзей. Усведамленне, што мы ўсе разам вытрывалі і перамаглі, стварыла ў грамадстве абсалютна унікальны клімат. Людзі адчувалі сябе адзінай сям'ёю. Думаю, што ўсё было не так проста і адназначна, але вялікая доля праўды ў тых словах ёсць. Тым больш крыўдна бачыць, як праз 50 год пасля Вызвалення нехта будуе барыкаду паміж людзьмі, якім лёс вызначыў быць разам. Бо яны — людзі ваеннага пакалення.

3 ліпеня, калі прыйшоў на плошчу Незалежнасці, адкуль павінна было распачацца шэсце, я пашкадаваў, што не ўзяў з сабою сына. Хай бы, падумалася мне, мой дзевяцігадовы хлопец паглядзеў на свята: сонечнае надвор'е, ветлівыя людзі — старыя і маладыя, аркестр у прыгожай форме Узброеных Сіл Беларусі, бел-чырвона-белыя сцягі над калонай... А потым, ля плошчы Перамогі, я падумаў: добра, што ён застаўся дома, рана яму гэта бачыць. Хай святыя словы «Вызваленне» і «Перамога» будуць для яго пазбаўлены пакуль што якіх-небудзь адмоўных асацыяцый. Але калі-небудзь я раскажу яму пра 3 ліпеня 1994 года ў Мінску...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# СТРАЛЯЦЬ — ДЫК СТРАЛЯЦЬ!

Што ні кажыце, а ёсць нешта прывабнае ў знакамітай песні: «Сапраўдным мужчынам ваенная форма да твару...» Асабліва, калі сутыкаешся з палкоўнікамі, якім усяго-наўсяго сорак гадоў, з генераламі, чый узрост ненамнога старэйшы. А што ўжо гаварыць пра радавых і сяржантаў — васемнаццаці-дваццацацігадовых. Стройных, падцягнутых і з такімі юнымі тварамі, абветранымі на палігонах.

З імі давялося сустрэцца ветэранам вайны — пісьменнікам, мастакам, артыстам, журналістам, кампазітарам — прадстаўнікам усіх творчых прафесій у 120-ай гвардзейскай мотастралковай Рагачоўскай Чырванасцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава дывізіі імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Свой баявы шлях яна пачала ў сакавіку 1942 года, з баямі дайшоўшы ад Сталінграда да Берліна. І, вядома ж, вызваляла ад гітлераўскай погані беларускую зямлю.

Цяпер дывізія дыслацыруецца пад Мінскам. І годна працягвае традыцыі тых, хто нёс яе сцяг у франтавых умовах. А служаць у ёй ужо ўнукі і праўнукі франтавікоў. Дарэчы, як стала вядома, тут праходзіў сваю двухгадовую службу, прызваны з запасу, і... Аляксандр Лукашэнка.

Парадак у Рагачоўскай — ідэальны. Ды, калі па шчырасці, нешта большае, чым парадак. У салдацкай сталовай, скажам, растуць самыя сапраўдныя пальмы. Пад іх шатамі снедаюць, абедаюць і вячэраюць байцы лепшай роты. А лепшых вызначае... спаборніцтва. Але, але, колішняе сацыялістычнае. Не абышліся без спаборніцтва? А і добра, што не абышліся, бо там, дзе парадак, там і сапраўдныя ўмовы для службы. Тут умовамі гэтымі задаволены, падалося, і салдаты, і афіцэры.

Усе яны шчыра віталі гасцей. Слова пра значнасць перамогі над фашызмам сказалі намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін, старшыня Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, Пятро Прыходзька, Мікола Аўрамчык, Паўлюк Пранузa, Аляксандр Капусцін, Алесь Махнач, Уладзімір Паўлаў. Паэты, да ўсяго, прачыталі і свае вершы, прысвечаныя народнаму падзвігу, памяці аб мінулай вайне.

А пасля госці знаёміліся з цяперашнімі абаронцамі Радзімы — салдатамі і сяржантамі суверэннай Беларусі. Баявое майстэрства прадэманстравалі дэсантнікі. Нічога не скажаш — хлопцы сапраўдныя майстры. Такія з гонарам выйдуць з самай складанай і небяспечнай сітуацыі.

Пабывалі ветэраны і ў парку, дзе агледзелі сучасную баявую тэхніку. Па тым, як распытвалі яны пра новае ўзбраенне, як цікавіліся баявымі характарыстыкамі танкаў, ракетных установак, як уважліва разглядалі аўтаматы, кулямёты, гранатамёты, адчувалася, што, нягледзячы на цяжар пражытых гадоў, ці не ўсе ў гэты момант у думках пераносіліся ў гады ўласнай маладосці, калі са зброяй у руках абаранялі Радзіму.

Трапілі госці і ў цір. У многіх узнікла жаданне пастраляць: ці не развучыліся, ці не страціла цвёрдасць рука, а вока — зоркасць? Як высветлілася, некаторыя з ветэранаў паказалі зусім неблагія вынікі. І. Шамякін, якому ўжо за семдзесят, на заўвагу генерала, як трэба страляць (з пісталета), амаль сур'ёзна адказаў: «Вось каб мне зенітку, дык успомніў бы маладосць!»...

Згаданая сустрэча — адна з шэрагу, што адбываюцца апошнім часам ў дзеячаў літаратуры і мастацтва з беларускімі воінамі. Гэтая прайшла па ініцыятыве двух міністэрстваў — Міністэрства культуры і друку і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Н. К.**

# НА ЗЯМЛІ ЎШАЦКАЙ, ЗЯМЛІ ПАРТЫЗАНСКАЙ

## ПРАЙШЛО СВЯТА ВЫЗВАЛЕННЯ І ПАЭЗІІ

Верталёты ўзнімаюцца ўсё вышэй і вышэй. Праз некаторы час вінтакрылых машын ужо не відаць, толькі недзе далёка ў паднябессі чуецца слабы рокат. Яшчэ імгненне і наўкол запанавала цішыня. Сотні людзей — асабліва нецярплівыя хлапчукі — узіраюцца ўверх, чакаючы, калі, нарэшце, пакажацца першы парашутыст. І вось з'явілася маленькая кропачка, яна расце літаральна на вачах.

Так на стадыёне Ушацкага леспрамгаса пачаліся паказальныя выступленні Віцебскага абаронна-спартыўнага таварыства. Скокнуць першым гонар выпаў... неаднаразоваму чэмпіёну Рэспублікі Беларусь Андрэю Навумаву. Ён апусціўся на поле стадыёна з Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь. Шматметровае бел-чырвона-белае палотнішча трапятала, надаючы мерапрыемству, якое мелася адбыцца, надзіва ўрачысты, па-сапраўднаму святочны характар. Пасля былі і іншыя выступленні віцебскіх парашутыстаў — хлопцы паказвалі віртуознае майстэрства. І ўсё ж найбольш запаў у памяць той першы прыжок, які нагадаў: свята вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў праводзіцца на дзяржаўным узроўні.

Свята гэтае як у той песні, са слязамі на вачах. Шмат перажыла пакутная Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Кожнага свайго чацвёртага сына страціла. А Віцебшчына — трэцяга. Ушаччына, кажуць, нават кожнага другога.

У гады вайны яна была цэнтрам Полацка-Лепельскай партызанскай зоны. Ушачы фашысты, праўда, занялі яшчэ 3 ліпеня 1941 года, аднак доўга пратрымацца не змаглі. У канцы верасня сорак другога пасёлак быў вызвалены народнымі мсціўцамі. У раёне аднавілася Савецкая ўлада. Вясной жа 1944 года, калі Чырвонай Арміяй вялася падрыхтоўка да Беларускай наступальнай аперацыі «Баграціён», у гэтай зоне дыслацыравалася 15 партызанскіх брыгад і адзін полк, а ў агульнай колькасці гэта больш за 17 тысяч чалавек. Фашысцкае камандаванне, каб разграміць партызан, ачысціць ад іх свае тылы, вясной 1944 года правяло карныя аперацыі «Лівень» і «Веснавое свята» (наколькі цынічная назва!). Дваццаць пяць сутак адбівалі абаронцы варожыя атакі, але гітлераўскае кальцо звужалася. 4 мая фашысты захапілі Ушачы, спалілі 147 дамоў, знішчылі 735 жыхароў. Лютавалі ворагі і ў іншых населеных пунктах. Але партызанам у ноч на 5 мая ўсё ж удалося прарваць блакаду каля вёсак Новае Сяло, Палерына і Пліна. Было выведзена з акружэння каля 15 тысяч чалавек мірнага насельніцтва.

А тысячы і тысячы загінулі. У тым ліку і камбрыгі Героі Савецкага Саюза А. Данукалаў і П. Рамана, камандзіры партызанскіх брыгад У. Гіль-Радзіёнаў, Д. Караленка, начальнікі штабаў А. Ізафатаў, У. Аляксандраў...

Сёння на месцы прарыву брыгады — мемарыяльны комплекс, што так і называецца — «Прарыў». Быў ён адкрыты 30 ліпеня 1974 года. Аўтар — скульптар А. Анікейчык, архітэктары Ю. Градаў і Л. Левін. З таго часу ні адна ўрачыстасць у раёне не адбываецца без наведвання гэтага месца ГЕРАІЗМУ, НЯЗЛОМНАСЦІ ДУХУ І СМУТКУ. Так было і гэтым разам, калі Ушачы адзначалі 50-годдзе свайго вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і адначасова праводзілі свята паэзіі.

«Прарыў» непадалёку ад Ушач, за нейкіх сем кіламетраў ад раённага цэнтра. 29 чэрвеня сюды, да памятнага месца паміж вёскамі Новае Сяло, Палерына і Пліна, накіраваліся дзесяткі аўтобусаў, легкавушак. Суцэльная калона ішла па шашы. А ў машынах — пераважна ветэраны. Былыя байцы і камандзіры дзеючай арміі, партызаны і падпольшчыкі. З Ушацкага і суседніх раёнаў, з цяперашняга так званага бліжняга замежжа. Усе яны маюць дачыненне да колішніх тут падзей. Хто не адны суткі правёў у блакадзе, страціўшы спадзяванне, што выжыве, ды нейкім цудам уратаваўся. А хто, юнаком прызваны ў армію, пад Ушачамі прымаў першае баявое хрышчэнне.

Апошнія метры да мемарыяльнага комплексу. Цяжкія яны для ўчарашніх партызан. Гэта ж забетанаваны той адрэзак шляху, якім яны ішлі на прарыў пяцьдзесят гадоў назад! Як і тады ўсё. Толькі — няма свісту куляў, выбухаў снарадаў, стогну раненых...

Позірк запыняецца на бронзавай пліце, на якой схема абароны і словы: «Партызанскія злучэнні Полацка-Лепельскай зоны пасля працяглых жорсткіх баёў з фашысцкімі карнікамі ў маі 1944 г. каля вёсак Пліна і Палерына здзейснілі легендарны прарыў варожай блакады. Іх было 17185 супраць 60000. Мужнасць народа перамагла смерць і стала бяссмерцем».

А далей шлях сціскаюць разарваныя шэрыя бетонныя сцены, што сімвалізуе прарыў блакады. Бронзавая фігура партызана з аўтаматам у руцэ. Аднаго з тых, хто выстаяў. І пліты, пліты з прозвішчамі загінуўшых. На адной з іх значыцца і прозвішча бацькі народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна Івана Барадуліна.

Тут, на мемарыяльным комплексе «Прарыў», адбыўся ўрачысты мітынг-рэквіем. Ціха шэпчуцца на пагорку 16 дубоў, што нагадваюць пра шаснаццаць партызанскіх брыгад, якія не скарыліся ворагу. А над наваколлем чутны словы ўдзячнасці тым, хто заплаціў за перамогу сваім жыццём.

А раней у гарадскім Доме культуры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 50-годдзю вызвалення. Прысутных вялікай праграмай парадаваў хор ветэранаў вайны і працы — таксама юбіляр, яму сёлета споўнілася 10 гадоў. А за некалькі гадзін да мітынгу-рэквіема на комплексе «Прарыў» адбылося ўскладанне гірлянд славы і кветак да помніка загінуўшым воінам і партызанам ва Ушачах.

... Урачыстасці ж на стадыёне — як працяг свята. Выступаў ваенны духавы аркестр, удзельнікі мастацкай самадзейнасці, пісьменнікі з Мінска, віцебскія і ўшацкія літаратары. Увогуле, мерапрыемствы так былі і задуманы, каб паяднаць два святы — вызвалення і паэзіі. Гэта асабліва адчулася ў броўкаўскіх Пуцілкавічах. Госці ўсклалі кветкі да стэлы, устаноўленай на месцы, дзе стаяла хата маці П. Броўкі, якая, як вядома, загінула ў гады вайны ў фашысцкім канцлагеры. З цікавасцю пазнаёміліся з экспанатамі хаты-музея паэта. Мелі гутаркі з жыхарамі вёскі, калгаснікамі калгаса «Новае жыццё» імя П. Броўкі. Чыталася паэзія і проза. Ды і без святочнага канцэрта не абышлося...

На працягу двух дзён перад жыхарамі горада і раёна выступалі старшыня Ушацкага райвыканкама І. Бурунаў, намеснік старшыні райвыканкама, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь У. Хвошч, міністр экалогіі Рэспублікі Беларусь А. Дарафееў, які зачытаў віншаванне Старшыні Савета Міністраў В. Кебіча. І, вядома ж, літаратары — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Алесь Махнач і Аляксей Слесарэнка, Генрых Далідовіч, Яўген Каршукоў, Леанід Левановіч, Пятрусь Макаль, Браніслаў Спрынчан, Уладзімір Скарынкін, сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Салтук, Галіна Варатынская, Навум Гальпяровіч, Алесь Жыгуноў, Аляксандр Пухаеў (ён цяпер жыве ў Віцебску), Уладзімір Сауліч і іншыя.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## *Кветка жаданьняў*

Колеру шчасьця чароўную кветку
шукалі прадзеды, шукаем і мы.
Сьвята Яна, Купальле запрашае на баль маладосьці.
Лета ў вянку харастваǃ
Прырода мудра трымае раўнавагу любові і духу.

Вітаем усіх, хто гатовы шукаць і знаходзіць,
у каго расьцьвілі краскі шчырых пачуцьцяў і думак.




Пошта

# НІ ГОРДАСЦІ, НІ ГОДНАСЦІ

## ПРА БЕЛАРУСКІ МАНКУРТЫЗМ У АДНОЙ РАСІЙСКАЙ ТЭЛЕПЕРАДАЧЫ

Маскоўская тэлекампанія «Мір» 26 чэрвеня гг. паказала па астанкінскім канале саракахвілінную перадачу «Дорога: Россия — Беларусь». Мне адразу ж падалося, што рыхтавалася яна да нашых прэзідэнцкіх выбараў, адно што прыпазнілася з эфірам. Прынамсі, змест яе цалкам адлавядаў пазіцыі і праграме кандыдата-прэм'ера, стратэгічным планам беларускага ўрада ў цэлым. І хоць аўтары — за кадрам — падкрэслівалі забаўляльны характар перадачы, палітыкай тхнула ў ёй амаль з кожнага інтэрв'ю, амаль з кожнай песні. Дый песень, якія ўжо традыцыйна суправаджаюць агітацыю за любога кандыдата, прагучала ўсяго чатырыпяць — што ж тут забаўляльнага?

А між тым удосталь «назабаўлялі» расійскага, беларускага ды іншага тэлегледача угодніцкія, калі не сказаць лёкайскія, пасажы пераважнай большасці «давальшчыкаў» інтэрв'ю з Беларусі маскоўскаму тэлебачанню: «зорак» эстрады, іншых прадстаўнікоў нашай культуры, а таксама не менш вядомага старшыні калгаса, работнікаў аднаго з заводаў Смаргоні, нарэшце «жены военного». Зладжаны, я вам скажу, атрымаўся хор! Шматгалосся не было: усе, за выключэннем хіба што Ігара Лучанка, які трымаўся ўсёткі дастойна, цягнулі адну і тую ж сумнавядомую «песню» — аб тым, што мы, беларусы, не толькі «не можем без России», але і не ўяўляем сябе людзьмі на сваёй пракаветнай зямлі.

Нават дзіўна, што ў назве перадачы наша рэспубліка стаіць другой: дарога ж намячаецца палітыкамі ў адваротным кірунку — гэта ж Беларусь павінна прайсці па рублёвай ці яшчэ якой зоне, каб далучыцца да Расіі. Кажу «палітыкамі», але і прадстаўнікамі нашай інтэлігенцыі — таксама. «Да какое мы государство? — наіўна ці, хутчэй за ўсё, саркастычна задае рытарычнае пытанне Зоя Луцэвіч, студэнтка мінскай мастацкай вучэльні. — Смешно!» І смяецца на ўвесь экран... Сумняваецца ў суверэннасці сваёй дзяржавы і папулярны эстрадны спявак Анатоль Ярмоленка, запабягаючы ўласным разважанням агаворкаю «если», бо, маўляў, усе мы «в Стране Советов родились». Ну, а ў ягонага калегі Аляксандра Ціхановіча сумненняў няма ніякіх: «Нужна одна мощная страна с одним президентом...»

Прыкра, а часам і агідна было слухаць і пазіраць, як удзельнікі перадачы проста са скуры вылузваліся, каб дагадзіць яе стваральнікам (і заказчыкам?). «Все издержки белорусской независимости налицо!» — азіраючы смаргонскі завод, рэзюмуюць аўтары гэтай тэндэнцыйнай і гвалтоўнай «Дороги: Россия — Беларусь». «Ага, ага», — ківаюць галовамі маладыя работнікі завода, а той жа Анатоль Ярмоленка праз некаторы час даводзіць іхняе «ага» да абсурду: «Сейчас хуже, чем было при революции...» Бясконца мусолілася адзіная, нібыта, прычына ўсіх нашых бедаў — развал СССР, страта сувязей паміж рэспублікамі: як вытворчых (старшыня калгаса Віктар Верамейчык), так і творчых (мастачка Тамара Сакалова). Складвалася ўражанне, што мы — і галоўныя віноўнікі разбурэння, і самыя большыя ягоныя ахвяры. Наогул, самыя-самыя бядотныя, нікчэмныя, бездапаможныя.

А вяршыняю ўсяго гэтага палітычна-забаўляльнага шоу стала цынічнае прызнанне той жа студэнткі З. Луцэвіч (як і ўсюды, паўтаруся, цытую з нататніка): «Я какая-то праправнучка белорусского поэта Янки Купалы, но на английском языке мне легче говорить, чем на белорусском». І пры гэтым столькі фанабэрыі, столькі самалюбавання! Трэба было бачыць. Ды крыўдна мне зрабілася не за вялікага нацыянальнага паэта — вялікім ён не перастане быць нават калі забронее і дваццатае вада на кісялі, — крыўдна за «простачалавека», майго сучасніка, які не тое што не шануе адзінакроўнага (!) продка, а і здзекуецца з яго. Манкуртызм у найвышэйшай ступені.

Кажу адносна ўсіх удзельнікаў шоу-перадачы: якія б у каго ні складаліся палітычныя, нацыянальныя, творчыя погляды і сімпатыі, а да такога прыніжэння апускацца нельга. Не пa-людску гэта, амаральна. Перадача «Дорога: Россия — Беларусь» (чаму, уласна, не Белоруссия?) акрэсліла якраз дарогу ў нікуды, да поўнага духоўнага спусташэння.

Дарэчы, не знайшлося ў той мэтанакіраванай перадачы месца для інтэрв'ю хаця б аднаго беларускага пісьменніка. Невыпадкова: манкуртаў у пісьменніцкіх шэрагах трэба ўсё ж пашукаць.

Не, не ўвесь быў беларускі «квет» у расійскай тэлеперадачы, і гэта — крыху — суцяшае таксама. Аптымізму дадае, у прыватнасці, тое, што на завяршэнне перадачы, за кадрам, прагучала цудоўная песня на верш Зянона Пазняка «Ave Maria», якая можа стаць, на маю думку, гімнам беларускага Адраджэння. Вось толькі самога аўтара ні тэлежурналісты, ні выканаўцы песні (А. Ярмоленка) так і не назвалі. Не рашыліся...

**Алесь КАСКО**

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ?!

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў устанавіць з 1 ліпеня 1994 года мінімальную заработную плату ў памеры 100 тысяч рублёў, а тарыфную стаўку першага разраду — 110 тысяч рублёў. Акрамя таго, з 1 жніўня сёлетняга года для асноўных катэгорый спецыялістаў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, адукацыі, культуры, мастацтва, навукі, фізічнай культуры і спорту, якія фінансуюцца з бюджэту, уводзяцца надбаўкі за стаж: ад 5 да 10 гадоў — 10 працэнтаў, ад 10 да 15 гадоў — 15 працэнтаў і звыш 15 гадоў — 20 працэнтаў службовага акладу.**

**З 1 жніўня 1994 года штомесячныя даплаты ў памеры мінімальнай зарплаты атрымаюць работнікі, якія маюць вучоную ступень кандыдата навук і асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца арганізацыі навукі, адукацыі, аховы здароўя, культуры, органы дзяржаўнага кіравання і ўлады, фінансуемыя з бюджэту. Павялічваюцца даплаты дактарам навук, якія працуюць у арганізацыях культуры, што фінансуюцца з бюджэту.**

**Канешне, грошы сёння абясцэньваюцца з кожным днём. Тым не менш, хоць нейкая падтрымка...**

**Дык будзем жыць, работнікі культуры?!**

## АТРЫМАЙ ЗВАННЕ І...

**хоць крыху па-людску жыць станеш, таму што цяпер прадугледжаны пэўныя льготы тым, хто мае заслугі перад дзяржавай. Прынамсі, нядаўна старшыня Мінскага гарвыканкама А. Герасіменка ўручыў першыя пасведчанні на права пенсіі за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь. Сярод тых, хто атрымаў іх, — народная артыстка СССР Стэфанія Станюта, народны артыст СССР М. Яроменка, народныя артысты Беларусі Іосіф Вейняровіч, Павел Кармунін, Галіна Арлова, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін і іншыя.**

## ТАМ, ДЗЕ БЫЛО ГЕТА



**У Мінску, на месцы, дзе ў гады фашысцкай акупацыі было шматпакутнае яўрэйскае гета, гэтымі днямі ўстаноўлены мемарыяльны знак. У цырымоніі, прысвечанай гэтай падзеі, прынялі ўдзел прадстаўнікі сталічнай грамадскасці, былыя, цудам ацалелыя, вязні гета.**

*Фота Г. СЯМЁНАВА (БЕЛІНФАРМ)*

## І АД «ЛУЧЫНКІ» ЯРКАЕ ПОЛЫМЯ...

**Восемдзесят гадоў назад у Мінску выдаваўся літаратурны і навукова-папулярны часопіс для моладзі «Лучынка». Выйшла ўсяго шэсць нумароў, а след іх прыкметны, бо «Лучынка» асвятляла ніву нацыянальнага Адраджэння. З публіцыстычнымі артыкуламі на старонках часопіса выступалі Цётка, Л. Гмырак, А. Уласаў, які з'яўляўся рэдактарам-выдаўцом. Старонкі «Лучынкі» — гэта вершы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Арла, А. Паўловіча і іншых аўтараў, навелы Я. Коласа, З. Бядулі, Ядвігіна Ш.**

**Часопіс змяшчаў навукова-папулярныя нарысы, прапагандаваў народныя песні, гульні. Клапаціўся, каб чытачы лепш знаёміліся з жыццём Бацькаўшчыны. Дзеля гэтага публікаваліся краязнаўчыя артыкулы.**

**Рэдакцыя мела намер шырока заняцца і выдавецкай дзейнасцю. На жаль, многія задумы не ажыццявіліся. Удалося толькі ў тым жа 1914 годзе выпусціць зборнік апавяданняў.**

*Пошта*

# СОРАМНА ПЕРАД НАШЧАДКАМІ...

Калі меркаваць па выніках першага тура прэзідэнцкіх выбараў, то можна зрабіць адназначную выснову: наш народ большасцю галасоў, аддадзеных за «нястомнага барацьбіта з мафіяй і карупцыяй», пацвердзіў, што ён не супраць страты свайго суверэнітэту, сваёй незалежнасці, сваёй нацыянальнай годнасці. Аж мароз працінае, калі ўяўляю раптам, што ў другім туры выбараў гэты «крестьянский сын» выйдзе пераможцам, а ягоныя памочнікі, твары якіх мы часта бачылі на тэлеэкране, зоймуць высокія пасады.

На душы прыкра і балюча: маім суайчыннікам хочацца, каб намі кіравалі блазны. Нікога не палохае перспектыва стаць расійскай калоніяй, бязмоўным племем, бязроднымі Іванамі. Чамусьці верыць зняверaны народ у «рублёвую зону», дзякуючы якой па Беларусі пацякуць малочныя рэкі ў кісельных берагах і імгненна палепшыцца наш дабрабыт.

А мне сорамна перад нашчадкамі, а таксама перад маімі папярэднікамі, якія цярпелі здзекі, гвалт, прыніжэнне ў імя святой мэты — людзьмі звацца. Дзеля таго, каб мы помнілі пра сваё паходжанне, выдаваў на беларускай мове царкоўныя кнігі Францішак Скарына, пайшоў на шыбеніцу Кастусь Каліноўскі, клікаў ачуняць ад духоўнага бяспамяцтва Францішак Багушэвіч, раскрывалі перад намі гістарычную праўду Уладзімір Караткевіч і Мікола Ткачоў, даследуе старадаўнія манускрыпты Мікола Ермаловіч, голасам прарока прамаўляе да нас Зянон Пазняк... Ды чамусьці аглухлі і асляплі мы, свядома дазваляем ачмураць сябе пустымі, бязглуздымі абяцанкамі. А абяцанка, як кажуць у народзе, цацанка, а дурню — радасць. І ніхто з тых, што вырашылі даверылі свой лёс «палымянаму змагару», не задумаўся, не разважыў над тым, чаму ён аддае голас за чалавека, які выракаецца сваіх каранёў, які забыўся на тое, на якой мове люляла яго маці. А яна ж, мусіць, верыла, што сын вырасце сапраўдным грамадзянінам, верным сынам шматпакутнай, не раз палітай крывёю зямлі з прыгожым рамантычным найменнем — Беларусь. Ні адну маці, якая апускала свой бюлетэнь з пакінутым у ім прозвішчам менавіта гэтага кандыдата ў прэзідэнты, не спыніла нават тое, што ён гарачы прыхільнік дамовы аб калектыўнай бяспецы, а гэта значыць, што беларускія маці зноў будуць атрымліваць цынкавыя труны з гарачых кропак былога СССР, як калісьці з Афганістана.

Зусім не Зянон Пазняк, як заявіў у перадвыбарным марафоне адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду, з'яўляецца прадвеснікам вайны і крыві, а менавіта тыя, хто бачыць Рэспубліку Беларусь у складзе Імперыі, хто дзеля сваіх карыслівых мэт цягне наш народ у даўгавую яму, рыхтуе змрочную будучыню наступным пакаленням. Менавіта змрочную будучыню, бо нічога добрага не прынясе народу прэзідэнт, які пагардліва ставіцца да нацыянальнай сімволікі і ў знак пратэсту (невядома: да каго?) носіць дэпутацкі значок неіснуючай дзяржавы. Я не хачу бачыць у ролі прэзідэнта чалавека, які не жадае звяртацца да народа, размаўляць з ім на роднай мове, а карыстаецца нейкім руска-беларускім моўным сурагатам. Такі прэзідэнт не будзе мець аўтарытэту ў свеце. Далёка яму ў красамоўнасці да Станіслава Шушкевіча, да Зянона Пазняка. Такі ўзровень культуры, як у іх, дасягаецца напружанай працай над сабой, высокай сілай волі, пачуццём усведамлення уласнай годнасці. Гэта не кожнаму па сіле, асабліва ж тым, хто ў чужым воку церушынку бачыць, а ў сваім бервяно не заўважае.

Вельмі шкада, што ў нашай рэспубліцы, якая, як меркавалася, стала на шлях пабудовы дэмакратычнага грамадства, дэмакраты не ў пашане. Ах, шаноўныя Станіслававічы — Станіслаў і Зянон, — чаму Вам было не аб'яднаць свае высілкі ў перадвыбарным марафоне, адкінуўшы пэўныя асабістыя амбіцыі, у барацьбе за будучыню, якой вартыя і Вы, і я, і мая дачка, і мой сын, і яшчэ мільёны сыноў і дачок нашай сінявокай Беларусі? Чаму нельга было аб'яднацца з Генадзем Дзмітрыевічам Карпенкам і разам шукаць шляхоў да шчасця нашай краіны, сарваць папараць-кветку, якая кліча да сябе ў Купальскую ноч, і асвяціць яе трапяткім святлом дарогу да будавання новай Беларусі?

Так, надакучыла ўжо блукаць у цемры, а шляхоў да святла ніхто пакуль не асвеціць. Ніводзін з двух прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва ў выпадку перамогі ў другім туры не стане той пуцяводнай зоркай, якая змагла б давесці нас да Беларусі. І ўсё ж

**Я не хачу пакуты бачыць сына,**
**Не трэба мне крывавых слёз дачкі.**
**Адумайся, прашу цябе, Айчына;**
**Народзе любы, прасвятлі мазгі:**
**Зусім не той табе патрэбны лідэр,**
**І шлях да лепшага жыцця другі...**
**Каму цяпер аддаць улады скіпетр?**
**Каму даверыць лёс дзяцей сваіх?**
**Ты не маўчы, калі шануеш памяць**
**Ахвяр, што распіналі на крыжы.**
**Адрынуўшы хлуслівых догмаў замець.**
**Радзіму для нашчадкаў зберажы.**
**Успомні гукі нашай роднай мовы**
**І калыханкі маці прыгадай:**
**Хай зорачкай зіхцяць паэта словы:**
**«Мову шануй і шануй родны край».**

Мой выбар — дэмакратыя, а не псеўдадэмакратыя. У першым туры я, як і большасць маіх землякоў-салігорцаў, аддала свой голас за Зянона Пазняка. У наступным туры я прыйду на выбарчы ўчастак толькі з адной мэтай — выкрасліць прозвішчы абодвух кандыдатаў, бо яны, на маю думку, не выведуць нашу краіну з эканамічнага крызісу. Яны — адваротныя бакі аднаго медаля і служаць адной справе — разладу ў сям'і беларусаў.

**Марыя МАЦЮКЕВІЧ,**
**настаўніца, старшыня Салігорскай аб'яднанай раённа-гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, сябра Рэспубліканскага сакратарыята ТБМ**

# ПАТРЭБНА ЛАЦІНКА БЕЛАРУСАМ

Даўно ўжо збіраўся напісаць і выказаць свае думкі наконт таго, ці маем мы патрэбу ў сваім лацінскім алфавіце ці не. Нейк пару год таму назад у вашай газеце (6 лістапада 1992 г.) быў надрукаваны артыкул спадара У. Маркевіча «Хоць я і не лінгвіст», дзе ён закранаў важныя, на маю думку, пытанні перадачы замежных асабовых назоўнікаў на нашу мову. А тут з'явіўся артыкул «Ці патрэбна лацінка беларусам» Уладзіміра Скрабатуна. Думаю, што гэта пытанне наспела і патрабуе грунтоўнага вывучэння, каб карыстацца сваімі сродкамі ў транслітэрацыі іншамоўных найменняў, а таксама быць прадстаўленымі ў чужых мовах, якія карыстаюцца лацінскім алфавітам, так бы мовіць, аўтэнтычна. І ў гэтым нам дапаможа беларуская лацінка.

На сённяшні ж дзень, як правіла, усе такія назоўнікі аўтаматычна бяруцца з рускай мовы і падганяюцца пад беларускую, хаця з пункту гледжання мовы ў дадзеным выпадку мы губляем шмат чаго істотнага: многія іншаземныя найменні мы б маглі больш дакладна і бліжэй да арыгінала перадаць па-нашаму. Напрыклад, усе без выключэння словы, якія ўтрымліваюць у сабе дыфтонгі «аў, эў, оў, іў» (паўза, шоў, фаўна, Раў, раўнд ды шмат іншых), не ўяўляюць сабой аніякай цяжкасці ў вымаўленні, бо такія спалучэнні на кожным кроку сустракаюцца ў нашай мове. Тое, што ў рускай мове няма Ў нескладовага і там выкарыстоўваецца проста У для перадачы такіх дыфтонгаў, абумоўлена гістарычнымі законамі развіцця гэтай мовы. Як будуць перадавацца ў рускай мове нашы спрадвечныя імёны, прозвішчы, геаграфічныя ды іншыя асабовыя найменні, гэта таксама клопат навукоўцаў суседняй вялікай дзяржавы. Мы ж павінны дбаць насамперш пра тое, каб мець сваё адметнае аблічча ў чужых мовах, а таксама, каб іншамоўныя найменні гучалі ў нашай мове як мага бліжэй да арыгінала, а для гэтага нам толькі трэба зыходзіць з НАШАЕ мовы, выкарыстоўваючы яе ўнутраныя сродкі.

Зараз я выкажу думку, якая наўрад ці можа быць ажыццёўлена сягоння, але прыйдзе час, калі гэта стане нормай нашага друку, перш за ўсё. Было б цудоўна і лагічна, калі б побач з беларускай транслітэрацыяй іншаземнага асабовага назоўніка ў дужках давалася б арыгінальнае напісанне, напрыклад, Алвару Куньял (Alvaro Cunhal), Джульё Андрэоці (Giuglio Andreotti), Жэшуў (Rzeszow), Паневяжыс (Panevezys) і інш. У некаторых выданнях гэта робіцца, што значна спрашчае тую ж самую перапіску, альбо цытаванне замежных аўтараў. З кожным годам будзе ўсё больш людзей, якія будуць ведаць замежныя мовы, і нарэшце прыйдзе канец нашаму моўнаму невуцтву.

Што да лацінскага алфавіта для нашай мовы, то тут няма чаго доўга думаць: лацінка — гэта адна з галоўных спадчын беларушчыны. Ёсць некалькі варыянтаў яе, але заўсёды можна выбраць ці стварыць адзін, які б мог абслугоўваць напачатку такую сферу нашага жыцця, як запаўненне замежных пашпартоў для грамадзян Беларусі, а таксама напісанне шыльдаў у дзвюх графіках — кірыліцы і лацінцы. Так мы пацíху пачнём зыходзіць са сваёй мовы, а не суседняй.

Вядома, што шмат якія мовы, каб перадаць адзін і той жа гук, выкарыстоўваць розныя спалучэнні літар, каб перадаць гучанне іншаземнага слова. Там, дзе графіка падобная, праблемы звычайна не паўстаюць, бо словы перадаюць у арыгінальным напісанні, нават калі й вымаўленне іх адрозніваецца. Напрыклад, я доўга не мог уцяміць, які горад маюць на ўвазе партугальцы, называючы яго «Шызінаў», аказалася, што гэта «Кішынёў». Малдова перайшла на лацінскую графіку і іх сталіца пішацца «Chisinau» [Кішынэў], а ў партугальцаў спалучэнне «ch» чытаецца «ш». Такіх прыкладаў можна прывесці безліч, але гэта не мэта майго допісу.

Чаму я з'яўляюся прыхільнікам беларускай лацінкі? Я б сказаў, прыхільнікам абмежаванага выкарыстання яе. Прыйшлося мне на днях афармляць замежны пашпарт для хлопца-інваліда для паездкі ў Нідэрланды на аперацыю. Здавалася, няма нічога складанага, каб перадаць прозвішча Лёгкі. У пашпартнай справе ўжываецца французская мова, значыць трэба вышэйпамянёнае прозвішча перадаць, так бы мовіць, па-французску, гэта значыць, Legki. А нашы продкі пакінулі нам у спадак лацінку, якую самы раз ужыць тут — Lohki або Liohki. Справа ў тым, што асабіста ў мяне ўзнікае пытанне, а ці мэтазгодна ўжываць дзве асобныя літары (як у польскай мове), каб абазначыць мяккае і цвёрдае Л. Мо б хапіла аднаго L, а яе мяккасць паказваць іншымі сродкамі, але гэта тэма іншай гаворкі.

Пытанне беларускай лацінкі трэба вырашыць ужо сёння, каб пазбегнуць праблем заўтра. Бо тут нас чакае дзікая з'ява: у новых пашпартах, якія невядома калі будуць, бо, кажуць, яшчэ не завезлі друкарскае абсталяванне, дык у новых пашпартах кірыліцай будуць напісаны беларускія імёны і прозвішчы, а лацінкаю будуць напісаны хутчэй за ўсё іх рускамоўныя адпаведнікі. Бо нашы ж чыноўнікі, на маю думку, цягнуць з увядзеннем пашпартоў, спадзеючыся, што іх не трэба будзе ўводзіць — вернецца «единая и неделимая». Бо нас не міне хваля пашпартоў-пачвар, дзе будуць суседнічаць Зялёны/Zeleny (трэба б пісаць Zialony ці Ziaiiony), Чыж/Tchizh (трэба Cyz), Пятроў/Petrov (Piatrou). Сёння я бачу неабходнасць у правядзенні падрыхтоўчай работы з адпаведнымі службоўцамі службаў віз і дазволаў, дзе іх вучылі б карыстацца беларускай лацінкай, для чаго неабходна выдаць нармальныя даведнікі. А такі час ужо набліжаецца: «Народная газета» за 28—30 траўня напісала ў рубрыцы «Юра адкажа», што абсталяванне ёсць, а няма толькі патрэбнага друкарскага начыння. Бяда толькі, што калі апошняе з'явіцца, дык з-пад пяра, калі можна так сказаць у дачыненні да друкарак, выйдзе моўная мешанка. А гэтага ж можна не дапусціць.

Канешне, складанасці тут ёсць, але ж можна і гэта вырашыць, толькі крышку паварушыць мазгамі. У гэтым лісце мне б хацелася акрэсліць кола пытанняў, якія чакаюць свайго рашэння. Гэта кола можна і трэба пашырыць. То і ёсць мэта майго пісьма — праз дыялог з іншымі зацікаўленымі людзьмі прыйсці да станоўчага скутку ў гэтым пытанні.

Спадзяюся, што хоць не ўвесь, а частка з майго допісу будзе надрукавана, бо час вымагае развязаць гэта пытанне на карысць Беларускага Адраджэння.

**Алесь НІКАЛАЕЎ**, жыхар Светлагорска

Адраджэнне

***Напэўна, пасля выбараў прэзідэнта нельга ўжо будзе пісаць без «папраўкі» на іх вынікі. Татальная залежнасць ад палітыкі атруціла культурнае жыццё Беларусі. Грамадства палітолагаў і палітолагі-самавукі... Урэшце, збанкрутавана палітыка і перакручана паспалітае жыццё... Пытанне пра ўдзел-няўдзел у палітыцы тым часам набыло сафістычнае адценне: яно зацямняе больш сутнаснае, галоўнае пытанне пра тое,** ці павінны быць у прынцыпе **сферы, вольныя ад палітыкі.***

***Для Захаду такой сферай традыцыйна з'яўляецца сфера intelligibilis: інтэлігібельны абшар. Менавіта таму ў культурным топасе Еўропы арганічна пачуваюцца людзі — прадстаўнікі г. зв. суполкі «інтэлектуалаў». Для нас жа па сёння незалежнасць сферы розуму выклікае падазрэнне, і менавіта таму пытанне бясконца дыскутуецца. Між тым, ад Скарыны (і гэта ўмоўная кропка адліку) былі на Беларусі-Літве людзі, што займаліся звыклай еўрапейскай працай — філасофска-тэалагічнымі штудыямі, матэматыкай, мовазнаўствам... Была процьма каталіцкіх ордэнаў, выдавецтваў, таемных таварыстваў... Ды каб не было свайго напрацаванага падмурку мыслення, то ці паўсталі б у XX стагоддзі нашы Акадэмія навук, вышэйшыя навучальныя ўстановы, фундаментальная навука сусветнага класа? І, па сутнасці, наш татальна залежны ад ідэалогіі і палітыкі працаўнік «разумовага фронту» і ўвасабляў ідэю, прынцып intelligibilis — на свой, савецкі капыл...***

***І дзякуй Богу, што навука і думка пад нядаўнімі часамі на Беларусі не змарнелі; дзякуй Богу, што сёння мы можам спрачацца з нагоды гістарыясофскіх пытанняў, НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ вынікаў прэзідэнцкіх выбараў... Прэзідэнты прыходзяць і сыходзяць, а прага мыслення застаецца. І ніводзін «прэзідэнт», ніводзін «лад» ці «парадак» не вырашаць праблем чалавечай думкі. Яна сама, высілкамі нямногіх, праз смугу часу пасоўваецца сваім шляхам, пакідаючы на цаліку мовы ледзь прыкметныя баразёнкі (М. Хайдэгер)...***

***Ю. З.***

# «МОЖА БЫЦЬ, НАМ УДАСЦА ПРАГАВАРЫЦЬ ТРАДЫЦЫЮ»

## ГУТАРКА З ГІСТОРЫКАМ АНДРЭЕМ КІШТЫМАВЫМ

**—У «ЛіМе» ўвосень мінулага года друкаваўся вялікі гістарычны нарыс Вітаўта Чаропкі «Гісторыя нашага імя» — як бы ў працяг росшукаў, пачатых Міколам Ермаловічам (а нядаўна пабачыла свет і кніга нарысаў В. Чаропкі «Імя ў летапісе»). Звычайна такія, напаўнавуковыя — напаўмастацкія, росшукі магчымы, калі ёсць глеба, спрыяльная міфатворчасці — у адваротным выпадку прызнаецца нейкая асновалеглая, пануючая канцэпцыя (гісторыі) і затым толькі ўдакладняецца гістарычная прастора вакол яе. Што гісторыя Беларусі, сама Беларусь — для вас, спадар Кіштымаў: усё-такі рэальнасць ці ў большай ступені — міф?**

— Гісторыя Беларусі — рэальнасць, і рэальнасць настолькі суровая, што гэта і правакуе схавацца за міф. Дазволю сабе доўгую цытату з М. Кіселя: «Ухваляючы рамесныя вырабы, якія сведчаць публіцы толькі тое, што яна хоча чуць, публіка выяўляе сваё нежаданне разабрацца ў эмоцыях, якія сапраўды ёю валодалі. Не жадае пранікаць ва ўласныя пачуцці, таму што цьмяна прадчуе праўду і баіцца яе, баіцца, бо ўсведамленне сітуацыі запатрабуе прыняцця адказных рашэнняў, а плыць па цячэнні і лягчэй і прыемней. Плата за страх — душэўнае спустошэнне і паралізуючае пачуццё абыякавасці...»

На мой погляд, здольнасць да бязлітаснага самааналізу ёсць неабходная ступень у станаўленні нацыянальнай свядомасці. Поруч з самааналізам ідзе самаіронія. Нагадаю, што для станаўлення англійскай нацыі англійскі памфлет зрабіў не меней, чым Шэкспір. А Расія? Больш суровых слоў пра рускі народ, чым Радзішчаў, Пушкін, Герцэн, Салтыкоў-Шчадрын і філосафы Срэбнага веку, не казаў ніхто...

Мы хочам аздаравіць нацыю. Ідучы да сябе і ад сябе. Гістарычнае пазнанне — толькі адна з форм нацыянальнай свядомасці. Гэта лекі, лекі моцныя. А моцныя лекі нярэдка бываюць горкімі. Можна, канешне, выкарыстоўваць гісторыю, прыпраўленую пікулямі, але я аддам перавагу менш экзатычнаму: гісторыі ў чыстым выглядзе, аўтэнтычнаму прадукту. Папулярны сёння М. Ермаловіч, даючы ўласную карціну гісторыі Беларусі ад першавытокаў да аналізу поглядаў класікаў марксізму-ленінізму на Беларусь, акрэсліў гіганцкую гістарычную рамку ў 15 стагоддзяў. Далейшыя яго даследаванні ўнутры гэтай рамкі сутыкнуліся з непераадольнымі цяжкасцямі, сярод якіх рэзкае павелічэнне ліку гістарычных крыніц і прац і рост прафесійнага майстэрства беларускіх гісторыкаў...

**— Дарэчы, пра Ермаловіча. Вы, як не заангажаваны ніякім палітычным рухам навуковец, пэўна, можаце з неабходнай мерай крытычнасці выказацца адносна ролі і заслуг у навуцы гэтага даследчыка-самавука. Такім чынам, як успрыняты ўнутры гістарычнай навукі працы Міколы Ермаловіча, яго выказванні наконт нашай сярэднявечнай гісторыі? Як ацэньваеце яго ідэі асабіста вы?**

— Што ж, калі б не было на Беларусі Міколы Ермаловіча, яго трэба было б выдумаць. І калі пра яго будзе выдадзена кніга, дык назва для яе ўжо ёсць — «Па слядах аднаго міфа». Не дзеля крыўды Міколы Іванавіча скажу, што ён на сёння знаходзіцца па-за рамкамі афіцыйнай гістарычнай навукі і, на маю думку, можа ганарыцца тым, што не з'яўляецца прадуктам яе развіцця. Усё адбылося з дакладнасцю наадварот. Гістарычная навука ішла і ідзе сама па сабе, Ермаловіч — сам па сабе.

Грамадскі рэзананс артыкулаў і манаграфій М. Ермаловіча намнога перабольшыў рэагаванне на іх у навуковых колах. На яго працы практычна адсутнічаюць рэцэнзіі навукоўцаў, іх амаль не цытуюць, Ермаловіч застаецца па-за акадэмічнай і універсітэцкай гістарычнай навукай. Некалькі іранічных заўваг С. Думіна ў яго фундаментальным артыкуле «Другая Русь (Вялікае княства Літоўскае і Рускае)» і напалову прытоеная палеміка ў нядаўняй манаграфіі В. Насевіча «Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. Падзеі і асобы» (Мн., 1993) — вось, пэўна, і ўсё больш-менш істотнае са сказанага ў адрас Ермаловіча гістарыёграфамі.

Затое яго жыццё і погляды — улюбёная тэма беларускіх журналістаў. Тут з ім можа сапернічаць хіба што Лаўрэнцій Абэцэдарскі, з той толькі розніцай, што першага падаюць заўсёды са знакам плюс, а другога — са знакам мінус. І справа тут не ў тым, што Ермаловіч «пабранзавеў» — як-ніяк лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Лаўрэатаў у нас хапала ва ўсе часы, і Ленінскіх, і СССРаўскіх, і сваіх родных... Узважаная ацэнка гістарыяграфіі Ермаловіча ўскладняецца тым, што ў беларускай публіцыстыцы пануе міф аб ім, як аб чалавеку, якога «дзесяцігоддзямі не друкавалі, ганьбавалі і шальмавалі», і як аб аўтары толькі дзвюх кніг — «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытная Беларусь», — якія «вартыя іншых бібліятэк» ці «шматлікіх тамоў». У гэтым міфе адзінай праўдзівай рысай ёсць толькі «фанатычная апантанасць» М. Ермаловіча, — усё астатняе не адпавядае сапраўднасці. Напрыклад, свой першы твор М. Ермаловіч надрукаваў яшчэ ў 15 гадоў, а ў 1948—1959 гадах і з 1969 года да нашых дзён не было і года без з'яўлення яго публікацый.

На дылетанта звычайна робіць надзвычайнае ўражанне колькасць крыніц, выкарыстаных М. Ермаловічам, і ён поўніцца даверам да аўтара, не падазраючы, што яшчэ большая колькасць крыніц, супярэчных канцэпцыі М. Ермаловіча, не выкарыстана. Не бясспрэчна яго асноўнае сцвярджэнне наконт таго, што «Вялікае княства Літоўскае было поліэтнічнай дзяржавай, аднак па гісторыі свайго ўтварэння на тэрыторыі Беларусі, дзе знаходзіцца яе ядро, па панаванні ў ёй беларускай культуры і мовы яна была найперш беларускай дзяржавай». У гэтым сцвярджэнні спачатку гутарка ідзе аб этнічнай ацэнцы, затым — аб геаграфічнай, потым — аб культуралагічнай, а высновa з гэтага робіцца чамусьці палітычная.

Шырыня абагульненняў, катэгарычнасць меркаванняў, папулярызатарства і непасрэднасць у выказваннях набліжаюць працы М. Ермаловіча да першых зборных прац па гісторыі Беларусі В. Ластоўскага і У. Ігнатоўскага. Чытача вабіць палітызацыя і мадэрнізацыя гістарычнага матэрыялу М. Ермаловічам, у яго працах лёгка пазнаюцца сучасныя палітычныя прыхільнасці аўтара, ды праз тое паніжаецца іхняя навуковая вартасць. Тое, што ў іншых гісторыкаў падавалася як гіпотэза, меркаванне, у М. Ермаловіча нярэдка становіцца асноўным тэзісам.

Пераказваючы словы Пушкіна аб Карамзіну, можна сказаць, што старажытная Беларусь адкрыта Ермаловічам, як Амерыка Калумбам. Ермаловіч — наш апошні летапісец. Роля Ермаловіча ў аднаўленні гістарычнай памяці беларусаў падобная да ролі Карамзіна ў замацаванні гістарычнай памяці рускіх. Дарэчы, як ні дзіўна, можна знайсці падабенства і ў іх жыццёвых лёсах. Аднак Карамзін адначасна пасунуў наперад і гістарычную навуку, а Ермаловіч, ідучы шляхам Карамзіна, спазніўся на 150 гадоў.

Ермаловіч — пачынальнік школы інтуітывістаў у беларускай гістарыяграфіі. Ім уласціва найперш цікаўнасць да палітычнай гісторыі, праца з ужо выяўленым матэрыялам, схільнасць да гістарычнай гіпотэзы, суцэльнае аспрэчанне гістарычных аўтарытэтаў. Інтуітывістам уласцівы шлях ад уласнай канцэпцыі да фактаў, а не наадварот. Сярод установак гэтай школы выбарачнае стаўленне да праўдзівасці гістарычнага матэрыялу, калі крытэрыем ісціны робіцца яго адпаведнасць выбранай даследчыкам схеме. Падобны дагматызм набліжае іх да марксісцка-ленінскай школы гістарычнага аналізу.

У працах інтуітывістаў нараджаецца беларуская гістарычная міфалогія. Яны рэдка індывідуальныя, у іх няма месца гісторыі іншых народаў. Іх метадалагічны грунт годны толькі для разгляду беларускай гісторыі і не варты дзеля пашыранага і універсальнага выкарыстання. Паводле яго немагчыма даследаванне гісторыі як сусветна-гістарычнага працэсу.

Беларускія інтуітывісты — патрыёты. З лозунгам прапаганды беларускасці ў гісторыі яны прыйшлі да яе вывучэння, растварыліся ў ёй, і, можна сказаць, жывуць з ёю і ў ёй. Па маштабах мастацкага асэнсавання гістарычнай рэальнасці, хай нават на шкоду аб'ектыўнай рэальнасці, параўнацца з імі няма каму.

**— Ну добра, хай Ермаловіч інтуітывіст і патрыёт. Але хіба «інтуіцыя» і «патрыятызм» так несумяшчальныя з навукай? Цікава даведацца, хто тады з беларускіх гісторыкаў удае з сябе *сапраўднага* гісто рыка, «акадэміста» — у піку «інтуітывістам». Можа, дзеля таго, каб быць «акадэмістам» і «сапраўдным вучоным», якраз і трэба пісаць наўмысна нецікава, абыходліва, «надзейна»? Можа, дзеля таго трэба, каб цябе не чыталі не-вучоныя? А, можа, гэта сама «гісторыя» як прадмет досведу — нецікавая?**

— А можа не будзем глядзець на гісторыю як на даступную дзеўку, якая абавязана быць усім «цікавай»? Дарэвалюцыйныя расійскія публіцысты жанчын такога кшталту называлі «ахвярамі грамадскага тэмпераменту». Вось і гэтулькі любасная майму сэрцу гісторыя па-ранейшаму застаецца такой ахвярай грамадскага тэмпераменту. Што пішуць гісторыкі — па-ранейшаму цікавіць усіх. І ўпэўніць, якая гісторыя нам патрэбна, таксама карціць многім. Затое як жывуць сёння беларускія гісторыкі, у якіх умовах працуюць, — нікому не цікава. Узяць маё «роднае» XIX стагоддзе. На матэрыялах толькі двух нашых гістарычных архіваў, Мінскага і Гродзенскага, далёка не пойдзеш (ды і беларусіка ў нашых бібліятэках прадстаўлена далёка не поўна — вялікія прабелы ў наяўнасці дарэвалюцыйных выданняў і асабліва перыёдыкі). Значыць, трэба ехаць у Вільню, Санкт-Пецярбург, Маскву. А як? Нават у акадэмічным інстытуце ледзь хапае грошай на выплату даволі сціплага заробку, а фонду на камандзіроўкі фактычна няма. Ды і каму з суседзяў патрэбны нашыя «зайцы»? Плюс яшчэ плата за афармленне дакументаў на выезд (а ў перспектыве і плата за выкарыстанне архіўных спраў і за права працы ў архіве як замежнікам). Праўда, і беларускія архівы ўводзяць падобныя правілы, але канкрэтны даследчык ад гэтага не выйграе абсалютна нічога. Што ж тычыцца паездак на навуковыя канферэнцыі ў замежжа, дык найперш цікавішся, якія расходы бярэ на сябе той бок, што запрасіў.

Зрэшты, нават калі пошукавае поле гісторыка звузіцца да межаў Рэспублікі Беларусь, грунт для дапытлівага даследчыка застанецца. Гістарычны цалік Беларусі вялікі настолькі, што на ім хопіць месца і патрыётам, і інтуітывістам, і яшчэ шмат каму. Я за поліфанію ў гісторыі, але з адною ўмовай: гісторыю можна даследаваць, але нельга вынайсці. Нагадаю засцярогу аўтара «Апалогіі гісторыі» Марка Блока: «Не выключана, што калі-небудзь наша цывілізацыя адвернецца ад гісторыі. Гісторыкам варта было б над гэтым падумаць. Блага вытлумачаная гісторыя, калі не засцерагчыся, можа ў рэшце рэшт выклікаць недавер і да гісторыі, зразуметай лепш».

А праблема чытача для вучонага, на мой погляд, уяўная. Праўда, калі ў «тэхнароў» і прыродазнаўцаў чытач роўны самому навукоўцу, бо прафесіянал у іх сферы чытае прафесіянала, дык кола чытачоў гуманітарыя не абмежаванае нічым, апроч хіба межаў чалавечай цікаўнасці. Чыя ацэнка больш аўтарытэтная: калегі па рабоце ці таго, чыё знаёмства з гісторыяй абмяжоўваецца школьнай праграмай ды раманамі Дзюма і Пікуля? Не ведаю.

З іншага боку, няўжо ж сапраўдныя паэты — гэта тыя, каго паэты не чытаюць?..

Мне лёгка назваць сапраўднага гісторыка, «акадэміста», па вашай тэрміналогіі. Я быў асабіста з ім знаёмы. Гэта Мікалай Мікалаевіч Улашчык. Чалавек складанага лёсу, і не міфалагічнага, а рэальнага. Калі ў Міколы Ермаловіча быў рэпрасаваны бацька, дык Мікалай Улашчык сам пабыў у сталінскіх лагерах. Не меней складаным быў яго шлях у навуцы. Пачаўся ён у славутым, ужо амаль легендарным, Інстытуце беларускай культуры, закончыўся — у Маскве, у Інстытуце гісторыі АН СССР.

Ведалі ці не Ермаловіч і Улашчык адзін аднаго? Ведалі. Мікалай Мікалаевіч быў адным з першых чытачоў кнігі «Па слядах аднаго міфа», ацаніўшы рукапіс, па словах самога Ермаловіча, як недастаткова доказны. Затое потым Ермаловіч апублікаваў у «ЛіМе» знішчальную рэцэнзію на манаграфію Улашчыка аб беларуска-літоўскім летапісанні. Вось такое знаёмства...

Ці быў Улашчык патрыётам? Ды ўжо адно тое, што ён трапіў у першую хвалю рэпрэсій (неўзабаве пасля сканчэння Белдзяржуніверсітэта ў 1929 годзе), сведчыць аб многім. Бралі ў першую хвалю «зубраў» беларускага адраджэння — Мікалая Азбукіна, Антона Баліцкага, Гаўрылу і Максіма Гарэцкіх, Восіпа Дылу, Яўхіма Кіпеля, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча, Уладзіміра Пічэту, Дзмітрыя Прышчэпава, Аркадзя Смоліча, Аляксандра Цвікевіча... Калі ў гэтым мартыралозе знайшлося месца і для нядаўняга студэнта, то наўрад ці гэта было выпадковасцю. Ведалі каго і ведалі за што браць...

Сібірская высылка не астудзіла яго любові да Беларусі і яе гісторыі. Хоць працаваць яму на радзіме болей не давялося. Быў час, ужо ў 70-я гады, калі, як гавораць, тагачасны прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. Барысевіч быў прыхільнікам вяртання Улашчыка ў Мінск, ды тутэйшыя «карыфеі» гістарычнай навукі катэгарычна на тое не пагадзіліся.

Я добра памятаю горкія словы Мікалая Мікалаевіча аб тым, што ён многа разоў прасіў даць яму аспіранта з Беларусі — не давалі; аб тым, што ён сыходзіць, а нават архівы і картатэку перадаць няма каму. Гэта была размова ў яго кватэры, зусім побач з Беларускім вакзалам у Маскве пры канцы лістапада 1985 года — апошняга года яго жыцця.

Абсяг гістарычных інтарэсаў М. Улашчыка аграмадны: ад вытокаў летапісання да адмены прыгоннага права. Працы яго бездакорныя, навуковы, даведачны апарат — узорны. Канешне, у чыіхсьці вачах «Введение в изучение белорусско-литовского летописания» М. Улашчыка прайграе «Старажытнай Беларусі» М. Ермаловіча. Але там ёсць карпатлівая праца гісторыка, які цярпліва, крок за крокам, здымае павуціннe часу і смугу міфалогіі з мінуўшчыны, і вядзе за сабою чытача па гістарычную ісціну.

Ці была мова прац Улашчыка «наўмысна нецікавай»? Вось жа не! У іх і вострая палеміка, і строгая доказнасць суседнічаюць са строгімі па форме і арыгінальнымі па сэнсе высновамі. За якую тэму ні браўся Мікалай Мікалаевіч, рабіў ён справу грунтоўна і фундаментальна, без таго напалову іранічнага адцення, якое набыў гэты эпітэт сёння. А ўзяць яго пасмяротна выдадзены гістарычна-этнаграфічны нарыс «Была такая вёска» — аб сваёй роднай Віцкаўшчыне? Ды ніводзін беларускі пісьменнік,

(Працяг на стар. 12)

*__Да ведама:__ Кіштымаў Андрэй Леанідавіч. 39 гадоў. Гісторык, скончыў БДУ. Працуе навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі (аддзел гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя); публіцыст — пытанні геапалітыкі, унутранай і знешняй палітыкі Беларусі, гісторыі прамысловасці, прадпрымальніцтва і фарміравання навукова-тэхнічнай культуры Беларусі. Піша кнігу «Гісторыя прадпрымальніцтва на Беларусі».*



# ВЕТЭРАНАЎ ВІТАЛІ ВЫДАВЕЦТВЫ

**На працягу тыдня людна было ў Доме кнігі на праспекце Машэрава ў Мінску — розныя выстаўкі, экспазіцыі апошнім часам ладзяцца тут. Ды гэтая — «Старонкі мужнасці і славы» — адметная. Ці не ўпершыню так поўна былі прадстаўлены разам шматлікія выданні, прысвечаныя мужнасці і гераізму абаронцаў Радзімы, барацьбітоў з фашызмам, што друкаваліся з гадоў вайны па сённяшні дзень.**

**У цэнтры залы, пад шклом — унікальнае выданне: «Слуцкі пояс» А. Астрэйкі, паэтычны зборнік, выпушчаны ў гады вайны слуцкімі партызанамі. З цяжкасцю знайшлі партызаны паперу, пераплётныя матэрыялы, каб выдаць кнігу. Ды і афармілі яе, калі ўлічыць ваенныя ўмовы, няблага. І рабілася гэта не толькі па загадзе, але і з вялікай любові да Радзімы, якая была несумяшчальная з чымсьці дробязным, выпадковым...**

**Тады пытанне стаяла так: жыць, альбо памерці. Таму і падняўся народ на свяшчэнную Айчынную вайну з ворагам. У агульны строй барацьбітоў сталі і літаратары. Ваявалі на франтах, змагаліся ў партызанскіх атрадах, працавалі ў франтавым друку. І — гінулі ад фашысцкіх куль і снарадаў.**

**У мінулую пятніцу многія з іх, што выжылі, прыйшлі на выстаўку, пазнаёміліся з яе экспанатамі, а пасля сабраліся ў канферэнц-зале, дзе па ініцыятыве выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» прайшла сустрэча аўтараў гэтых выдавецтваў — удзельнікаў вызвалення Беларусі, партызанскага руху і падпольшчыкаў.**

**Звяртаючыся да прысутных, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч зазначыў, што ветэраны Вялікай Айчыннай вайны з'яўляюцца для нашай дзяржавы тым залатым запасам сумленнасці, мужнасці і мудрасці, які ні ў якім разе нельга згубіць. Толькі праз яднанасць пакаленняў можна ўпэўнена крочыць у заўтрашні дзень. Гісторыю трэба ўспрымаць такой, якой яна ёсць. Міністр падзякаваў ветэранам за іх ваенныя і творчыя справы.**

**Дырэктар выдавецтва «Юнацтва» Валянцін Лукша прывёў красамоўныя лічбы. За 14 гадоў выдавецтва выпусціла 1650 кніг, з іх амаль 160 прысвечаны барацьбе з фашызмам, а гэта — ці не дзесяць працэнтаў. «Юнацтва» пастаянна практыкуе выпуск патрыятычнай літаратуры сумесна з дзяржавамі блізкага і далёкага замежжа. У прыватнасці, дзве кнігі — «Ад школьнага парога» і «Пабрацімы» выйшлі на Беларусі і на Украіне. Плённыя кантакты ў «Юнацтва» з лодзінскім і славацкім выдавецтвамі.**

**Дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Серафім Андраюк, як адзін з беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў, якія пастаянна трымаюць у полі свайго зроку творы аб мінулай вайне, адзначыў, што тэма яе — ці не адна з асноўных крыніц нашай мастацкай літаратуры. Высокія духоўныя прынцыпы такіх кніг нездарма прываблівають да іх чытача. Асэнсоўваюць жа ўсенародны подзвіг пасняхова як самі ўдзельнікі падзей, так і тыя, хто перажыў вайну ў маленстве. Несумненна, што да перажытага будуць звяртацца і нашчадкі. Літаратура пра барацьбу з фашызмам — самая светлая, чыстая і адначасова балючая.**

**Ветэранаў са святам віншавалі загадчыкі рэдакцый выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва» Уладзіслаў Рубанаў і Уладзімір Карызна. Яны нагадалі аб неабходнасці беражліва ставіцца да пераасэнсавання падзей вайны, бо за імі — людскія лёсы, чалавечы боль, які не загойваецца з гадамі. У сувязі з гэтым узрастае патрэбнасць глыбокага і праўдзівага паказу розных аспектаў Вялікай Айчыннай.**

**І, безумоўна, слова бралі госці — Аляксандр Капусцін, Пятро Прыходзька, Артур Вольскі, Мікола Аўрамчык.**

**А ў заключэнне адбыўся канцэрт.**

# ВІНШАВАЛІ ПАЭТА

**Гаўрыла Шутэнка жыве, як вядома, у Навагрудку. Сюды і прыехалі госці з Мінска і Гродна, каб павіншаваць паэта-ветэрана з 70-годдзем. З прывітальнымі словамі да яго звярнуліся сакратар Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Д. Бічэль-Загнетава, Г. Пашкоў, галоўныя рэдактары часопісаў: «Зрок» — В. Люковіч і «Таварыш» — Б. Жанчак.**

**Шмат прачулых слоў пачуў юбіляр ад намесніка старшыні Навагрудскага гарвыканкама К. Алішкевіча, дырэктара культурна-асветніцкага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку М. Драздова, памочніка старшыні цэнтральнага праўлення БелТІЗа Т. Крутаўцовай, ветэранаў раёна...**

# СЛОЎНІК, ЯКОГА ДАЎНО ЧАКАЛІ

У 1993 годзе выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла двухтомную працу І. Лепешава «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» — першы даведнік, у якім фразеалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы падаецца поўна і ўсебакова. Ён змяшчае каля 6000 фразеалагізмаў (агульны памер абодвух тамоў — 127 друкаваных аркушаў). Пры існуючым разнабоі поглядаў на сутнасць фразеалагізмаў аўтар паслядоўна прытрымліваецца так званага «вузкага» разумення фразеалогіі. У слоўнік уключаны толькі такія ўстойлівыя звароты, якія маюць цэласны сэнс і ў сказе спалучаюцца са словамі (адзінствы і зрашчэнні). За межамі слоўніка аказаліся: словазлучэнні, у якіх адно слова мае фразеалагічна звязанае, а другое — свабоднае значэнне (тыпу *прасёлачная дарога, страх бярэ*); апісальныя дзеяслоўна-іменныя звароты *(аказваць дапамогу, даваць згоду)*; састаўныя тэрміны *(белы мядзведзь, лімонная кіслата)*; крылатыя сказы і непераасэнсаваныя крылатыя выразы (*прыйшоў, убачыў, перамог);* прыказкі *(яблык ад яблыні далёка не падае).* Такі прынцып адбору і навукова і практычна апраўданы, ён дазволіў сабраць разам выразы аднаго парадку, адной якасці — уласна фразеалагізмы, адмежаваўшы ўтварэнні іншага характару.

Безумоўна, гэту працу чакалі даўно. Яна патрэбная вучню і настаўніку, студэнту і выкладчыку, рэдактару і пісьменніку, дый наогул кожнаму, хто свядома карыстаецца беларускай мовай. Яна, бясспрэчна, стане прадметам шырокага аналізу, базай для напісання кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый.

Выхад слоўніка І. Лепешава — значная падзея не толькі ў грамадска-культурным жыцці Беларусі, але і вялікі ўклад у славістыку наогул. У асобных славянскіх народаў створаны падобныя працы, але яны відавочна ўступаюць слоўніку І. Лепешава. Дзеля параўнання можна адзначыць, што «Фразеологический словарь русского языка» пад рэдакцыяй А. Малаткова, напісаны чатырма аўтарамі, уключае звыш 4000 фразеалагізмаў (аб'ём — 87 друкаваных аркушаў). Двухтомны «Фразеологичний словник українськоі мови» Г. Удавічэнкі — усяго 36 аркушаў. Slownik frazeologiczny jezyka polskiego С. Скарупкі большы па памерах, але асноўную частку яго складаюць не ўласна фразеалагізмы, а розныя ўстойлівыя спалучэнні, аналітычныя назвы, прыказкі.

У асэнсаванні семантычнай структуры фразеалагізмаў І. Лепешаў пайшоў значна далей, чым яго папярэднікі. Многія выслоўі атрымалі больш шырокую семантычную характарыстыку, чым, скажам, у «Фразеологическом словаре русского языка» (ФСРЯ). Гэта, напрыклад, відаць з тлумачэння мнагазначных фразеалагізмаў.

Названыя вышэй рускі, польскі і ўкраінскі даведнікі з'яўляюцца тлумачальнымі. Прычым у С. Скарупкі тлумачальная частка артыкула досыць сціслая, а ў многіх выпадках наогул адсутнічае, што надае працы характар рэгістрацыйнага зборніка. Беларускі слоўнік не толькі тлумачальны, але яшчэ і сінанімічны і антанімічны. Чытач убачыць у ім багацце і разнастайнасць фразеалагічных сінонімаў, антонімаў, варыянтаў. Для прыкладу — невялікі артыкул:

АД ЗЯМЛІ НЕ АДРОС (-ЛА, -ЛІ). В*ык. і азн. Разм. Іран.* Ужыв. пры дзейн. са знач. асобы. Вельмі нізкага росту; малы. Сін.: ад гаршка паўвяршка; аршын з шапкай; жабе па калена; з вузел; кату па пяту; пад стол пяшком ходзіць, Ант.: з каломенскую вярсту; хоць <ты> сабак вешай *на кім.*

Акрамя таго, слоўнік бярэ на сябе функцыі акцэнталагічнага, арфаграфічнага, граматычнага і стылістычнага даведнікаў. Над кампанентамі ў фразеалагізме абазначана месца націску. Паказана напісанне фразеалагізму ў межах нормы. Паспяхова вырашана праблема стылістычнай характарыстыкі: аўтар пераконвае, што сэнсавая структура фразеалагізму ўключае ў сябе і стылістычнае значэнне, яно раскрываецца з дапамогай функцыянальна-стылявых і экспрэсіўна-ацэначных памет. Даецца вычарпальная граматычная характарыстыка: зменнасць ці нязменнасць марфалагічнай формы, спалучальнасць са словамі, сінтаксічная роля фразеалагізму ў сказе.

Без перабольшвання можна сказаць, што «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» — апошняе слова сучаснай славянскай фразеаграфіі, вялікае дасягненне вучонага. Гэта стала магчымым таму, што на працягу многіх гадоў І. Лепешаў паспяхова распрацоўваў тэорыю фразеалогіі і фразеаграфіі, аб чым сведчаць яго папярэднія кнігі: «Фразеалогія ў творах К. Крапівы» (1976), «Фразеалагічны слоўнік (1973), «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы» (1984), «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» (вып. І, 1981; вып. ІІ, 1993), «З народнай фразеалогіі. Дыферэнцыяльны слоўнік» (1991).

Навуковыя адкрыцці мінулых гадоў знайшлі ўвасабленне ў апошнім слоўніку: тут і новая тэорыя стылістычнага размежавання фразеалагізмаў, і выразныя крытэрыі адрознення сінаніміі і варыянтнасці (распрацавана ў доктарскай манаграфіі), і правілы выкарыстання знакаў прыпынку пры фразеалагізмах, і правілы напісання фразеалагізмаў (выкладзена ў асобных артыкулах), і інш. Напрыклад, слоўнік арыентуе на недапушчальнасць пастаноўкі коскі ў такіх структурах, як *ні жывы ні мёртвы, ні кала ні двара, і так і гэтак*, кваліфікуе як памылку ўжыванне вялікай літары ў фразеалагізмах з былым уласным імем *(куды макар цялят не ганяў, як швед пад палтавай)*. Пра ўсё гэта можна пачытаць у салідным уступе, дзе даецца канцэпцыя слоўніка і методыка яго ўкладання.

І. Лепешаў адзін зрабіў тое, што па сіле не кожнаму калектыву. Больш дваццаці гадоў ён «паляваў» на фразеалагізмы, уважліва прачытваў творы мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, рабіў выпіскі, збіраў картатэку, адначасова вывучаючы набыткі беларускіх, рускіх, польскіх, украінскіх і іншых даследчыкаў. Уражвае спіс крыніц слоўніка. Аўтару давялося прачытаць творы каля чатырохсот пісьменнікаў, не лічачы шматлікія перыядычныя выданні, калектыўныя зборнікі. Па сутнасці, «перабрана» ўся беларуская літаратура. Толькі на такім шырокім фактычным матэрыяле і стала магчымым стварэнне адносна поўнага слоўніка высокага навуковага ўзроўню.

Вучоны імкнуўся выявіць і паказаць усе фразеалагізмы актыўнага ўжывання, выключаючы жаргонныя і вульгарныя, якія сустрэліся ў розных пісьмовых крыніцах. Тут і спрадвечнабеларускія, і запазычанні, калькі і паўкалькі з іншых моў. На наш погляд, вартасць нарматыўнага слоўніка абсалютна не зменшылася б, каб асобныя выразы не трапілі на яго старонкі. Маюцца на ўвазе калькі і запазычанні, якія з'явіліся ў друку ў перыяд занядбання беларускай мовы, хутчэй за ўсё па недаглядзе ці з-за няўважлівых адносін да нацыянальных фразеалагічных рэсурсаў, напрыклад: *авалодаць сабой, божы адуванчык, у ажуры, не ў брыво, а ў вока, душа нараспашку, знімаць пенкі, вынь ды пакладзі, задняя думка, не ісці ў рахунак, бітая гадзіна, слізганне па паверхні* і інш. Перакладзеныя ці механічна перанесеныя пісьменнікамі, журналістамі з рускай мовы ў беларускую і не падмацаваныя традыцыяй ужывання, яны ўспрымаюцца як штучныя ўтварэнні і не ўпрыгожваюць, а, наадварот, засмечваюць родную мову.

Падводзячы рысу, з гонарам можна адзначыць, што мовазнаўчая навука папоўнілася яшчэ адной фундаментальнай працай, якая пакіне прыкметны след у беларусістыцы.

**М. ДАНІЛОВІЧ, Т. ТАМАШЭВІЧ,**
**кандыдаты філалагічных навук, дацэнты Гродзенскага універсітэта імя Я. Купалы**

# «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»: ЧАРГОВЫ ГОД

Як ні цяжка сёння з кнігавыданнем, тым не менш «Мастацкая літаратура» мяркуе выпусціць у наступным годзе 143 кнігі. Па раздзеле прозы гэта — «П'яная кніга, або Жоўты колер белага снегу» А. Асташонка, «Жар кахання» Г. Далідовіча, «Саксафон Чынгізхана, альбо «Хворыя грошы» Д. Падбярэзскага, «Апала» П. Пруднікава, «Ахвяры кахання» І. Сіняўскага, «Вось чурылавец пайшоў» В. Шырко і іншыя.

Па-ранейшаму прываблівае аўтараў раман. Ён даў назву і ўжо згаданай кнізе Д. Падбярэзскага, у якой прадстаўлены таксама апавяданні і аповесць. Раманы выдаюць У. Дамашэвіч («Не праспі сваю долю»), І. Капыловіч («Крумкач»), Я. Міклашэўскі (раман-даследаванне «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча»), А. Сульянаў («Блакітныя снягі»), У. Федасеенка («Мутныя росы»), С. Яновіч («Сцяна»).

А вось А. Наўроцкі замахнуўся на дылогію: плануецца выдаць у дзвюх кнігах яго раман «Імгненне», адпаведна часткі называюцца «Імгненне» і «Пекла». Як сведчыць анатацыя, «праз стагоддзі цягнецца «мапасанаўскі» бясконцы ланцуг інтымных збліжэнняў Мужчыны і Жанчыны. Галоўны герой дылогіі праходзіць праз пекла першай і другой сусветнай войнаў». Кніга ж В. Говара «Калі равуць быкі», што складаецца з рамана і аповесці, належыць да твораў, што калісь пісаліся ў шуфляду і толькі цяпер атрымалі права на жыццё.

Выйдуць і кнігі Б. Беляжэнкі «Крык у ціхай затоцы», У. Клімовіча «Той, хто будуе горад», М. Коўзкага «Доля праўды» (з гэтымі творамі вы знаёмы па лімаўскіх публікацыях), Г. Ланеўскага «Узгорак Перуна», А. Мінкіна «Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў», Н. Цыпіса «Іду і вяртаюся», В. Чаропкі «Перамога ценю»...

У серыі «Першая кніга празаіка» — зборнікі апавяданняў «Цэнзарскія нажніцы» С. Астраўцова, «Таямнічае сузор'е Рака» І. Валасевіча, раман М. Варавы «Прыватны выпадак».

Папоўніцца і серыя «Першая кніга паэта» — зборнікі «Споведзь арабіны» Н. Аксёнчык, «Шалёная ноч» А. Гуцава, «Стодзівы» А. Дэбіша, «Настальгія» М. Касцюкевіча, «Нябесная сірвента» А. Пашкевіча, «Апошні снег» В. Слінко. Увогуле, па раздзеле паэзіі чытача чакае сустрэча з прадстаўнікамі самых розных творчых пакаленняў. З новымі кнігамі выступаюць Э. Акулін, А. Бадак, М. Баравік, Т. Бондар, М. Бусько, П. Вераб'ёў, В. Вітка, Н. Гальпяровіч, Х. Гурыновіч, Х. Жычка, С. Каробкіна, І. Катляроў, М. Купрэеў, В. Куртаніч, В. Лужкоўскі, П. Макаль, Я. Малец, М. Маляўка, А. Разанаў, В. Ракаў, А. Русецкі, У. Скарынкін, В. Тарас, А. Чобат, С. Шах, М. Шэлехаў, Я. Яфімаў...

Калектыўную кнігу «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», што ахоплівае перыяд з 862 па 1918 год, напісалі У. Арлоў і Г. Сагановіч. Такі часавы прамежак аўтарамі абраны невыпадкова. Пад 862 годам летапісы ўпершыню згадваюць Полацак, а 25 сакавіка 1918 года, як вядома, была абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка.

Па раздзеле крытыкі і літаратуразнаўства выдаюцца «Вечнасць Млечнага Шляху» А. Асіпенкі, «Араты, які пасвіць аблокі» Р. Барадуліна, «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» А. Бергман, «Кніжнае і зямное» П. Васючэнкі, «Рыцары і паэты» С. Кавалёва, першы том выбраных твораў А. Луцкевіча, «Прысутнасць былога» У. Мархеля, «Прарок слова з Мсціслаўшчыны» (пра М. Гарэцкага) М. Мушынскага, чарговы зборнік «Скарыніч», «Успаміны пра Андрэя Макаёнка», «Скрыжаванні шляхоў адраджэння» К. Хромчанкі, «Таямніцы почырку» К. Шэрмана, «За архіўным парогам» Я. Янушкевіча.

«Мастацкая літаратура» выпусціць чарговыя тамы Збору твораў Ц. Гартнага, А. Зарыцкага, Я. Купалы. Распачынаецца выданне Збору твораў У. Дубоўкі, А. Кулакоўскага і Б. Мікуліча. Выдаюцца выбраныя творы А. Адамовіча, В. Адамчыка, Д. Бічэль-Загнетавай, С. Грахоўскага, В. Зуёнка, В. Карамазава, У. Караткевіча, Н. Кісліка, Р. Мурашкі, І. Навуменкі, А. Савіцкага, Б. Сачанкі, Д. Сімановіча, Я. Сіпакова, І. Чыгрынава...

Чарговымі кнігамі папоўняцца серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», «Спадчына», «Паэзія народаў свету», «Кніга перакладчыка», «Бібліятэка замежнай прозы», «Галасы беларускага замежжа», «Літаратурныя помнікі Беларусі», «Бібліятэка беларускай паэзіі» і іншыя.

Як паўторныя выданні значацца раман у вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці», кнігі «Перад аблічам неба» В. Жуковіча, «Віна» М. Кацюшэнкі, «Ключы ад сэрца» А. Палітыкі, «Доля-долечка» М. Парахневіча, «Чысты чацвер» У. Паўлава.

Запланаваны і аператыўныя выданні: чацвёрты выпуск зборніка «З гісторыяй на «Вы», аднатомнік Я. Коласа «Мой родны кут...», выбранае Н. Арсенневай «Яшчэ адна вясна» і багата ілюстраванае А. Кашкурэвічам выданне помніка сусветнай культуры «Новы Запавет нашага Гоcпада нашага Ісуса Хрыста» ў перакладзе А. Клышкі.

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданнне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).***

Уладзімір КАЛЕСНІК

# ШУКАЦЬ І ЗНАХОДЗІЦЬ ПРАЎДУ

1. Хочацца, як і раней, пісаць праўду, прафесійна аналізаваць набыткі і хібы літаратурнага працэсу, спасцігаць загадкі талентаў, складаныя характары, творчыя манеры самых цікавых мастакоў слова. Раней рабіць гэта было, здаецца, прасцей і спакайней: прафесійна падрыхтаваныя літаратуразнаўцы ведалі, што перш чым пісаць праўду, трэба яе знайсці, а каб шукаць і знаходзіць, неабходна валодаць метадамі і прыёмамі літаратурнага аналізу, якія выпрацавала сусветнае літаратуразнаўства. Чым лепш падрыхтаваны шукальнік, тым менш будуць чапляцца да яго ідэалагічныя наглядчыкі, бо гэтая гультайня нічога, акрамя пастаноў партыі аб літаратуры ды ідэалагічных кантычак, не ведала. Праўда, былі цяжкасці і навукоўцам з вывучэннем сакрэтаў зарубежнага літаратуразнаўства: прэсы з буржуазных краін амаль не паступала, а нашы, нават акадэмічныя выданні інфармавалі скупа, часам і перакручвалі сутнасць ва ўгоду контрпрапагандзе. На шчасце, мне дапамагалі польскія крыніцы. Польшча тады была акумулятарам заходняй думкі, прапагандыстам навінак, перадатчыкам сенсацый і сур'ёзных ведаў на славянскі кантынент. Кнігі і часопісы былі тады танныя, як трэскі, я сяк-так пачаў заводзіць сабе рабочую бібліятэку, дзе стаялі працы айчынных іншадумцаў, абазваных фармалістамі, а ў польскіх выданнях — еўрапейцы: мастакі слова і крытыкі, філосафы і вальнадумцы. Заставалася вініць толькі маці-прыроду, якая, можа, не дала дару інтуіцыі, які патрэбны, каб чытаць мастацкія творы пранікліва, ужываючыся ў кантэкст і падтэкст, а не па звычцы дабрадушнага чытача, які з кнігай адпачывае.

Памятаю, у аспірантуры, на перакурах у бібліятэцы мы, філолагі, пасмейваліся з калег, што пісалі дысертацыі па марксізме-ленінізме: «О, вам лёгка пісаць: навысмыкваў цытат з твораў Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, запісаў на асобныя паперкі, кінуў іх у рэшата, патрос, і — вышэй, як нумаркі латарэі. Выцягнуў — перапішы, вось і пачатак дысертацыі, потым нашкрэбай пару сказаў каментарыя ды зноў цягні. І так да канца, пакуль не насмыкаеш 250 старонак машынапісу. У вас усё правільна, а ў нас, патэнцыяльных нацыяналістаў, усё няпэўна, падазрона...»

Цяжкім, нават небяспечным у тыя часы быў для літаратараў другі этап дасягання праўды (ён ішоў за пошукам) — гэта апавяшчэнне праўды. Вось там і лавілі нас стражы ідэалагічных запаветаў, «рэзалі» рукапісы, раскідалі гранкі набраных тэкстаў, спынялі выхад кніг. Дайшло да такога абсурднага сцвярджэння, што праўду ведаюць усе, толькі выказаць яе баяцца. Я сутыкнуўся з пачосткай яшчэ аспірантам, ледзь не выключылі за ссылку на Ластоўскага. А з набору першай кнігі, напісанай на аснове дысертацыі, якую ўхвалілі і расхвалілі на абароне прафесары Гутараў і Ларчанка, а рэцэнзент Навуменка назваў таленавітай, рэспубліканскі ідэалагічны цэрбер загадаў: «Выразаць тры аркушы заходніцкай ерасі — або пад нож». Нават з кнігі «Пасланец Праметэя», прысвечанай левасектанцкаму партыйнаму функцыянеру і чуламу сем'яніну (цікавае спалучэнне), дырэктар «Юнацтва» загадаў выкінуць два крытычныя раздзелы, бо, маўляў, кніга выдаецца ў серыі «Слава твая, Беларусь» і моладзь нас не зразумее... «Аповесць пра Таўлая» заблакіравалі колішнія яго таварышы, сектанты, якія аказаліся героямі аповесці, але без арэолаў.

Вось так яно было: альбо-альбо. Даводзілася ўступаць і прыкрывацца догмачкамі. Аднак і тады, і сёння лічу самым важным не смеласць апавяшчэння праўды, а прафесійнае ўменне яе шукаць і знаходзіць.

Парэзаных цэнзурай і забракаваных тэкстаў было шкада, за ўступкі няёмка, суцяшаў сябе тым, што магу пражыць і не друкуючыся.

Хлеб надзённы я зарабляў выкладаннем літаратуры ў Берасцейскім педінстытуце, даводзілася чытаць усе літаратуразнаўчыя курсы — ад фальклору і старажытнай літаратуры да сучаснай, вёў курсы гісторыі эстэтычных вучэнняў і нарматыўнай эстэтыкі, спецкурсы па тэарэтычных праблемах літаратуры і выяўленчага мастацтва. Апошнія з названых курсаў чытаў на аддзяленнях беларускай і рускай літаратур. Міністэрства асветы так бязбожна скарачала наборы на нашу спецыяльнасць, абразала колькасць вучэбных гадзін, што кафедра, якой я загадваў, хадзіла пад пагрозай ліквідацыі. Дабіралі вучэбныя гадзіны на сумежнай, «рускай» кафедры, акрамя мяне, яшчэ два дацэнты. Нас падтрымлівалі калегі, салідарнасць пайшла на карысць: нашы лектары развеялі міф, быццам на беларускім профілі студэнты слабакі (деревенщина) і выкладчыкі горш падрыхтаваныя. Нагрузкі ў правінцыяльных педінстытутах былі многа большыя чым ва універсітэтах, а я супрацоўнічаў яшчэ з АН, пісаў раздзелы для акадэмічных выданняў гісторыі беларускай літаратуры, універсітэцкіх і педінстытуцкіх падручнікаў. Само сабою, займаўся літаратурнай крытыкай, пісаў нарысы, літаратурныя партрэты, эсэ, успаміны пра сустрэчы з паэтамі, водгукі на выставы мастакоў, папулярныя артыкулы для энцыклапедый, закрытыя рэцэнзіі на рукапісы па заказах выдавецтваў, інфармацыі пра Берасцейскае літаратурнае вогнішча, якім кіраваў.

Акадэмічнае асяроддзе ў СССР лічыла многія з пералічаных жанраў легкаважнымі, яно ўзялося кіраваць навукай наменклатурна. Дырэктыўна ўвяло адзіны жанр: хопіць апісальнасці, даволі манаграфій, нарысаў, паказчык навуковасці ў гуманітарных навуках — праблемнасць. На справе прымусовая праблематызацыя вяла да panылай уніфікацыі, перагружанасці прац метадалогіяй і ідэалогіяй. Даследчыкі адрываліся ад жывога працэсу і пагружаліся ў схаластыку. Спрытнюгі пачалі знаходзіць праблемы там, дзе іх не было. Затое лёгка і проста было ацэньваць стандартную прадукцыю.

На Захадзе менавіта нарысы, эсэ, партрэты, рэфлексіўныя нататкі лічыліся і лічацца жанрамі, якія найбольш адпавядаюць прыродзе мастацтва, дазваляюць глыбока пранікаць у псіхалогію творчасці і выяўляць індывідуальную непаўторнасць творцаў, раскрываць падтэкставыя і кантэкставыя глыбіні, паказваюць творчае прачытванне тэкстаў.

Яшчэ гімназістам я вывучыў сам эстэтычныя кірункі новага еўрапейскага жывапісу і літаратуры, пачынаючы ад імпрэсіянізму і да мадэрнісцкіх дзівосаў — сімвалізму, футурызму, фармалізму, абстракцыянізму і інш. Навучыўся дзяліць іх не на тыя, што падабаюцца і не падабаюцца, а знаходзіць у кожнай плыні творы таленавітыя і проста экстравагантныя, паблажліва цярпець выбрыкі безгустоўшчыны. У мастацтве трэба не спяшацца адкідаць усё, каб пакінуць адно мілае, а думаць над тым, што часам і брыдота, калі яна з'явілася ў парадку нязмушанай творчасці, краса на асалоду, а брыдота на перасцярогу — перад чым?

Сам авалодаў тэхнікай акварэльнага малявання і разьбой па дрэве, спрабаваў для цікавасці пераймаць розныя стылі і прыёмы мастацкага пераствараэння рэчаіснасці і не кідаю гэтага занятку ўсё жыццё. Гэта патрэбна мне для таго, каб мець сувязь з мастацтвам, дасканаліць густ, бачыць агульнае і адрознае ў славесных, зрокавых і пластычных вобразах.

Пішу сёння тое, што пісаў раней. Абнаўляю свае раздзелы новай акадэмічнай «Гісторыі літаратуры», і энцыклапедычныя артыкулы ўдаецца абнаўляць. Канчаю нарыс пра Ф. Янкоўскага, Забэйду-Суміцкага, Сяргея Сіняка-Хмару, Дранько-Майсюка, пішу партызанскія мемуары, з якіх думаю скласці кнігу. Самі пішуцца публіцыстычныя артыкулы супраць новых забруджальнікаў літаратурнай і наогул культурнай прасторы, але, разрадзіўшыся, не хочацца іх друкаваць: у сённяшнім балагане гэта ўсё роўна, што пугаю па вадзе.

2. Не разумею, навошта літаратару, які стараўся працаваць сумленна, прафесійна, мяняць арыенціры. Прадмет даследавання застаецца ж вякамі той самы, якія б стылёва-эстэтычныя змены ні адбываліся ў тэкстах. Усё, створанае ў розных манерах і жанрах, акрамя бяздарнага, безгустоўнага, пустога, застаецца літаратурай, мастацтвам слова, якое будуць даследаваць, узрушацца, ацэньваць і пераацэньваць, узбагачаць творчым прачытваннем або абядняць прачытваннем павярхоўным, прафанскім да канца свету. І выдатныя творы можна збаналізаваць, сапхнуць у макулатурную яму вульгарным успрыманнем. А густ у нас не цэніцца, нават дэгустатараў нямашака: труцяцца на падробных лікёрах ды каньяках і мруць, як мухі, сыны Бахуса. Шкада. У Бібліі сказана, што толькі дурня няможна перавыхаваць і зрабіць разумным, а прайдзісвета зрабіць сумленным можна.

Калі ўлічыць, што ўжо некалькі гадоў як не прадаецца ў нас прэса і кніжныя навінкі са славянскага замежжа, дык можна ўявіць, як цяжка трываць чалавеку маёй прафесіі ў баракамеры прымусовай духоўнай ізаляцыі. Як узгодніць гэтую няволю з лямантамі і піскяывымі клічамі палітыканскай шантрапы ды камерцыйнай дармаедскай хеўры аб свабодзе, якая нібыта дасягнута, аб незалежнасці і іншых вясёлых ды горкіх міражах. Не хачу памерці ў духоўнай ізаляцыі, куды заганяюць мяне і такіх, як я, прадуцэнты хаосу.

Мяняць арыенціры, мяняць жанры — усё гэта набор парад для літаратурных падзёншчыкаў, якія не хочуць ці не ўмеюць уяўляць, думаць, часта не памятаюць нават сюжэта байкі Крылова «Музыканты», а пішуць свае рамесніцкія опусы па правілах ці па модзе. Здольны, прафесійна граматны літаратар, працуючы і ў самым традыцыйным жанры, можа быць арыгінальным. У Польшчы, напрыклад, хоць моцна разросся постмадэрнізм, які прапагандуе вайну жанрам, тэатры збіраюць шмат публікі, ставячы п'есы А. Чэхава, М. Горкага. А мы ўсё пра падладжванне пад мадэрн, экзістэнцыялізм, сюррэалізм...

Памятаю бацькаву прымаўку: «Хто мяняе, у таго хамут гуляе» — гэта гаварылася пра коней, часам пра жонак, а я пра арыенціры ды жанры. Мастацтву патрэбны не мянялы, а руплівцы і буйныя таленты, якія адкрыюць хваробы духу народнага і вернуць годнасць нашаму цьмянаму часу.

Былі гады і дзесяцігоддзі тэрору палітычнага, ідэалагічнага, а цяпер настаці часы тэрору камерцыйнага і духоўнага балагану, ён родны брат хаосу, а хаос — брыдота.

3. Сфера жыццёвых інтарэсаў звужаецца паскоранымі тэмпамі. Прычына — узрост, а яшчэ вядомае многім збядненне і недасяжнасць жыццёва важных рэчаў, не гавару аб мілых звычках. Старасць не радасць, смерць не пацеха.

Мінулым летам, відаць, апошні раз прайшоўся са спінінгам па беразе Нёмна, а на Сервячы злавіў апошняга свайго шчупака. Паляўнічая стрэльба колькі гадоў адпачывае і, напэўна, застанецца ў стане супачынку, пакуль не знойдзе новага гаспадара. Цяжэй расставацца не з любімымі, а са змястоўнымі хобі — маляванне, разьба па дрэве, фатаграфія...

Радуюся, што магу яшчэ са смакам чытаць, думаць, дзяліцца з іншымі. На жаль, тут падсцерагаюць непрадбачаныя і неразумныя перашкоды. Напрыклад, у канцы мінулага года пошта вярнула грошы за падпіску на філасофскі часопіс «Человек», адзіную ў краінах СНД крыніцу інфармацыі пра гуманітарна-філасофскія і псіхалагічныя даследаванні чалавека ў свеце. У гэтым годзе на падпіску згадзіліся, абнавілі, а праз месяц зноў вярнулі грошы, і 1994 год мушу жыць без «Человека», бо беларуская пошта не можа дамовіцца з расейскай аб аплаце абслугоўвання, а часопіс той выходзіць раз у квартал і аб'ём яго пару сот старонак. Добра, што найшла на іншага паштарскага дыктатара фантазія не караць астракізмам «Иностранной литературы». Вядома, не з платанічнай любові «памілаваў», а паступіў, як належыць камерсанту, прагматычна: цана на замежную літаратуру таксама замежная, доларавая, значыць, будзе каштаваць даражэй. Не хочацца пасля паўвекавога прафесійнага самаўдасканальвання прыйсці да ключніка нябеснага анальфабэтам.

Цяжка змірыцца з тым, што не спраўляюся і з любімым сваім заняткам — тэхнічным даглядам аўтамабіля. «Масквіч» служыў мне 27 гадоў, і ні аднаго кіламетра мяне не буксіравалі. Аб'ездзіў на ім з сябрамі і Беларусь, і Прыбалтыку, і Закарпацце, і Крым — усюды цягнуў, як мул. Прадаў яго за сімвалічную цану электразваршчыку з лямпавага завода, дык той надзякавацца мне не можа — машына як новая, ходзіць, як гадзіннік. Цьфу, цьфу, каб не зрачы...

На станцыі абслугоўвання ганяў «Масквіч» толькі спачатку, калі там механікі яшчэ польскай гадоўлі праводзілі «ТА-1», «ТА-2» па-гаспадарску, як сабе, трымалі марку. А потым прыйшлі фэзэушнікі, тыя з кіпячага гаршка ўмелі хапаць, падмёткі на хаду адрываць. Пару разоў, калі самому не было часу сачыць за рамонтам, зажылілі новыя запчасткі, якіх я навазіў з Мінска ў партфелі, а паставілі барахло. Тады я ўзяўся сам рабіць сабе рамонты і прафілактыкі, як належыць: пафарбаваў свінцовым сурыкам днішча кузава, верх націраў пастамі, рабіў усё, што трэба, толькі рухавік рамантаваў мне сусед па гаражы, стары салідны механік, які пры Польшчы пана доктара вазіў. Майго «Масквіча» ведаў увесь горад як рэліктавае цуда-юда. Навучыўся ўжо і «Жыгулі» абслугоўваць, веды ёсць, але сілы малавата ды і забыўлівасць можа падкінуць фігля: разбярэш карбюратар, прамыеш, прадзьмеш, а сабраўшы знойдзеш, чаго добрага, пару «лішніх» гаечак, адзін болцік і штонебудзь яшчэ...

Баюся, што з усіх маіх хобі, акрамя чытання, пісання ды малявання, найдаўжэй застанецца сад-агарод. Да агароду маці прывучыла, любавалася, хваліла сыночка, калі той вырошчваў ростам з сябе бурак або выкопваў з-пад аднаго куста аршаўкі кошык бульбы. Агарод у нас з Зосяй родзіць цяпер — проста «закачайся». Суседзі часам зайздросцяць. З садам горш — апёкся на карлікавых яблынях: месца высокае, зямля пясчаная, у часе спёкі не хапае вады гэтым кволым дрэвам, у якіх карэнні паўзуць па версе і ад бязводдзя амаль спелыя плады асыпаюцца за адзін дзень. Пераходжу на двайныя прышчэпы, прышчапляю клонавыя чаранкі на пенчукі антонавак, а на іх падбіраю гатунак па густу. Добра растуць і родзяць слівы, прышчэпленыя на алычу, расце і даспявае да добрага віна наш тутэйшы, берасцейскі вінаград, хораша паводзяць і пінскія эксперыментальныя гатункі, нават немцаў частаваў, ім спадабалася. Вырошчваю ў чаропцы ад вазона тым гасцям пару саджанцаў.

Самай цяжкай работы — перакопвання — мы ўжо з Зосяй ўдваіх не адужаем, спадзяюся на падмогу маладых паэтаў ды інстытуцкіх юных бакалаўраў, хоць апошнія панеюць і не любяць агароднічаць. Затое вясковыя настаўніцы, што выйшлі з-пад маёй крутой рукі, здагадлівыя: другая можа на выхадны дзень прыехаць з двума сынамі і памагчы ўскапаць агарод, пагаварыць, параіцца аб тым, аб сім...

Так сталася, што хобі ў мяне не аддзяляюцца ад прафесійных заняткаў, прыносяць асалоду і літаратуразнаўчая праца, і выкладчыцкая. Люблю моладзь, не адчуваю сябе састарэлым духоўна, і студэнты мае не лічаць мяне за мастадонта. Пра ўсё чалавечае гаворым як партнёры...

***Адказамі-развагамі Уладзіміра Калесніка, доктара філалагічных навук, даўняга нашага аўтара, мы заканчваем публікацыю анкеты «ЛіМа» (пачатак у нумары 14 за г. г.). Рассылаючы па адрасах пытанні, мы стараліся «ахапіць» прадстаўнікоў усіх родаў і жанраў беларускага прыгожага пісьменства. Не ўсе пажадалі падзяліцца асабістым, запаветным — і за тое няма дакору. З прыемнасцю зазначым: усе, хто адгукнуўся на нашы лісты, адкрыўся перад чытачом новымі, падчас нечаканымі гранямі сваёй асобы і таленту. Вялікі ім дзякуй за шчырасць і давер, добрага здароўя і плёну ў творчасці!***

## «НАША НІВА», N 6

Падборка аналітычных тэкстаў новага нумара «НН» прымеркавана да вынікаў першага тура выбараў прэзідэнта Беларусі. «Выбары, — гаворыцца ў рэдакцыйным артыкуле, — падводзяць рысу пад ілюзорным спадзевам на тое, што нас «усё гэта» абміне. Гутарка ідзе пра ломку пасля наркатычнага забыцця ў мінулай ідэалогіі, якую так ці інакш, хто толькі з дэпрэсіяй, а хто і з кроўю, перажываюць усе посткамуністычныя краіны. І цяпер самы час гаварыць не пра кандыдатаў, не пра будучыню й Бацькаўшчыну, а пра тое, ад чаго залежаць камплікацыі, пра беларускі народ, які нарэшце выявіў сябе. Дагэтуль мы мелі справу хутчэй з уласнымі ідэалізаванымі ўяўленнямі пра народ, імкнучыся не заўважаць, не ўлічваць у ім стыхію натоўпу... Што стрымвае ў народзе гэтую стыхію, гэты прыродны мазахічны парыў матылька, які заўсёды ляціць у агонь? Цывілізаванае грамадства, якое мінімалізуе ў народзе натоўп. Гэта інтэлігенцыя (у самым шырокім сэнсе слова), якая сцвярджае культуру й мараль; гэта добра адладжаныя інстытуты ўлады; гэта дэмакратычныя традыцыі — чым даўнейшыя, тым больш эфектыўныя. Там, дзе ўсё гэта ёсць, прэзідэнтам краіны не можа стаць крыкун. Там, дзе гэтага няма, натоўп абірае ў прэзідэнты крыкуна. Тады запаноўвае прырода, базавы інстынкт, які не ведае маралі. Тады «интеллигенция — говно», а культура... яе прадукт. Тады ўлада не інстытуюецца, а функцыянуе як строга вертыкальная іерархія ў ваўчынай зграі. Традыцыя проста не ўзнікае, бо гістарычная памяць — гэта якраз тое, чым адрозніваецца чалавек ад жывёлы».

«Сапраўдны хам, прыродны хам, натуральны хам, — працягвае гэтую тэму польскі драматург Славамір Мрожак у развагах «Пакліканне хама», — з сацыяльным паходжаннем не мае нічога супольнага і спрадвеку з'яўляецца ва ўсіх сферах. Яго дэфініцыя — нахабства, абсалютная ўпэўненасць, што яму належыць усё, але яго не абавязвае нічога, усё належыць яму нізавошта. Ён не паважае чужога існавання, таму што лічыць, што свет створаны толькі на тое, каб мог існаваць ён і ніякай таямніцы быцця ва ўсім гэтым няма. Хам ведае ўсё, ён ведае ўсё лепей за іншых і не мусіць нічога даведвацца...»

«Да капрызаў гісторыі, як і да капрызаў прыроды такі заняволены чалавек ставіцца аднолькава. — Завяршае тэму ў сваёй працы «Таталітарны чалавек» Валянцін Грыцкевіч. — Для яго адно й тое самае — што змена ўлады, што навадненне. Для яго гэта перамена натуральная. Ён робіць усё, каб прыстасавацца да іх, і таму тут спробы бунту даволі рэдкія. Бо крыніца мяцежнай сілы — не няшчасці, якія суправаджаюць галечу (яна хутчэй прыгнятае, чым распальвае энергію пратэсту), а жывая й незалежная свядомасць, якая ўпэўненая ў сваёй рацыі»...

Паводле тэмы гэты нумар «НН» — даўно абяцаны гомельскі. Друкуюцца эсэ М. Сердзюкова і З. Бартосіка, апавяданне У. Сцяпана, верш А. Мінкіна ды шмат іншых тэкстаў, у якіх так ці інакш раскрываецца твар і дух буйнога беларускага горада. З «замежных» публікацый — эсэ У. Арлова пра яго падарожжа ў Англію, урывак з нашумелага «эратычнага» літоўскага рамана «Вядзьмарка і дождж», пераклады яўрэйскага гумару, справаздача са з'езда пісьменнікаў Босніі і Герцагавіны. Шмат рэцэнзій, вершаў, нататак ды іншых матэрыялаў.

## КАЛЕКЦЫЯНЕРЫ, УВАГА!

Канверт, прысвечаны 200 гoддзю Вызвольнага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, прынясе вялікае задавальненне аматарам. Праўда, набыць яго калекцыянерам будзе не так і лёгка. З'явіўся гэты канверт зусім не ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь, а ў далёкім замежжы. Яго выпусціла выдавецтва Міколы Прускага. У якасці ілюстрацыі выкарыстаны малюнак, выкананы Міколам Купавам, на якім адлюстравана сутычка паўстанцаў з царскімі войскамі. Уверсе выява герба «Пагоня», што як бы ўразаецца ў тэкст: «Вызвольнае паўстанне 1794 года ў Беларусі». Пад малюнкам гэты тэкст паўтараецца па-англійску.

## ЗНОЎ ПРА МІНСК

Не так даўно выйшла кніга Захара і Соф'і Шыбекаў «Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада». Зазірнуць у больш сівую даўніну нашай сталіцы можна, прыдбаўшы дзевяты том знакамітага выдання «Россия. Полное географическое описание нашего отечества» пад рэдакцыяй В. Сямёнава, выпушчанага ў 1905 годзе. У ім згадваецца і пра Мінск. Гэты том перавыдала «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Для тых жа, каму гэты «энцыклапедычны» том не па кішэні, «Універсітэцкае» выдавецтва перадрукавала з яго старонкі, што тычацца гісторыі сталіцы нашай дзяржавы. Атрымаўся ў выніку нарыс «Мінск», які і выйшаў асобнай кніжкай. Так што — паспяшайцеся ў кнігарню!



Паэзія

Васіль МАКАРЭВІЧ



# ДВА ВЕРШЫ

## ДОМ

1

Гэты дом
Ад люстры да цвіка,
Ад муроў і да эмблем з зубрамі,
Без пагроз і нават мацюка
Мы ў партыйнай чэлядзі
Забралі.

Што было?
А быў пераварот
З нейкім там усё ж
Недаваротам.
Ад варот далі мы паварот
Змове з бойняй
Ды з калючым дротам.

З хітрым кодлам
Дом прымоўк і сціх —
Радавым зрабіўся у сталіцы.
А было — на крок не падысці,
З просьбай нізашто
Не падступіцца.

Ведаем,
На стомленых людзей
І на скверык,
набрынялы сокам,
З-пад ілба нахмурана глядзеў,
З ганарыстай мінай
І — звысоку.

Як дылёўкі
З-пад шалёных піл
Гулкай цыркуляркі-пілярамы,
Вылятаді на адзін капыл
Цыркуляры новае праграмы.

Тут за дзёрзкасць
Больш, чым за грахі,
Прынцып, што заўсёды
Мякка сцеле,
З чалавека мог дастаць духі,
Разлучыць душу жывую
З целам.

Як спрадвеку, —
Брагі цераз край
У партыйных хітрых
скараспелках.
Дом для бонзаў
Быў не дом, а рай,
Для няўдаліц горай
І ад пекла.

У катлах —
Па возеру смалы.
І над гвалт тамтэйшае капэлы
За пралік партыйны,
хоць малы,
Недарэкі ў той смале
Кіпелі.

У імклівым
Вэрхале падзей
Метраном
Партыйны час адчэкаў.
Дом
З чырвонай кніжкай
Неўспадзеў
Развітаўся,
Як з фальшывым
Чэкам.

Не,
Мы не расклалі ў ім касцёр,
Не зрабілі звалкаю ці складам,
Як царкву рабілі ці касцёл
Д'яблы па высокаму
Раскладу.

Гмах,
Ён новы атрымаў статут.
І шаптаў, а не бубнеў
З дажджамі.
З дня на дзень,
Казалі, інстытут
У высокі дом
Пераязджае.

Пільнасць
Не стрыгла вушамі больш.
Марксу дом
У вернасці не кляўся.
Нават з хатулём
Заезджы бомж
Спаць не супраць
Ноччу смела клаўся.

Біў гадзіннік,
Выбіваў «дзін-дон»
Дзесь паблізу
І, відно, высока.
Быў гатоў пайсці,
Здаецца, дом
Пад яго мелодыю
У скокі.

2

Хто абразіць дом
Альбо аблае?
Зменен сцяг,
абноўлены фасад.
Гвардыя партыйная былая
З вэрхалам вяртаецца
Назад.

Час мінуў
Ганебнага выгнання.
Шторм сціх,
І гнеў асеў на дно.
Дык чаго чакаць?
І без вагання
Зноў яны бяруцца
За стырно.

Як душой
Ні чаўралі, ні нылі,
Новыя чыноўныя тузы
Фрэнч партыйны
На пінжак змянілі,
Новыя адзелі
Картузы.

Дзень, што клячай
Бег угрунь ды трухаў,
Перайшоў на той жа самы трух.
Час вяртання —
Гэта час трыумфу,
А, магчыма, хітры ход
Ці трук.

Карты ўсе
Амаль з былой калоды,
Хоць іх туз казырны і згарэў.
Нават крэсла пень
не ахаладаў,
Захаваў іх колішні
Сугрэў.

Кожны
Задаволены сабою.
Доспехі адзець ім
Час наспеў.
Аглядаюць дом,
Як поле бою,
Што т а д ы
Пакінулі наспех.

Тут, у доме,
Мітусяцца сцені, —
Быццам бы вярнуўся час былы.
Тыя ж кабінеты, тыя сцены,
З бляскам галалобыя
Сталы.

Каб сягоння
Ірвануцца вышай,
Сесці ў крэсла,
Ды ўрасці, як след,
Кожны вылез з партыі
Ці выйшаў,
Ды ў кішэні носіць
Партбілет.

Папраўляюць
Гальштукі, манішкі.
І не лішне ім на ўласны густ
Памаліцца ў кут,
Вядома, нішкам,
Дзе стаяў ён,
Ведзьмаровы бюст.

Хто сказаў,
Што новай перакоўцы
Не паддасца кадравік стары!
Як вас зваць? —
Таварышы цэкоўцы?
Ці ўсё ж —
Панове-спадары?

Дакурыўшы
Дзён былых акурак,
Адчувае добра, як паддон,
Болей, чым паўвекавы
падмурак
Спраў суровых,
Гэты — ў бляску — дом.
Без былой
Партыйнай шайкі-лейкі,
Без яе праклёнаў і пагроз,
Можа, з новай
І крутой калейкі
Не саб'ецца
Нашай праўды воз.

Каб сумленню
Крыл не абразалі,
І маглі ўсе шыбіны свяціць,
Святарам з малітвай,
З абразамі
Гэты дом патрэбна
Асвяніць!

## МАЦІ

I

А мама,
Дзякуй Богу, ў нас жыве.
А мама ў нас, як кажуць,
міравая.
Кіёк кульгае з ёй па мураве,
Што да краёў дварышча
Ўмуравала.

А міравая —
Больш чым паўсяла
Са звады, што, бы голадам,
змарыла,
Як выбавіла ўсё адно з сіла,
Паміж сабой шчаслівa
Замірыла.

Каб пагасіць
Гарласты гвалт і сквіл,
Не проста так,
для хітрага блізіру,
Дагрукалася б, пэўна,
да Масквы,
Дабегла б і да снежнае
Сібіры.

Гадамі шчыра
Слова берагла,
І, з сінню
у пранізлівым паглядзе,
Яна б замовіць і змяю змагла,
І нават тыгра па спіне
Пагладзіць.

Зірнеш на рукі
Зблізку ці здаля,
Што сталіся
скарэлымі карчамі, —
Ах, колькі імі подаці здала!
І як яны, стамлёныя,
Крычалі!

Ухутаная
Ў хустку аж да броў,
Не страшылася ветраў,
як буянаў.
І што б у дол ні кінула, дабром
Да броў яно ўставала
І буяла.

У сенакос
Ці шчодры меданос,
Калі ён мёдам цёк
з яловых лапак,
Мядзведзь-няўклюда
калываў, як воз,
Каб выцягнула з лапы
Аскабалак.

На звонкае,
Бы шкло, верацяно,
Ці на крутую точаную шпулю
Вяла, як нітку, раніцой адно
Балючы голас удавы-
Зязюлі.

Звінела дзён
То серабро, то медзь.
І, як і кожнай у сяле кабеце,
Хацелася і ёй удосталь мець
Таго, што ў клеці беражэ
Кубельца.

Чужога
Не ўзяла яна скрыля.
Ды у вайну
адным сваім паглядам
Крыжы садрала б
з кожнага крыла,
З іх чарнатою і пякельным
Ядам.

За страчаных
Сясцёр і за братоў
У сто, напэўна,
столак адрабіла.
Грымела перунамі абадоў
Гадоў яе рассохлая
Драбіна.

А хто за лёс
У тыя дні дрыжэў,
Калі прайшоўся гэткі гул
па свеце!
Больш не было радней
і даражэй
За ўлады, што сядзела
Ў сельсавеце.

II

Ды покуль
Шчыравала на сяўбе,
І не давала праўдзе
абылгацца,
Напаміналa ўлада пра сябе
Падаткам ды капою
Аблігацый.

Нагадвала яна
І пра закон,
Паабяцаўшы
за бурак падвялы,
Заперці ледзьве
не за сем замкоў,
І ўзяць на тры дзябёлыя
Завалы.

Гаркоту смагі
Выцадзі да дна,
Ды грай на дудцы страху,
як на леры,
Калі прыкута так да працадня,
Як да карыта бітае
Галеры!

Ды хіба дзіва!
Знаў і свінапас,
Каб і з гразьбою нават загадалі,
Ад катаргі больш лютай,
чым калгас,
Не адшукаў бы
і пад Магаданам.

І дома,
З палыновай гаркатой,
Дзе ўсё знаёма
да апошняй рыскі,
Не лепш было,
чым дзесь пад Варкутой,
Ці ў рудніку звільжэлым
Ля Нарыльска.

За катаржны
Гаркотны працадзень —
Цацанка-абяцанка і фатыга:
Ад будучыні заўтрашняе цень
—
У хітры вузел скручаная
Фіга.

Без пашпарта,
Пад вокрыкі жулля,
Бы за дратамі,
пад прыглядам ветру,
Як ссыльная і цьмела і жыла
На сто сваім гаркотным
Кіламетры.

Хоць поле біў
То град, то недарод,
А тых, каго карыта аб'яднала,
Карміла да адвалу з году ў год,
Як спешчаных партыйных
Аб'ядалаў.

Сагнуў ёй час
Ды выкруглiў спіну, —
Нашто глядзець уверх,
на яблынь голле?
Праз век яна ішла, як і ў вайну,
Па вогненнаму прыску
І вуголлю.

Згарэла у вачах
Густая сінь.
І дзень пачаў бярозаю хіліцца.
Не ведаю, ці быў я добры сын,
І ці магу чым-небудзь
Пахваліцца.

Мог качаргу
У вузел завязаць,
Схапіць імгненне,
што наўзбоч мітнула.
Ды, вісус, ёй саромеўся
сказаць
Пяшчотнае, прачулае —
Мятуля!

Я добра знаю,
Нават і цяпер
Пры стрэчы стану
гаварыць пра тое, —
Патрэбна невыносны
боль сцярпець,
Што круціць косці і душу
Ў прытоме.

Бяда,
Яна падобна на касу, —
Не гне, а падцінае ўсё жывое.
Каму душу і боль свой
прынясу?
Дзе набяруся праўды
Аржаное?

Дрыжыць рука,
І — ў сутаргах шчака.
Упаў я на калені за клянамі.
Жагнаю дол.
Ахвярны дол, счакай!
Не трэба клікаць маму,
Заклінаю!

Проза

***Калі жыццё наступіла такое таннае, што пісьменніку за аніякія ганарары не пражыць, а першая прафесія забылася, а час пайсці ў дворнікі яшчэ не выспеў, я пачаў выязджаць на сваіх добра ўжо падрапаных «Жыгулях» на вуліцы сталіцы ў спадзеўках зарабіць хоць на бензін. Кіраваў у любы канец горада паслухмяна, колькі заплацяць — не цікавіўся, і пасажыры ахвотна распачыналі размовы, распытвалі пра маё жыццё, апавядалі пра сваё.***

***Вось некалькі гісторый, што прыдбаў па дарозе на Серабранку, Чыжоўку, Усход...***



# ХТО АДКАЖА?

Алег ЖДАН

## ДАРОЖНЫЯ ГІСТОРЫІ

### БЛАКІТНЫ БЕРЭТ

Увосень я надзяваў на галаву блакітны берэт, што купіў калісьці за тры рублі.

Ля камісійнай крамы «Запчасткі», што на Даўтабродскай, прагаласавалі мне мужчына з жанчынай. Я прыпыніўся. Падбеглі, назвалі адрас, запытальна гледзячы на мяне, абодва саўтануліся на задняе сядзенне. У машыне адразу пачуўся пах віна. Ясна, падумаў я, немаладыя людзі — было ім абодвум па сорак- сорак пяць год — гуляюць у любоў. Ну што ж, даводзілася мне вазіць і такіх, адзюльтэр з'ява вядомая, пачуцці, падпепленыя віном, патрабуюць выхаду. Людзі ў такіх выпадках трымаюць сябе па-рознаму: хто з апошняе сілы карыстае юнацкі слэнг і гумар, хто ратуецца шчырасцю, хто цынізмам. Я не суддзя ім.

Аднак гэтая пара трымалася іначай: пасямейнаму гаварылі пра побыт, злаваліся адзін на аднаго, надоўга змаўкалі і распачыналі спрэчку ізноў. Муж з жонкаю? Але ж хутка стала ясна, што жывуць не разам, а даволі далёка адзін ад аднаго. Яшчэ некалькі хвілін і выявілася — так, былі мужам і жонкай, а цяпер у разводзе, і зараз сям'і няма ні ў яго, ні ў яе. А спяшаліся яны да дзіцячага садка — забраць хлопчыка.

Канечне, гэта я потым, пазней, зразумеў, што ў вачах мужчыны і жанчыны стыла даўняя, звыклая ўжо туга — тая, што не мінае з часам, не адлятае з чаркай гарэлкі, з якой кладзешся ўвечары і прачынаешся ранкам, з якой жывеш і будзеш жыць.

Звычайна спадарожнікі мала цікавяцца асобаю шафёра — толькі і спытаюць, ці многа зарабляю на машыне. А гэтыя нечакана зацікавіліся, нават аб чымсьці перашэптваліся, і я пачуў слова «берэт». Азірнуўся — абодва запытальна і насцярожана глядзелі на мяне.

Не, туга ў іх вачах ужо даўно выстыла і вымерзла да дна.

Яшчэ яны гаварылі між сабой пра дзіця, пра хлопчыка — каму і калі забраць яго заўтра, каму і калі тэлефанаваць.

Нарэшце, даехалі. Мужчына падаў мне грошы, адчыніў дзверцы машыны і раптам спытаў: «Камандзір, берэт у цябе адкуль?» — «Купіў, — здзівіўся я такому пытанню. — За тры рублі». — «А-а», — расчаравана працягнуў ён. «Не зразумеў», — сказаў я. «А што тут разумець... У мяне такі берэт. Прывезлі на памяць з Афганістана. Болей нічога не засталося ад сына. А мо й берэт не ягоны...»

Я нічога не паспеў сказаць ім услед. Ды й што скажаш? Грошы таксама вяртаць позна.

І яны пайшлі, як ідуць сямейныя людзі, у каторых мінула ў жыцці ўсё.

Дзіцяці іх было гады два-тры. Відаць, вырашылі нарадзіць у спадзеўках на суцяшэнне, аднак разам жыць ужо не здолелі.

Калі вяртаўся дамоў, я ўспомніў Паўночныя могілкі ў нашым горадзе. Там, на адным з помнікаў, пад партрэтам вясёлага хлапчука ў вайсковым адзенні замест эпітафіі стаяць два словы: «ХТО АДКАЖА?»

Ніхто не адказвае. Ні Радзіма, ні час.

Пытанняў усё больш, а адказаў няма і, пэўна, не будзе.

### «ОХ, ДАСЦЬ НАВУМАЎНА...»

Што казаць, не надта ахвотна падвожу я старых. Жывуць мінулымі ўяўленнямі, доўга — калі ў прыцемках — разглядаюць грошы, каб не перадаць лішак, ды і ўвогуле разлічваюцца, як дзесяць год назад. Але ж калі-нікалі бяру, — то інваліда на мыліцах, то бабулю з мехам, — не столькі з-за чалавекалюбства, колькі дзеля свайго ж сумлення: вось, і я зрабіў добры ўчынак.

З гэткіх, прыкладна, меркаванняў падабраў познім летнім вечарам ля Камароўкі п'янага дзядка год сямідзесяці, а мо й болей. Відаць, ён стаяў і галасаваў даўно, махнуў рукой безнадзейна і не адразу даў веры, што я згодзен яго падвезці. Апусціўся на сядзенне й заціх, быццам баючыся, што перадумаю. Усміхнуўся я сам сабе. Пэўна, вырашае, колькі мне даць, а таго не ведае, што я раблю дабрачынны рэйс і нічога з яго не вазьму.

Асвойтаўшыся, стары пачаў нешта мармытаць шэптам, а потым і зусім енчыць, скуголіць. «Што здарылася, бацька? — запытаўся я. — Дрэнна табе?» Стары адразу сціх, бы зноў спалохаўся, што не павязу, але праз хвіліну адказаў: «А чаго добрага... — і заенчыў гучней: — Прапіў... Усе грошы прапіў. Дзесяць год не піў, а тут... Ох, дасць Навумаўна, ох, дасць...» — «Навумаўна — хто?» — спытаў я. «Дык старая мая, хто ж яшчэ? Ох, дасць, ох, дасць...» Мне стала цікавей і весялей. «Што, многа прапіў?» — «Дык усё, што было, да капейкі». — «Ай-яй. Як жа так?»

Стары штосьці мармытаў і доўга не адказваў мне.

«Паслала яна мяне на Камароўку. Купі, кажа, гуркоў і салёненькіх, і салодкіх, бульбачкі маладой, капусты, цыбулі, кропу... А мо й яблыкаў... Сын прыязджае, трэба частаваць. Я й пайшоў... І трэба ж было — Івана стрэціў! Дзесяць год не бачыліся — лепей бы ён памёр! Кажа, давай піва возьмем... Узялі. А потым кажа — давай віна, мо болей не пабачымся, дзесяць год не бачыліся, хто ведае, што будзе яшчэ праз дзесяць... Як адмовіцца, калі з маленства... І ў вёсцы, і на вайне, і пасля вайны. Кажа: а цяпер возьмем гарэлкі, я табе дзесяць год назад бутэльку гарэлкі ставіў, цяпер ты пастаў мне. А гарэлкі няма, адзін каньяк. А тутака яшчэ нейкі малады хлапец падлез, кажа: дайце, бацькі, паўшклянкі, а то памру... Ох, дурны, ох, дурны. Сказаць бы — няма грошай, а я...»

Зусім загараваў стары.

«Што ж, з кім не бывае? — паспрабаваў я суцешыць. — Калі стары сябра! — раптам раззлаваўся ён. — Ага, сябра. А сын прыедзе — што рабіць? Пенсія ў мяне — цьфу, у Навумаўны яшчэ меней, ды й калі яе прынясуць? Мо праз тыдзень... Гэтыя грошы, што я прапіў, яна за лыжкі ўтаргавала — суседцы прадала. Болей няма чаго прадаваць, хата пустая. Гадзіннік і той прадалі. З коўдрай стаяла на Камароўцы ўвесь дзень — ніхто не купіў, старая коўдра. Божа, Божа...» — «Не перажывай, бацька, — сказаў я. — Сын прыедзе з грашыма, усё будзе добра».

Вядома, чужую бяду рукамі развяду.

«Адкуль у яго грошы? — ён як раззлаваўся ўсё роўна. — Ён калісь у Маскве ў райкоме партыі працаваў, ганяюць цяпер, як сабаку па завуголлю. А за што?.. Ліст прыслаў: ці няма ў вас, тата, мама, крыху грошай? Жонка ягоная хварэе, плаціць за лекі няма чым. Грошай!.. Пакарміць не будзе чым. Прапіў!»

Я маўчаў. Стары ўжо не плакаўся — толькі раз-пораз цяжка ўздыхаў. Мы пад'язджалі да Серабранкі.

«Вунь яна, чакае, стаіць. Ох, дасць, ох, дасць...»

І сапраўды, адзінокая постаць бабулі ўзнікла ў прыцемках на прыпынку аўтобуса. Недаверліва саступіла ўбок, калі машына спынілася ля яе.

Не ведаю, мо яна потым і «дала» старому. Сустрэліся ж яны мірна, пагаманілі хвілінку і, апусціўшы сівыя галовы, пакіравалі дамоў.

### ЖАНЧЫНА З РУЖЖОМ

Жанчына была немаладая, у хустачцы, старой турысцкай куртцы, у мужчынскіх ботах. Але ж выгляд у яе быў баявы — яго надавала паляўнічае ружжо за плячыма. Яна спыніла мяне ля трактарнага завода, папрасіла падвезці на вакзал — спяшалася на электрычку.

— На паляванне збіраецеся? — пацікавіўся я.

— Ага, у засаду.

І распавяла смешнаватую, але ж і маркотную гісторыю.

...Неспакой яна адчувала ў той дзень зранку. Усё як быццам было добра, усё як звычайна, і ўсё — блага. Па-першае, перасаліла суп, па-другое, разбіла талерку, па-трэцяе, апяклася гарбатай... Не, не ў супе ці талерцы справа, а ў тым, што маркотна было на душы — хоць засілься. Пазваніла па тэлефоне сыну, што меў кватэру на Серабранцы, — усё добра, нават хваравіты ўнучак здаровы; дачакалася дачкі са змены — таксама няблага. А калі пабіла яшчэ й любімы кубачак з блакітнымі кветкамі, здагадалася, што нехта яе выганяе з дому. Хто — сумненняў не было, д а м а в і к, той добры дух ці істота, што ўжо колькі год разам з ёй клапоціцца пра дабрабыт сям'і, пра кожнага яе чалавека паасобку і пра ўсіх разам. І яшчэ здагадалася: сёння ноччу абрабуюць іхнюю, з сынам і дачкой, дачу. Нічога добрага на дачы, акрамя маленькага старэнькага халадзільніка ды салёных гуркоў у склепе, не было, але ж — напаскудзіць могуць. А то й падпаляць са злосці, што нічога няма.

Падумала і аб тым, што цяпер, у лістападзе, на дачах ні душы, і калі сапраўды з'явяцца злодзеі — як піць забіць могуць. Страшна не за жыццё, а за маленькі драўляны дамок, што дваццаць год назад разам з гаспадаром-нябожчыкам перавезлі з вёскі, а потым дзесяць гадоў будавалі і дабудоўвалі. Трэба ехаць, а калі што — як-небудзь бараніцца. Як? А ўзяць ягонае, гаспадара-нябожчыка, ружжо.

Карыстацца ім яна не ўмела, але ж ружжо ёсць ружжо, яно — як мужчына ў хаце. Сын, праўда, казаў, што — не спраўнае, не страляе ды й ніводнага патрона няма, аднак і мужчына неабавязкова павінен мець вялізныя кулакі, галоўнае — каб быў.

І яна паехала, хоць на зямлю апускаліся прыцемкі.

Хатка іх стаяла на ўскраі дачнага пасёлка. Зайшла, азірнулася. Нешта неўпадабалася ёй пры першым аглядзе: парожняя бутэлька валялася пад сталом, табурэтка ляжала бокам... Ды й пясок хрумсцеў пад нагамі, бы пахадзілі тут людзі. Але ж — мо гэта сын калі завітаў, выпіў шклянку-другую і не прыбраў за сабой? Такое надаралася...

Яна падтапіла грубку, заварыла чай, паслухала цішыню ў наваколлі і — супакоілася. Ужо й лягла адпачываць, каб раніцай паспець на першую электрычку, ужо і задрамала, нават нешта сніць пачала прыемнае — ці то ўнучыка Віцю, ці то ўнучку Машачку, як пачула ціхія галасы, а потым — нехта скрабецца. Не, не толькі скрэбліся, а соўвалі ключ у замочную шчыліну.

Жанчына здранцвела ад жаху і не памятала, як села на ложку, узяла ў рукі ружжо. І тут пачула, што замок паддаецца, імгненне і — расчыніліся дзверы. Тры постаці з'явіліся на парозе.

— Уключай святло, — пачуўся мужчынскі голас.

— Нешта я не знайду, дзе, — адказаў другі.

— Дай я, — патрабаваў трэці.

І — уключыў святло.

І тут яны ўбачылі жанчыну з ружжом.

Усё, баяцца было ёй позна. Яна ўскочыла з ложка, ускінула ружжо і крыкнула:

— Застрэлю, ...маць!

Адзін, той, што ўключаў святло, грымнуўся долу, двое астатніх завісчэлі, як зайцы перад ваўчыцай:

— Цётачка, не страляй!

— Застрэлю! — пераводзіла яна рулю з аднаго на другога.

— А-а-а! — раўлі на розныя галасы злодзеі. — Цётачка, нам у цябе нічога не трэба!

— Цётачка, мы толькі шклянку ўзяць зайшлі, во, глядзі! — адзін з іх паказваў ёй бутэльку гарэлкі.

— Пусці нас, цётачка, мы болей не прыйдзем, пусці!

— Цётачка, мы ўжо былі тут, нічога не кранулі! Цётачка, вунь твая шклянка, вунь наша бутэлька... Цётачка!...

Тут яна разгледзела, што «пляменнікам» было год па шаснаццаць, а таму, што грымнуўся цераз парог, мо і меней.

— Каб духу вашага тут не было! — выгукнула з усяе моцы.

Перакуліліся цераз ляжачага, пападалі, ускочылі з лямантам, енкам, зніклі...

Ну, а што рабіць з гэтым, ляжачым? Выцягнуць за дзверы страшна, там — тыя, і мо ўжо ачомаліся. Уцягнуць у пакой — навошта ён ёй? І ці не забіўся, ляснуўшыся аб парог? Во будзе, як забіўся...

Яна ўсё-такі ўцягнула яго за ногі, а калі ўбачыла белы, як мука, твар, пералякалася.

— Гэй! — гукнула. — Ці жывы ты?

Пырснула вадой у твар. Хлопец нарэшце варухнуўся і расплюшчыў вочы.

— Ляжы! — трасянула ружжом.

А хлопца ўжо калаціла ліхаманка — гэтак, што торгаліся і рукі, і ногі, і галава стукалася аб падлогу. Мо канае? — падумала яна. Схапіла коўдру, кінула на яго. Потым накінула і матрац. Болей нічога цёплага не было. Добра было б уліць гарэлкі ў рот, але дзе ж яе возьмеш?

І ў гэты час пачула пад акном:

— Цётачка, адпусці яго!.. Мы ж ніякай шкоды не зрабілі! Мы пагрэцца хацелі і бутэльку выпіць...

— Якая ў вас бутэлька? — спытала ў фортку.

— «Даляр».

— А ну, давайце сюды! У фортку! Дзверы не адчыню, баюся.

Падалі.

Хлопец, што ляжаў на падлозе, усё яшчэ калаціўся. Яна апусцілася ля яго на калені, падняла галаву і ўліла скрозь сцятыя зубы некалькі кропель віна. Праз хвіліну ён папрасіў:

— Яшчэ, цётачка...

І тут ліхаманка скончылася, але пачаў хлопца заліваць пот. Яна скінула з яго і матрац, і коўдру, расшпіліла куртку, кашулю, сунула руку пад спіну — мокры, як курыца. Што рабіць? Выгурыць да тых, пад акном? Дык жа на дварэ халадэча — захварэе, дурань! Яшчэ, чаго добрага, і памрэ...

— Сядзі ціха! — прыкрыкнула на хлопца. А сама пайшла да грубкі, зажывіла агеньчык. Загадзя прыгатаваныя трэскі загарэліся весела, хутка...

Праз некалькі хвілін хлапечы адзетак сушыўся на вяроўцы над грубкай, а сам ён, голы, накрыўшыся коўдраю, як абскубаны певень, сядзеў на ложку, шморгаў носам і распавядаў пра сябе, пра хлопцаў, пра маці з бацькам, пра брата, сястру і дзядзьку... Ён распавядаў, а яна раз-пораз заклапочана паглядала ў акно: вецер узмацняўся, секлі крупы ў шкло.

Урэшце, яна рашуча адчыніла дзверы і гукнула ў цемру:

— А ну заходзьце! Пахварэеце, ёлупні, нехрысці, паганцы!..

...Вось і ўся гісторыя.

А калі я вяртаўся дамоў і ўспамінаў тую немаладую жанчыну, нешта добрае мроілася мне ў думках пра нашых людзей...

### ДЗЯЎЧЫНКА НА ШАРЫ

Непадалёк ад чыгуначнага вакзала мяне спыніла жанчына з дзяўчынкай год дванаццаці.

— Завязіце нас у Бараўляны, — папрасіла яна.

Бараўляны — канец не блізкі, акрамя таго, вяртацца прыйдзецца паражняком, і звычайна ад гэткіх прапаноў я адмаўляюся. Аднак мелася ў голасе і вачах гэтае жанчыны тая неспадзяваная даверлівасць, тая ўнікнёнасць, што вымушае ўглядзецца і ўслухацца.

— Сядайце, — адказаў я.

Жанчына села побач са мной, дзяўчынка — ззаду.

Я выруліў на сярэднюю паласу і, уліўшыся ў паток машын, зірнуў на дзяўчынку ў люстэрка: калі стаяла на ўскраі бардзюра з паднятай рукой, падалося мне быццам нешта знаёмае ў яе гнуткай постаці. Так, недзе бачыў яе. Дзе?.. Зіркнуў на жанчыну — не, рысы яе твару нічога не прыгадалі мне.

— У адведкі да каго-небудзь? — спытаў я.

— Дачку вязу, — стрымана адказала жанчына.

Не, зусім не адразу распавяла яна, што здарылася з імі. А я, адчуўшы прысутнасць бяды, таксама маўчаў. Гісторыя аказалася балюча знаёмай на Беларусі...

...Напярэдадні 1 мая 1986 года паехалі яны ўсёй сям'ёй да бабулі ў Нароўлю. Чуткі пра катастрофу ўжо разнесліся, але ж — дзе той Чарнобыль!.. Акрамя таго, трэба саджаць бульбу — два дні свята, найлепшы час. Паехалі, адпрацавалі на гародзе тыя дні зранку да вечара. І пазней ездзілі — палоць, даглядаць. маці-бабуля ўжо старэнькая — толькі на каленях можа стаяць у баразне. І ўсё было добра, нічога такога не заўважалі, як раптам у дзяўчынкі ацякла рука.

Вось тады і далі ім накіраванне ў Бараўляны.

Па некалькі месяцаў дачка ляжала ў палаце сярод гэткіх жа — дзесяці-чатырнаццаці год — дзяўчынак.

Я зноў зірнуў у люстэрка. Дзе ж бачыў я гэтую ломкую постаць, танюткую шыю, стрыжаную галоўку, засяроджаны тварык з нясмелай усмешкай? Дзяўчынка пакалыхвалася на сядзенні і глядзела ўперад, відаць, не ўнікаючы ў аповяд маці.

— ...Пасля бальніцы нам было блага, вельмі блага, — працягвала маці. — І апетыту не

(Працяг на стар. 12)

## «МАГУТНЫ БОЖА» БУДЗЕ... МАГУТНЫ!

**Канцэрты II Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі, якія ладзіцца ў Магілёве, пачнуцца з 11 ліпеня. Гэта будуць імпрэзы на адкрытых пляцоўках, ля вогнішча, у касцёле св. Станіслава, у зале Ліцэя музыкі ды харэаграфіі... У праграме, прынамсі, выступленні лаўрэатаў I Міжнароднага фестывалю «Магутны Божа», які гэтак гожа прайшоў у Магілёве летась. А ўрачыстае адкрыццё свята адбудзецца 13 ліпеня ў Палацы культуры «Хімвалакно».**

**Пра асаблівасці сёлетняга свята духоўнага яднання распавядалася ў нашых ранейшых публікацыях. Можна толькі нагадаць, што расклад фестывалю будзе надзвычай шчыльны — па 3—5 канцэртаў на дзень. Тут і конкурсныя праграмы дзіцячых харавых калектываў, і прафесійных хораў ды вакалістаў, і камерных выканаўцаў, і маладзёжных ансамбляў, і канцэрт артыстаў беларускай эстрады з творамі на духоўную тэматыку... Пра тое, што сёлетні фестываль мае набыць асабліва магутны голас, сведчыць хоць бы такая лічба: Магілёў рыхтуецца прыняць 35 харавых калектываў, у тым ліку й замежных. А будуць жа яшчэ камерныя ансамблі, індывідуальныя выканаўцы, журналісты, ганаровыя госці свята... Хай паспрыяе Бог іхняму ўзаемаразуменню, сяброўству, яднанню.**

**С. Б.**

## ФОНД МІСЕВІЧА ПЛАЦІЦЬ...

**Уладзіслаў Місевіч, знаны музыкант «Песняроў», пакінуўшы працу ў ансамблі, знайшоў сябе, што называецца, у дзелавых колах. Створаны Фонд Місевіча распачаў мецэнацкую дзейнасць, падпісаўшы адпаведную дамову з Рэспубліканскім ліцэем пры Акадэміі музыкі. Фонд устанавіў 18 стыпендый для лепшых педагогаў. 9 з іх ужо вызначана і ўручана днямі на выпускным вечары ў ліцэі. Стыпендыятамі сталі педагогі-ветэраны М. Мінянкова, Н. Нікеева, А. Захарошка; педагогі-піяністы, якія дасягнулі вялікіх творчых поспехаў у выхаванні маладых музыкантаў, — А. Гужалоўская, Н. Ташчыліна, І. Бондарава, Я. Пукст; выкладчыцы музычна-тэарэтычных дысцыплін В. Густава ды Н. Сцяпанская. Стыпендыя прызначаецца тэрмінам на 1 год, складае 150 тыс. рублёў і падлягае індэксацыі. З 1 верасня Фонд Місевіча прызначыць стыпендыі навучэнцам ліцэя: у іх ліку будуць трое дзяцей з малазабяспечаных сем'яў, пяцёра вучняў, якія паказалі найбольшыя творчыя дасягненні, а яшчэ — хтосьці з самых маленькіх ліцэістаў, які ўжо сёння падае асаблівыя надзеі на будучыню.**

**Н. К.**

## ДЛЯ ВУЧНЯЎ? НЕ ТОЛЬКІ

**Выдавецтва «Беларусь» выпусціла цудоўны нотны зборнік: «Беларускія народныя танцы». Пра каштоўнасць гэтага выдання можна распавядаць доўга, не баючыся перабольшванняў: яно кампенсуе дэфіцыт нацыянальнай нотнай літаратуры, яно ўзбагачае педагагічны рэпертуар дзіцячых музычных школ, яно адпавядае інтарэсам самадзейных мастацкіх калектываў. Кажуць, што яно зрабілася нават добрым грунтам для заняткаў па інструментоўцы ў Беларускай акадэміі музыкі. І яшчэ адзін дадатны штрых: зборнік з'явіўся дзякуючы заказу выдавецтва.**

**У прадмове, напісанай мастацтвазнаўцай Р. Новікавай, багата добрых слоў сказана пра гэта адметнае выданне — плён творчай працы кампазітара Генрыха Вагнера, які зрабіў адмысловыя апрацоўкі беларускіх танцаў для фартэпіяна. «Юрачка» і «Мяцеліца», «Падушачка» ды «Чачотачка», «Гусачок» ды «Козачка» — больш як два дзесяткі рознахарактарных, каларытных танцавальных абразкоў, тонка і з улікам выканаўчых магчымасцей юных музыкантаў інтэрпрэтаваныя Г. Вагнерам, склалі гэты зборнік, які ўжо наўрад ці знойдзеш у кнігарнях. Тыраж — без малога 4 тысячы...**

## ЧАЦВЁРТЫ НУМАР «ЗРОКУ»

**адкрываецца артыкулам К. Крываноса «Святы Вялікдзень», у якім падаецца гісторыя гэтага свята Н. Патапенка («На шляху да спадчыны») разважае аб стане сучаснай культуры. Прапануецца чарговая старонка («Чужаземец») з гутарак М. Ермаловіча. І. Кончык («Цікавыя мясціны») запрашае на Барысаўшчыну. Змешчаны вершы А. Скарынкіна, казка А. Клімовіч «Прынцэса на гарошыне», іншыя матэрыялы.**

*Фестывалі*

# СВЯТА ДЛЯ ЎСІХ З «НАШЫМІ» ПРАБЛЕМАМІ

Вось і завяршыўся адзін з самых маладых беларускіх фестываляў — фестываль нацыянальнай песні і паэзіі «Маладзечна-94». Нарэшце, маладзечанцы па начах будуць спаць спакойна: мітусня святочна ўбраных артыстаў і гараджан растала ў цемры, узышло сонейка — і ўсё, як было раней.

Але помняцца некалькі дзён: столькі было хвалявання, слёз і радасці, абурэння і цудоўнага пачуцця перамогі. З чатырнаццаці ўдзельнікаў 3-га тура толькі васьмёра маладых выканаўцаў сталі лаўрэатамі. Калі маладыя спевакі (хлопцаў, на жаль, толькі двое) і спявачкі (астатнія 12 лаўрэатаў) рыхтаваліся да выступлення і нервова блукалі за сцэнай, гэта выклікала толькі адну думку: «Ага, страшна!»

Так, страшна, калі прыгадаць сябе: вось ты выходзіш на сцэну і перад табой яны — слухачы, усе яны розныя, хто перажывае за цябе, а хто проста назірае за сцэнай, і яны абыякавыя да цябе, а тут яшчэ й журы...

Мне вельмі спадабалася, як да канкурсантаў паставілася госця фестывалю Тамара Гвердцытэлі: «Я зусім нядаўна была такая ж канкурсантка, і таксама зніякавелая хадзіла за сцэнай і чакала, калі мяне выклічуць: трэба ўзяць мікрафон, кінуць за кулісамі ўсе жахі і выйсці на сцэну, дзе трэба паказаць усё, што можаш, праспяваць так, каб спадабалася не толькі журы, але і гледачам і слухачам, ты спяваеш найперш для іх...»

Другі вядомы госць фестывалю Юрый Антонаў на пытанне «Як вам фестываль, ці выклікае нейкія пачуцці?» адказаў: «Гэта вашы праблемы». Зразумела, што нашы, мы ад іх не адмаўляемся...

Ну, вось адна з «нашых» праблем. Калі перад пачаткам 3-га тура конкурсу ў рукі трапіў спіс удзельнікаў, неяк уразіла тое, што гэта былі толькі дзяўчаты. Дзе вы, нашы хлопцы, няўжо спяваць развучыліся?! Будзем думаць, што не. Проста фестываль малады, толькі пачынае сваё жыццё, і з'явяцца на ім новыя спевакі, а ў іх ліку — прыгожыя маладыя хлопцы.

«Нашы» праблемы, здаецца, не такія ўжо вялікія, але калі сабраць іх разам, дык свята неяк робіцца не такім яскравым. У першы дзень фестывалю ў Маладзечне выявіліся невялічкія праблемкі з акрэдытацыяй. Пойдзеш у Штаб фестывалю, каб атрымаць пасведчанне, што ты, маўляў, не проста чалавек з вуліцы, а, напрыклад, прадстаўнік прэсы, а цябе адсылаюць у іншае месца, дзе пра гэтыя самыя «пасведчанні»



ніхто нічога не ведае, ці кажа: «Будуць пазней». І толькі тырада накшталт «Я з Дзяржтэлерадыё» дае магчымасць прышпіліць да курткі значок з надпісам «Маладзечна-94» і прыдбаць картку «Удзельнік», якую адразу хаваеш у кішэню, каб не прымусілі спяваць.

Гэта жарт, але толькі напалову.

А вось працяг гэтай жа «праблемкі» пра тое, калі будзе прэс-канферэнцыя (суботняя), даведаліся толькі тыя, хто воляю лёсу аказаўся на стадыёне. А ўжо ноччу, калі аўтобус прывёз удзельнікаў фестывалю да гатэля, прадстаўніца мясцовай прэсы (так патлумачылі мне пазней) стала каля вадзіцеля і ў цемры «адбірала» людзей, якія выходзілі з аўтобуса. Яна гаварыла толькі наступнае: «Вы — наш, пачакайце мяне каля «Ікаруса», а вы не наш: добрай вам ночы». Дзякуй за добрае пажаданне, шаноўная дама, вы зусім правільна заўважылі: мы — не вашы, што, напэўна, дзякуй Богу, і дало нам магчымасць спакойна пайсці ў гатэль і, засынаючы, убачыць, як пасля чатырох гадзін раніцы ўставала сонейка. Куды «адбірала» дама-інкогніта «нашых», я не буду абгаворваць. Але пасля непаразумеласцей з акрэдытацыяй, загадкава-няўгледнай прэс-канферэнцыяй гэты «адбор» прымушаў адкінуць жартаўлівы тон у дачыненні да «маленькіх праблемак» і адчуць ва ўласным настроі лёгкае раздражненне.

Калі назвалі лаўрэатаў, у мяне ўзніклі й



пытанні, якія я і задала старшыні журы народнаму артысту Беларусі Віктару Вуячычу. Напрыклад:

— Я проста як слухачка, ці, можа, тут дадалося і прафесійнае ўспрыманне выканаўцаў, не зусім была ўражана, скажам так, выступленнямі некаторых лаўрэатаў...

— Справа ў тым, — адказаў Віктар Лук'янавіч, — што ў Маладзечне гэта быў апошні тур, а журы сачыла і слухала ўдзельнікаў конкурсу яшчэ й на двух папярэдніх турах, і разыходжання ў ацэнцы канкурсантаў не было. Выступаць перад слухачамі на адкрытай сцэне цяжка, яны (канкурсанты) толькі пачынаюць.

А яшчэ і ў старшыні, і ў ягонага намесніка, добра ўсім вядомага кампазітара Эдуарда Ханка я пыталася: ці няма думкі замяніць гран-пры (аўтамабіль) валютным эквівалентам і калі нам чакаць трэці маладзечанскі фестываль: пайшлі чуткі, што яго могуць зрабіць не штогадовым, а, як «Славянскі базар» — раз на два гады? Дакладнага адказу пакуль няма, але самі пытанні вельмі горача абгаворваліся, спараджаючы свае і «за», і «супраць». Былі нават катэгарычныя меркаванні: маўляў, аўтамабіль можа «пахаваць» маладога выканаўцу. У наш час столькі праблем, што калі павесіць на шыю «цудоўны медальён» пад назвай «аўтамабіль», дык не кожная шыя гэта вытрымае. Асабіста я цалкам за валютны эквівалент. Перамога на конкурсе — гэта ж не «лебядзіная песня» маладога выканаўцы, яму трэба расці, спяваць новыя песні, а на ўсё гэта трэба не абы-якія грошы: заказаць песню, зрабіць аранжыроўку, запісаць у студыі, пашыць касцюм, запрасіць стыліста... Але першапачатковы капітал ад фірмы, здольнай даць каштоўны прыз, плюс далейшая дапамога, спонсарства, падтрымка маладога спевака — вось, напэўна, самая лепшая ўзнагарода.

Спадабалася на гэтым фестывалі ў маладых канкурсантаў тое, што адчувалася праца стыліста, а калі яе й не было, дык ім жа, самім выканаўцам, і вялікі плюс: наяўнасць уласнага густу, пачуццё меры — таксама дадае балаў калі не ў журы, дык у вачах гледачоў.

Канцэртная праграма «Маладзечна-94» была вельмі насычаная, у тэлеэфір канцэрты ішлі не адразу, на стадыёне ж два дні было па тры канцэрты, якія пачыналіся пасля 18-ай гадзіны і завяршаліся амаль на досвітку, каля 3—5 гадзін раніцы. Па небе блукалі хмаркі, гідраметэацэнтр абяцаў дождж, артысты і публіка хадзілі з парасонамі — але напэўна аргкамітэт зрабіў бартэрную здзелку з «нябеснай канцылярыяй»: мы вам добрыя песні, а вы нам сухое надвор'е. А песень штодня гучала каля 120-ці, іх выконвалі як маладыя спевакі, так і мэтры беларускай эстрады. Летась фестываль у Маладзечне трываў тры дні, а сёлета толькі два. Як не хапала гэтага аднаго дня! Можа, наступны фестываль «Маладзечна-95 (96)» будзе распланаваны зноў на тры дні, можа, знойдуцца грошы на гэты адзін дзень, і сярод гасцей будзе больш знаёмых спевакоў, якія будуць больш добразычліва ставіцца і да конкурсу, і да фестывалю ў цэлым.

У фестывальным марафоне мяняліся выканаўцы, але нязменным на сцэне быў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Колькі слоў падзякі выказвалі і члены журы, і самі канкурсанты, і ўдзельнікі канцэртаў Міхаілу Якаўлевічу. Тытанічная праца! Толькі сапраўднае майстэрства давала магчымасць музыкантам вытрымліваць па 10—12 гадзін з мікрапрапынкамі на адкрытай маладзечанскай сцэне. Маленькая паўза, каб выйсці за сцэну, перакурыць і зноў вядучыя абвяшчаюць: «На сцэне — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, дырыжор — Міхаіл Фінберг». У руцэ дырыжорская палачка, узмах... і зноў песня.

На маладзечанскай сцэне сустрэў 25-гадовы юбілей творчага шляху вядомы майстра беларускай эстрады Анатоль Ярмоленка. Калі ў размове за кулісамі я пажадала спеваку яшчэ 25 гадоў не сыходзіць з беларускай эстраднай сцэны, ён рассмяяўся і адказаў: «Дзякуй, але я хачу пакінуць сцэну тады, калі адчую, што вось ён, той час, прыйшоў, а не чакаць яшчэ 25 год».

Прыемнай навіной было тое, што неўзабаве пасля фестывалю Іна Афанасьева едзе на фестываль «Брацілаўская ліра». Для яго спявачка падрыхтавала 30-хвілінную праграму, у якую ўвайшлі як новыя песні, так першая, якая, паводле слоў Іны, засталася самай-самай, і наўрад ці патаемны куток у яе сэрцы зойме іншая песня, бо там — песня Севярына Краеўскага, якая вывела яе калісь у лаўрэаты Віцебскага фестывалю польскай песні. Пажадаем Іне вялікага поспеху і будзем чакаць яе — першую ластаўку беларускай зямлі ў Брацілаве, — з перамогай!

Якаў Навуменка рыхтуецца да запісу на касету вялікай песеннай праграмы разам з ансамблем «Бяседа». А госця наша Тамара Гвердцытэлі прыехала на фестываль з Парыжа, дзе выступала перад высакароднай публікай, і вось зноў збіраецца ў сталіцу Францыі, мае таксама запрашэнне і ў ЗША, дзе ўжо некалькі разоў з поспехам выступала не перад колішнімі суайчыннікамі, а перад карэннымі амерыканцамі.

Удзельнік праграмы фестывалю вядомая беларуская група «Ражаство» вельмі спадабалася гледачам, самыя спрытныя з якіх нават танцавалі пад песню «Тэлефон даверу»; завялі публіку Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Ліка. Зрэшты, гледачам хацелася свята, і яны добра ўспрымалі ўсіх. Для фестывалю адабралі самыя лепшыя песні, выканаўцы вельмі стараліся, а побач і лаўрэаты конкурсу «Маладзечна-94» нібыта рабіліся ростам вышэй.

Дай Божа ім, сёлетнім спаборнікам, вось так цудоўна выглядаць, як на маладзечанскім свяце. Ну, а спяваць... Спяваць трэба вучыцца. І ў нас на Беларусі ёсць у каго. Толькі не зыходзьце са свайго шляху. І не задзірайце занадта высока галаву, паглядайце, хто хоча крочыць поруч з вамі, спявайце і вучыцеся дзеля іх.

«Праблемкі» забываюцца, праблемы застаюцца. Але досыць сёння пра іх. Вялікі дзякуй і ўдзельнікам, і арганізатарам. Беларускі нацыянальны фестываль песні і паэзіі яшчэ зусім малады, але падае надзеі на лепшае...

**Марына ДРАГІНА**

*На здымках: уладальніца Гран-пры фестывалю — аўтамабіля «Жыгулі» — магіляўчанка Наталля КУДРЫНА; сярод гледачоў — мэр Маладзечна Генадзь КАРПЕНКА з жонкай.*

*Фота А. ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

Тэлебачанне

# ЭФІР ДЛЯ ГЕРОЯЎ

## ПАМЯЦІ ВІКТАРА КАРПІЛАВА

Імкліва расчыніліся дзверы. У гасцёўню рашуча ўвайшоў сталы чалавек, бадзёра рушыў праз залу. І, адмыслова ратуючыся гумарам, звярнуўся да гледачоў...

Тая вечарына ў Доме акцёра восем гадоў таму прайшла без сафітаў і тэлекамер, але са шчырым хваляваннем яе нешматлікіх удзельнікаў. Быў гэта не бенефіс і не «творчы партрэт» Віктара Карпілава, аднаго з заснавальнікаў мастацкага тэлебачання Беларусі. Было гэта спасціжэнне гісторыі тэлевізійнага мастацтва на прыкладах з пастановак майстра. Праз маленькія вакенцы манітораў цёк Час: змяняліся падзеі, героі, эпохі. Магічная стужка амаль за тры гадзіны раскручвалася эвалюцыйнаю спіраллю беларускага тэлетэатра.

В. Карпілаў з'явіўся на мінскай тэлестудыі, калі ўсе тут былі неафітамі: і журналісты, і аператары, і рэжысёры, і нават само тэлебачанне. Працэс узаемазбліжэння захапіў навечкоў, адкрыўшы шлюзы творчай энергіі. Яе моц падняла «заслону» і ў беларускім тэлетэатры. Першы сезон — 1956 года — складалі «экранізацыі» аднаактовых п'ес, а таксама фрагментаў з буйных літаратурных твораў («Сяло Сцяпанчыкава і яго жыхары» Ф. М. Дастаеўскага, «Брат мой, вораг мой» М. Уілсана і інш.). Спачатку тэлеспектаклі выходзілі з-пад рэжысёрскай рукі У. Кухты, вакол якога і склалася галоўнае кола пастаноўшчыкаў.

Дэбют В. Карпілава ў 1957 адзначаны «Мецяжом». Гэты тэлеспектакль (сумесная рэжысёрская работа з У. Кухтам) меў пэўныя мастацкія пралікі. Аднак у гістарычнай рэтраспектыве ён займае асаблівае месца як першы буйны — поўнаметражны — твор тэлетэатра рэспублікі. У асабістым лёсе В. Карпілава пастаноўка «Мяцеж» — таксама пункт адліку, тое самае «zero», адкуль разбягаюцца галоўныя напрамкі агульнай сістэмы эстэтычных каардынат майстра. Натуральна, што тут ёсць мінусавая шкала мастацкіх хібаў і памылак. Аднак яна па-свойму адцяняе маштаб рэжысёрскай парадыгмы В. Карпілава і ягонае адметнае адчуванне тэлевізійнай паэтыкі.

Нібыта вулканічным выбухам грымнуў з экрана ў 1966 тэлеспектакль В. Карпілава «Крах». Цэлая мастацкая лавіна абрынулася ў адначассе, выклікаўшы align="left" рознабаковыя меркаванні, ацэнкі, прагнозы. Па сённяшні дзень ніводная іншая пастаноўка беларускага тэлетэатра не атрымала такога водгулля — гледачоў, прэсы і мастацтвазнаўцаў.

Драматургічнай падставай тэлеспектакля «Крах» зрабілася п'еса А. Талстога і П. Шчоголева «Змова імператрыцы». Усе падзеі канцэнтраваліся вакол асобы Распуціна — апошняга фаварыта рускага прастола. Буйнымі рашучымі «мазкамі» стварыў артыст Р. Філіпаў вобраз галоўнага героя. Энергія тэмпераменту, прыродны розум, якому не бракуе ні хітрасці, ні хціўсці, бурны трыумф інстынктаў вызначалі ўнутраны і вонкавы імпэт ды характар Распуціна. Малюнак ролі вывераны дэталёва. Грым, касцюм, мова, пластыка — мудрагеліста-мужыкаватыя, яскрава-самабытныя. Акцёр працаваў з азартам і асалодаю. Дарэчы, герой Р. Філіпава апярэдзіў, «прадказаў» вобраз Распуціна, які ўражліва стварыў М. Пятрэнка ў кінафільме «Агонія» (рэж. Э. Клімаў, 1981 г.).

Акцёрскія работы тэлеспектакля «Крах» не выклікалі ў рэцэнзентаў рознагалосіцы. А вось рэжысёрскі метад В. Карпілава збянтэжыў некаторых крытыкаў, — яны, пачуваючыся ў небяспецы прадказвалі «інфляцыю выяўленчых сродкаў». Тады, у 1966, падобная прырода тэлевідовішча была незвычайнай, таму што ўтрымлівала зародак новай эстэтыкі, чые мастацкія прынцыпы ўвасобіліся ў пазнейшых творах тэлебачання (і не адно беларускага).

Пераадольваючы тэатральную абмежаванасць п'есы «Змова імператрыцы», В. Карпілаў паяднаў сваю рэжысуру з дакументальна-іграсвой стылістыкаю. Дзеля таго ён падмацаваў тэлеспектакль мастацкім дадаткам, знітаваўшы пастановачныя эпізоды з хранікальнай стужкай і забяспечыўшы ўвесь відэаматэрыял каментарыем. Прычым каментарый у тэлеспектаклі «Крах» мае двух'ярусную кампазіцыю. Першы — унутрыкадравы — гэта вакальныя інтэрмедыі Куплетыста (Б. Уладамірскі). Са сваімі сатырычнымі прыпеўкамі на «двухголового, двуязычного орла» ён раз-пораз проста ўбіваецца ў дзеянне. І хоць гарнітур Куплетыста і ўнутрыкадравы абсталюнак адпавядаюць часу гістарычных падзей, гэты персанаж цалкам адасоблены ад усіх астатніх. Ён існуе ў самастойнай умоўна-эстраднай прасторы і да ігравога дзеяння не мае прамога дачынення. Яго абагульняючыя куплеты адрасаваны непасрэдна гледачу.

У якасці закадравага каментатара мы чулі самога В. Карпілава: ён агучваў уласны тэкст, выказваючы суб'ектыўныя ацэнкі. Іранічнаму тону рэжысёра адпавядаў характар экраннага відовішча, надаючы падзеям фарсавыя прыкметы. На жаль, выкарыстанне гэтага прыёму не было стылістычна вытрыманым. Каментарый В. Карпілава — то лаканічны (калі, напрыклад, суправаджае «выхад» герояў), то — даволі шматмоўны. То — з пунктаў гледжання сучаснага гледача, то — з меркаванняў персанажаў, на мяжы цяперашняга і мінулага. Мянялася таксама інтанацыйная афарбоўка закадравага аўтарскага тэксту: сумоўцу змяняў дыдактык, асабістыя погляды перапыняла агульнапрынятая думка. Але пры ўсіх недакладнасцях каментарый В. Карпілава спрыяў узнікненню натуральнай сітуацыі тэлевізійных зносін: рэпартажнаму выкладанню падзей. Рэжысёр утварыў своеасаблівую мастацкую стылізацыю: рэпартаж... з мінулага.

Дарэчы, у творчай практыцы беларускага тэлетэатра мастацкі прыём закадравага аўтарскага каменціравання пакуль не атрымаў значнага развіцця. Віктар Рыгоравіч таксама не часта выкарыстоўваў гэты прынцып тэлеэстэтыкі. Але ўсё ж звярнуўся да яго ў апошняй сваёй пастаноўцы «Рычагі» (1989 г.). Менавіта пры дапамозе закадравага каментарыя рэжысёр перавёў апавяданне А. Яшына ў сатырычную танальнасць. Віктар Карпілаў так агучыў слова пісьменніка, што твор нават змяніў сваю жанравую прыроду. Голас умоўнага аўтара за кадрам адразу ўвёў у курс справы, вызначыў час і месца падзей. Без аўтарскай рэмаркі не засталася ніводная істотная дэталь, тым больш — персанаж. Кожны з чатырох галоўных герояў прадстаўляецца гледачу па ходзе дзеяння ўдала выхапленаю рысаю. Інтанацыя лёгкай іроніі ссоўвае вобразныя націскі, кіруе атмасферай тэлеспектакля і ўспрыманнем гледача.

Выйсця ў гумары шукаў В. Карпілаў, калі працаваў над тэлеспектаклямі «Тэатр купца Япішкіна» (1978), «Імяніны» (1982). У гэтых пастаноўках рэжысёрскі вымысел набыў, так бы мовіць, персаніфікаваныя формы. У першым выпадку дадатковым героем стала... публіка, што «карміцца» бязглуздым шоу ад Япішкіна». У другім — малады настаўнік, які трапіў «на баль» мястэчковай эліты.

Творчая арыентацыя В. Карпілава грунтавалася на яго асабістым светаадчуванні, адукаванасці, прафесійнасці. Памеры яго мастацкіх інтарэсаў могуць задаволіць і літаратараў, і мастацтвазнаўцаў, і звычайных гледачоў. Бо сярод тэлетвораў майстра — «Канат» А. Алегрыя (1980 г.), «Безназоўнае» Янкі Купалы (1982 г.), «Федра» Ж. Расіна (1983 г.), «Ткачы» Г. Гаўптмана (1969 г.) «Млын на Сініх Вірах» У. Караткевіча (1959 г.), «Якаў Багамолаў» Максіма Горкага (1959 г.), «Успамін пра два панядзелкі» А. Мілера (1961 г.), «Палікушка» Л. Талстога (1960 г.)... Усяго налічыла 35 (!) пастановак. А колькі было разнастайных перадач, што складаюць будзённую працу тэлерэжысёра...

Дарэмна перакладаць на паперу экранную мову майстра, бо мастак жыве ў сваіх творах і заўжды адыходзіць заўчасна. І жыве столькі, колькі свеціцца блакітны экран яго натхнёнымі вобразамі, і да той хвіліны, пакуль застаецца ў яго хоць адзін удзячны глядач.

Здаецца, чаго прасцей — прапанаваць рэтраспектыву тэлеспектакляў В. Карпілава, якія захаваліся ў фондах БТ. Мяркую, такі цыкл — просты абавязак рэспубліканскага тэлебачання. І тутэйшыя людзі ацэняць гэты «жэст» мясцовага вяшчання. Бо, праўду кажучы, у палоне татальнай кебічыяды можна не толькі прытомнасць страціць, але і ... памяць.

Вярніце эфір героям...

**Наталля АГАФОНАВА**

Тэатр

# «АБЗАЦ» З «МАЛЕНЬКАЙ БАЛЕРЫНАЙ»



Інсцэніроўка класікі — справа ў нечым лёгкая, але разам з тым — цяжкая і не заўсёды ўдзячная. Лёгкая — бо класічны твор, як правіла, заўсёды паўнакроўны, персанажы «зрокавыя», выпісаны да канца, псіхалагічныя і сюжэтная хады вывераныя — таму інсцэніроўшчыку, нібыта, толькі і застаецца, як ісці след у след за аўтарам. Цяжкая і не заўсёды ўдзячная — бо любая спроба «падкарэктаваць» аўтара, саступіць убок, любыя новаўводзіны тояць у сабе небяспеку аслабіць твор-першакрыніцу, парушыць яго архітэктоніку і — як вынік — парушыць самую ідэю, закладзеную аўтарам.

Малады празаік і драматург У. Клімовіч смела ўзяўся за інсцэніроўку апавядання У. Караткевіча «Маленькая балерына» — гэты, без перабольшання, шэдэўр нашага класіка, створаны ў далёкіх 60-х.

Скажу шчыра: ішоў я на прэм'еру спектакля ў тэатр-студыю «Абзац», што ў Мінску на вул. Рэвалюцыйнай, 9, не без боязі расчаравання. У свой час апавяданне Караткевіча, надрукаванае дзякуючы В. Сёмуху перш у «Нёмане», потым у «Маладосці», уразіла мяне сваёй адкрытасцю, прастатой, мастацкасцю і адначасова такім падтэкстам, такім трагізмам чалавечых лёсаў!.. Мне было дарагое гэта апавяданне, і я баяўся інтэрпрэтацыяў яго, якія маглі б пабурыць тыя вобразы, што ўжо жылі ў маім уяўленні. Я баяўся, што пачую са сцэны такую абрыдлую за апошнія гады, прымітыўна-прамалінейную «Крытыку» Сталіна (тым больш, задума Караткевіча была трохі іншая); яшчэ больш непрыемна было б пачуць і ўбачыць на сцэне «праекцыю» апавядання на цяперашні час (скажам, калі пад галоўным героем — ІМ — будзе мецца на ўвазе які-небудзь сённяшні наш кіраўнік рэспубліканскага маштабу). Гэта быў бы самы лёгкі, а таму «правальны» шлях... Але, да вялікага майго задавальнення, боязь гэтая не спраўдзілася.

Найперш прыемнасць была ад самой залы — невялікай, утульнай, з выдатнай акустыкай, дзе нават шэпт добра чуваць у самым дальнім кутку. Адразу на адпаведны лад настройвала і густоўнае афармленне сцэны. Калі ж пачаўся спектакль, з першых рэплік акцёраў стала ясна, што У. Клімовіч разам з галоўным рэжысёрам А. Маркевічам беражліва паставіліся да тэксту «Маленькай балерыны». Яны змаглі захаваць і данесці да гледача галоўнае: аўтарскую задумку і, самае важнае, настрой, ствараемы на кантрастах — то ўзнёсла-лірычны, то — раптоўна — трывожны, бы ў чаканні непазбежнае бяды...

Уласна інсцэніроўка звялася да чатырох дзейных асоб. Не патрапілі ў спектакль такія персанажы, як Віцька — каханы маленькай балерыны, дзядзька Антон, кіраўнік харэаграфічнай студыі Нісоўскі, Стораў — асобы, якія ігралі важную ролю ў апавяданні, але якія маглі б ацяжарыць сцэнічную пастаноўку. У цэнтры спектакля — дэспатызм манарха, і разам з тым — трагедыя яго, бо ЁН — абсалютны ўладар сваёй дзяржавы — на справе не можа зрабіць нават самага, здавалася б, лёгкага для ўладара: канкрэтна памагчы аднаму са сваіх незлічоных падданых — маленькай прыгожай балерыне, якая безабароннасцю змагла разварушыць у ім нешта чалавечае... Усе намаганні Самага Галоўнага Чалавека (у спектаклі — В. Кастальцаў) дапамагчы Ніне (А. Гавядзінава) абарочваюцца для яе толькі яшчэ большымі непрыемнасцямі і, урэшце, трагедыяй расчаравання нават у «самых вялікіх і галоўных».

На маю думку, спектакль «Маленькая балерына» можна назваць творчай удачай і перспектыўнага драматурга У. Клімовіча, і ўжо вядомага ў тэатральных колах рэспублікі, таленавітага рэжысёра А. Маркевіча, і В. Дзяржынскага, які стварыў настрой гледачам музычным афармленнем, і мастака С. Антонава... Асобна, колькі слоў, хацелася б сказаць пра ігру акцёраў. Відаць, не аднаму мне найбольш запомнілася юная, прывабная, такая непасрэдна-шчырая Ніна — А. Гавядзінава; выдатна справіліся са сваімі функцыямі Клікуны — студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў А. Грысевіч і В. Янушка, якія «цягнулі лямку» апавядальнікаў, памагатых на сцэне, целаахоўнікаў Самага Галоўнага Чалавека, танцораў балетнай студыі і інш. Урэшце, Самы Галоўны Чалавек — В. Кастальцаў, — то задуменны, то жорсткі, то па-»царску» нязграбна-жартаўлівы, то (як мне здалося, адзін з самых моцных момантаў у спектаклі) шчыра-няшчасны — калі пад уражаннем ад дзіцячай непасрэднасці Ніны, якая падабалася яму, збіраецца кінуць усё і ехаць у вёску (у Караткевіча, успомнім, гэты момант апісаны так: «...Чалавек, якога ўлада ўзвяла да неверагодных вышыняў, улада, якую ён змяняў бы ў гэтую хвіліну на сціплую хату ў бярозавым гаі і на такую вось (як маленькая балерына. — А. Ф.) дачку»)...

«Маленькая балерына» — другі беларускамоўны спектакль тэатра-студыі «Абзац» (першы — «Раскіданае гняздо»). Што ж, застаецца толькі падзякаваць калектыву гэтага сімпатычнага тэатра за яго працу і, па традыцыі, пажадаць так трымаць і надалей.

**А. ФЕДАРЭНКА**

*На здымку: Самы Галоўны Чалавек (В. Кастальцаў).*

Наш каляндар

**4 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння актыўнага дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі Анатоля АЛЬШЭЎСКАГА (1904—1937). Уладзімір Калеснік прысвяціў яму дакументальна-мастацкую аповесць «Пасланец Праметэя».

**6 ліпеня** — 130 гадоў з дня нараджэння народнай спявачкі, маці М. Гарэцкага Ефрасінні ГАРЭЦКАЙ (1864—1935). У 1928 годзе ён выдаў зборнік «Народныя песні з мелодыямі» (мелодыі запісалі А. Ягораў і М. Аладаў).

**7 ліпеня** — 125 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, архітэктара Лявона ВІТАНА-ДУБЕЙКАЎСКАГА (1869—1940). Рукапісны зборнік беларускіх прыказак, складзены ім, захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Летувы.

**7 ліпеня** — 70 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Яўгена КУРТО (1924—1993). З першымі апавяданнямі выступіў у друку ў 1948 годзе. Выдаў шэраг кніг для дзяцей, займаўся перакладам.

**12 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння сястры А. Александровіча, літаратуразнаўцы і педагога Алесі АЛЕКСАНДРОВІЧ (1904—1947). Аўтарка артыкулаў пра творчасць Я. Купалы, З. Бядулі, А. Куляшова, П. Труса, К. Чорнага. Вядома і як перакладчык. Склала шэраг чытанак для пачатковых класаў.

**12 ліпеня** — 85 гадоў з дня нараджэння рускага паэта Пятра СЯМЫНІНА (1909—1983). Пераклаў на рускую мову асобныя вершы Я. Коласа, урыўкі з паэм «Адплата», «Новая зямля», «Рыбакова хата» і творы іншых беларускіх аўтараў.

**15 ліпеня** — 85 гадоў з дня нараджэння яўрэйскага пісьменніка Моты ДЗЕГЦЯРА (1909—1939). Пісаў на яўрэйскай мове. Першае апавяданне апублікаваў у 1930 годзе. Выйшлі кнігі прозы «На рыштаваннях» (1934), «Савецкая Беларусь» (1935), «Будаўнікі» (1936), «Браты» (1937), «Верныя вартавыя» (1938), «Наша зямля» (1939).

**24 ліпеня** — 140 гадоў з дня нараджэння рускага літаратуразнаўцы Аляксандра АРХАНГЕЛЬСКАГА (1854—1926). У 1888 годзе выдаў «Нарысы з гісторыі заходнерускай літаратуры XVI—XVII стст.», у якіх даследаваў беларускую літаратуру.

## ДЗЯКУЮЧЫ «ТЭХНАЛОГІІ»

**прыйшоў чарговы за сёлетні год (травень—чэрвень) нумар старэйшай газеты беларускага замежжа «Беларус». Перадрук з арыгінала зроблены ў колькасці 800 асобнікаў, а набыць гэтае выданне можна ў Мінску, у кіёску Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, што знаходзіцца насупраць ГУМа.**

**Першую паласу «Беларуса» займаюць перадвыбарныя матэрыялы Беларускага народнага фронту. Змешчана паведамленне аб маючай адбыцца (3—5 верасня) чарговай, 21-ай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, а таксама праграма яе.**

**Шырока асвятляецца тое, як у замежжы адзначылі 76-ыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Звяртаецца «Беларус» і да падзей другой сусветнай вайны. Надрукавана нататка Е. Тамашэўскага «Колькі слоў пра ўдзел беларусаў у арміі ген. Андэрса» і ўрывак з успамінаў П. Сыча «Смерць і салаўі», што расказвае пра славутую бітву пад Монтэ-Касіна, у якой пяцьдзесят гадоў назад, як вядома, чынны ўдзел прымалі і многія беларусы.**

**Пазнавальная нататка «Лецыі пра Беларусь». З яе даведваемся, што ў сярэдняй школе Гілсайд, у штаце Нью-Джэрсі, у рамках праграмы Дзень Разнароднасці адбыліся лекцыі пра Беларусь і яе нацыянальную культуру. Іх для вучняў сёмага класа чыталі Ірэна Дутко, Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч, Наталля Русак. Дзеткам было падорана шмат кніжак пра гістарычную Бацькаўшчыну.**

**У другой інфармацыі паведамляецца, што Я. Запруднік ва універсітэце ў горадзе Калумбусе выступіў з лекцыяй «Найважнейшыя падзеі і праблемы Беларусі». Там праходзіла спецыяльная канферэнцыя, прысвечаная пытанням Прыбалтыкі, Украіны, Беларусі і Малдовы, слухачамі яе з'яўляліся выкладчыкі, навукоўцы і студэнты розных вышэйшых навучальных устаноў Злучаных Штатаў Амерыкі — усяго больш за сто чалавек. Акрамя таго Я. Запруднік па запрашэнні Беларуска-амерыканскага задзіночання наведаў Кліўленд, дзе выступіў перад беларускай грамадой з інфармацыяй пра апошнія падзеі на Беларусі.**

**Яшчэ адна цікавая інфармацыя. У Атаве праходзіла выстаўка васьмі прафесійных мастакоў. Сярод запрошаных была і беларуска Івонка Шыманец-Сурвіла. Яна выставіла шэсць сваіх твораў, усе — беларускай тэматыкі.**

**К. Акула («На канферэнцыі пісьменнікаў у Атаве») дзеліцца ўражаннямі ад гэтага творчага форуму, на якім сабраліся прадстаўнікі «каля 30 ці больш розных этнічных груп ды можа столькі ж моў і культур».**

## З ГЕРОЯМІ МІНУЛАЙ ВАЙНЫ

**пастаянна знаходзіцца Пётр Дурчын. Не адзін дзесятак гадоў ён звяртаецца ў сваёй творчасці да ўсенароднага подзвігу, асаблівую ўвагу ўдзяляючы тым, хто першым сустрэў нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Тэма абароны Брэсцкай крэпасці — галоўная ў творчасці П. Дурчына. Ён стварыў больш за пяцьдзесят графічных партрэтаў абаронцаў крэпасці над Бугам. Прытым да кожнага з тых, хто застаўся ў жывых, з'ездзіў, каб дасягнуць большай праўдзівасці і пераканаўчасці.**

**З творамі П. Дурчына цяпер можна пазнаёміцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Прадстаўлены і партрэты, і тэматычная кампазіцыя. Ці не ўсе іх аб'ядноўвае тэма барацьбы з фашызмам.**

## ЗАСПЯВАЕМ РАЗАМ, СОРАС!

**Харавая капэла Акадэміі навук Беларусі, якой кіруе Т. Слабодчыкава, узнагароджана сярэбраным дыпломам на III Міжнародным харавым конкурсе, што праходзіў у італьянскім горадзе Рыва дэль Гарда. Выступленне гэтага самадзейнага калектыву за мяжой — не рэдкасць. Артыстам акадэміі апладзіравалі аматары харавой песні Германіі, Польшчы, Эстоніі, Малдавіі і іншых краін. Але гэтае творчае спаборніцтва было надзвычай аўтарытэтнае. На конкурсе у Рыва дэль Гарда з'ехаліся прадстаўнікі дваццаці дзвюх краін свету. Праўда, апошнім часам харавой капэле ўсё складаней знайсці сродкі для паездак. Так было і гэтым разам. Ды знаходлівыя людзі падказалі: «А чаму б не звярнуцца ў Фонд Сорас — Беларусь?» І сапраўды, там да запатрабаванняў капэлы аднесліся з разуменнем.**

# «МОЖА БЫЦЬ, НАМ УДАСЦА ПРАГАВАРЫЦЬ ТРАДЫЦЫЮ»

*(Пачатак на стар. 5)*

акрамя М. Гарэцкага, такога помніка ў гістарычнай прозе свайму роднаму куту не паставіў... Хіба што Уладзімір Арлоў будуе такі помнік роднаму Полацку, наследуючы настаўніка. І ён, і Кастусь Тарасаў атрымалі блаславенне Улашчыка і ўспамінаць аб гэтым ім варта было б часцей. Ці гэта інтуітывізм перашкаджае?

М. Улашчык вяртаў Беларусі яе гісторыю. А зараз трэба вярнуць Беларусі яго самога. Вярнуць, перавыдаўшы яго працы, якія даўно ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, вярнуць, праводзячы акадэмічныя чытанні яго памяці, вярнуць, устанавіўшы імянную стыпендыю на гістфаку БДУ. Нарэшце, выдаць нявыдадзенае, у тым ліку і рэцэнзію на рукапіс М. Ермаловіча. Дык будзем чакаць 1996 года — 90-х угодкаў з дня нараджэння, ці хутчэй наважымся нешта зрабіць?

**— Мабыць, мы невыпадкова выйшлі на тэму інтуітывізму. Калі браць шырэй, то і ў іншых галінах гуманітарнай веды — літаратура-, мастацтвазнаўстве і інш. — пашырыўся гэты «метад» работы. Мне здаецца, гэта ўвогуле прыкмета пэўнага *крызісу* нашай сучаснай гуманістыкі, менавіта таго, што наша гуманістыка пазбаўлена пад сабой пэўнай жыватворнай *традыцыі*, з якое ж і павінна, і можа вырастаць сапраўдная навуковасць. Як вы гледзіце на гэтую праблему?**

— Наконт «крызісу» ў гуманістыцы, і, шырэй, у культуры я не пагаджуся. Не пагаджуся нават з магчымасцю крызісу. На мой погляд, тое, што мы звыкла ці па інерцыі называем крызісам у гэтых сферах, ёсць толькі змена форм. Старая форма памірае, і гэта заканамерна, а нам здаецца — крызіс. Культура і гуманістычная традыцыя пастаянна мяняюць свае формы, перацякаючы з аднае формы ў іншую, з прыступкі на прыступку, са сферы ў сферу. Іншы раз моваю культуры гаворыць горад, затым — вёска. Больш таго, гэтыя рэчы (я менавіта так і хачу сказаць — рэчы, і гэта слова не культуролага, а гісторыка) валодаюць надзвычайнай здольнасцю да рэгенерацыі і змены функцый. На нейкім гістарычным адрэзку культура і гуманітарная традыцыя найбольш голасна гавораць аб сабе моваю архітэктуры, на іншым — кнігадрукаваннем, на яшчэ нейкім — росквітам інтуітывізму.

Што ж датычыць традыцыі, то ў пошуках яе я схільны ісці следам за Фрыдрыхам Аўгустам фон Хаекам: «Традыцыі знаходзяцца *паміж* інстынктам і розумам — у лагічным, псіхалагічным і часавым сэнсе». Упэўнены, што інстынктамі беларусаў Бог не абдзяліў; сустракаемся таксама і з праявамі розуму, — значыць, палетак для пошуку традыцыі ёсць. Трэба шукаць!

**— Мы разам з вамі назіраем сёння спробы нашых раўналеткаў нейкім чынам фарсіраваць «еўрапеізацыю» беларускай культуры, навукі і мастацтва. Як бы вы ацанілі плённасць гэтых спроб і ці бачыце ў іх перспектыву?**

— Такі «фарсаж» мне па душы. Стагоддзямі гісторыя і геапалітыка працавалі супраць беларусаў, пазбаўляючы іх традыцый: традыцыі дзяржаўнасці, традыцыі гарадскога жыцця, традыцыі вайсковай справы, традыцыі кнігадрукавання, традыцыі мовы і шмат яшчэ якіх традыцый. Зараз, у пару ўсеагульнага збянтэжання, «вялікай смуты» і на Захадзе і на Усходзе, у Беларусі ёсць шанц аднавіць парушаныя традыцыі.

Парадокс, падгледжаны ў рэчаіснасці: мы ведаем Еўропу лепей, чым яна нас. Але ж у Еўропы быў час напрацаваць свае традыцыі, а ў нас яго няма. Тады, можа быць, нам удасца не пражыць, а — *прагаварыць* гэтыя традыцыі і такім чынам далучыцца да іх? Толькі не трэба глядзець на Борхеса, як Ленін на Карла Маркса...

**— Мне здаецца, асноўная цяжкасць «прагаворвання» будзе палягаць у браку метадалогіі, з аднаго боку, і — спакусе міфатворчасці, з другога. Як бачыцца вырашэнне гэтай цяжкасці?**

— Для мяне бессумніўнае правіла: я магу займацца вывучэннем гісторыі, але не магу яе вынаходзіць. Зрэшты, мне міфалагізм не пагражае, бо ёсць імунітэт. Пры жаданні я й сам магу быць міфатворцам: напрыклад, для мяне беларусы — гэта кельты сярод славян. Браты беларусаў у Еўропе — не па крыві, па менталітэце — ірландцы, славакі і сіцылійцы. А, можа быць, — і па крыві... Але тая апантанасць, з якою нас штурхаюць з аднае утопіі ў другую, насцярожвае. У XX стагоддзі мы ашчаслівілі чалавецтва дзвюма буйнейшымі катастрофамі: сацыяльнай — рэвалюцыя, і тэхнічнай — Чарнобыль. Назіраючы сённяшнія палітычныя гульні, ніякавата бачыць, што іншага сродку развітання з мінулым, апроч антыкамунізму, няма. Сёння мы працягваем ганіць улады не за тое, што будавалі сацыялізм, а за тое, што яго не дабудавалі. Нашыя закіды сацыялізму зусім іншага кшталту, чым непрыманне яго ідэй на Захадзе. (Гэта не занепакоенасць чалавека, які баіцца ўсё згубіць альбо ўсё ўжо згубіў, — гэта нянавісць таго, хто заблудзіўся, і так нічога і не знайшоў...)

Прычына гэтага — найперш беднасць метаду. Традыцыі, аб якіх мы з вамі гаворым, маюць мноства псеўданімаў, і адзін з іх — метадалогія. Метадалагічнае ўбоства родных гуманітарыяў жахае — дастаткова зірнуць на новыя школьныя падручнікі. А хутка ж і універсітэцкія напішуць!..

Аб метадалогіі можна гаварыць доўга. Яшчэ болей можна гаварыць пра метадолагаў, сярод якіх сустракаюцца вельмі забаўныя людзі. Як сваё сціслае, унутранае, асабістае вызначэнне метадалогіі, я называю яе станам навуковай цяжарнасці. Метадалогія, як і кожная абстрактная тэарэтычная канструкцыя, стварае поле мыслення. Тут варта нагадаць аб тонкасці, абавязковай для зносін з мысліцельнымі прасторамі. Яны ўводзяцца дзеля таго, каб на іх забыцца, як толькі яны выконваюць сваё прызначэнне. І аб гэтым «забыцца» трэба памятаць.

**— Не можам абмінуць сакраментальную тэму: інтэлектуал і палітыка...**

— На маю думку, няма нічога больш варожага інтэлекту, чым палітыка. Калі інтэлектуал сыходзіць у палітыку, бясспрэчна адно — мы губляем фізіка, археолага, паэта... Ці набываем пры гэтым палітыка — вялікае пытанне. І, тым не менш, хваля за хваляй ідуць інтэлектуалы ў палітыку. Рухае іх асабісты інтарэс. Уласная незразумеласць, памножаная на ідэал служэння народу, — страшэнная сіла. Дадам, што шлях з інтэлектуалаў у палітыкі магчымы. Але рэдка каму шанцуе вярнуцца назад. Гісторыя не падае прыкладаўператварэння ў інтэлектуалы прыроджаных палітыкаў.

Палітыкі інстынктыўна варожыя інтэлектуалам, бо ведаюць, што апошнія штораз узломваюць іх каставую замкнёнасць. Больш таго, інтэлектуалы ў кожны момант гатовы палітыкаў замяніць, а адказаць тым жа палітыкі не могуць... З універсітэта альбо Акадэміі навук шлях ва ўладарныя эліты адкрыты. А вось зваротнага шляху — няма... Намінальна, канешне, можна здабыць і навуковую ступень, і прафесарскае званне, і нават чын акадэміка — усё тое прыдумана палітыкамі для ўтаймавання інтэлектуалаў, — але інтэлектуальнае асяроддзе адторгне палітыка. Калі заўгодна, ступень палітызацыі любой галіны чалавечых ведаў адваротна прапарцыянальна прысутнасці духу інтэлектуалізму ў ёй.

Часцей, чым непасрэднае ўваходжанне ва ўладу, інтэлектуалы прапаноўваюць уладзе свае паслугі. З гэтым я магу пагадзіцца, але да пэўнае мяжы. Справа інтэлектуала — прапанаваць меню, справа палітыка — зрабіць выбар. Таталітарнае грамадства — сталоўка з комплекснымі абедамі, дэмакратыя — рэстарацыя з шыкоўным меню.

Сам я нічога не маю супраць палітыкі і палітыкаў, але трымаюся ўласнага разумення іх. Сваю пазіцыю вызначыў бы так: у палітыцы, але па-за партыямі.

Карэннае адрозненне палітыка ад інтэлектуала ў тым, што палітык усё і заўсёды тлумачыць іншым, але ніколі — сабе. Урэшце, у «праваДырстве» і заключаецца яго прафесійны доўг.

Інтэлектуальная дзейнасць мае характар поля. Палітычная, кіроўная дзейнасць — характар вектара. Гэта піраміда з ярка выяўленай асобай на вастрыі. Палітычны вектар небясконцы і мае межы. Толькі пракладка яго ў інтэлектуальным полі спрые яго пашырэнню. Аднак з'яўленне вектарных рысаў у інтэлектуальным полі сведчыць аб дэградацыі інтэлектуалізму. ПраваДырства супрацьпаказана інтэлекту. І яшчэ. Чым больш магутнае ўздзеянне, чым менш яно дзейснае, асэнсаванае і мэтазгоднае, тым меней яно здольна спарадзіць традыцыю. Гэта тычыцца і свету прыроды з яе катастрофамі, і свету людзей з іх войнамі і рэвалюцыямі. Мяне, аднак, суцяшае, што ёсць у свеце рэчы з іншай вартаснай накіраванасцю, чым эканамічны дабрабыт ці сучасныя палітычныя баталіі. І сярод тых іншавартасных рэчаў — гісторыя. Я цешуся, што ў гісторыі няма прыватных прыкладаў, яна ўся — прыватны прыклад. Даць сваё разуменне таго, хто мы ёсць, і таго, кім былі, — вось рамкі, дастатковыя для гуманітарыя. Усё астатняе — ад ліхога... ці ад палітыкі.

**Гутарку вёў Юрась ЗАЛОСКА**

# ХТО АДКАЖА?

*(Пачатак на стар. 9)*

стала, і валасы выпалі. Зірне на сябе ў люстэрка — дзяўчынка ўсё ж такі — і не цікава ёй, зірне ў акно на сяброўак — таксама не цікава, не просіцца пагуляць. Тэлевізар уключу — адварочваецца, толькі кніжку калі-небудзь пачытае і ў столь глядзіць. А што там, на столі? Лепей бы глядзела ў акно...

Плакаць я хутка навучылася без слёз. Дома плачу, на рабоце плачу, у аўтобусе, а ніхто не бачыць. Нават смяяцца навучылася плачучы, ці наадварот — смеючыся плакаць. Смяюся й плачу, і ніхто не ведае, што са мной. Усе гаварылі — мужная жанчына, а якая я мужная? Я не толькі плакала, я галасіла моўчкі, сама сабе...

Знешне я трымалася, як звычайна, абед, вячэру гатую — усё, як раней, толькі магу разы тры пасаліць, і сама ніяк не ўспомню — ела ці не? Бялізну пачну мыць — замачу й тое, што высушыла... І ў аўтобус сяду не той, паеду абы-куды. А вось з грашыма — я касіркай працую ў гастраноме — ні разу не наблытала, кожны дзень рубель да рубля, усё як след. Толькі часу не заўважала: сяду за касу, а ўжо абед, зноў сяду — вечар... Самае жахлівае — вечар. Не, ноч. Тут я аніводнай хвілінкі не прапушчу. Вось адна хвілінка, вось другая, вось трэцяя. Усе да адзінай пералічу. Вы ведаеце, колькі хвілін у начы? А я ведаю: колькі ў жыцця. Калісьці, пасля якога свята ці што, гаварыла: ой, сёння не выспалася, не ведаю, як да начы дажыць. А тут і тыдзень не сплю, і два, месяц — жыву.

Характар у мяне змяніўся. Усё жыццё я была маўклівая, нават казалі — жорсткая, а тут прыйдзе раніца, а я ўжо ўсміхаюся, бегаю па доме як маладая, кожнага абдыму, кожнаму добрае слова скажу, нават — кату. Кот у нас ёсць — вялікі, рыжы, шкадлівы, я яго не любіла, а то — і ката палашчу, кавалачак мяска дам. Ён заўсёды баяўся мяне, а тут трэцца ля ног, мурлыкае. Крыкну на яго, нагой адпіхну — усё роўна трэцца...

І пагляднейшая я стала, чымся раней. Пачала адзявацца старанна, духі купіла імпартныя. Вяртаюся дамоў — абавязкова перад дзвярыма дастану духі. Дачка гаварыла: падыдзі, мама, дай панюхаць цябе... Парадку ў мяне ў кватэры ніколі не было, усё валялася, дзе кіну, і тыдзень і два, а тады ўсё заблішчэла — і вокны, і люстры, і посуд. Пылінкі нідзе няма. Раней прамыю што-небудзь — на кухні павешу, а цяпер — на двары, хай пахне свежасцю. Некаторыя гаварылі — каменнае сэрца ў жанчыны, дачка памірае, а яна духі купляе, сукенкі мяняе...

Але ж аднойчы і я заплакала — праз год, калі трэці раз прывезла яе з Бараўлян. Зірнула ў акно, а яна з сяброўкамі ў «класікі» скача... Вось тады і заплакала. Не, не заплакала — зараўла на ўсю хату, на ўвесь дом.

Нам, канечне, пашанцавала, проста пашанцавала. Адна мая знаёмая кажа: гэта ты яе ў Бога вымаліла. Не, усе маці, што са мной прыязджалі ў бальніцу, малілі, ды не ўсе вымалілі. Пашанцавала, відаць... Бачыце, ужо і валасы ў яе кучомяцца. Прыгожая будзе дзяўчынка, праўда?

Паказаліся карпусы бальніцы. Жанчына зірнула на гадзіннік, сказала крыху заклапочана:

— Спазняемся... Ну, нічога. Нас тут усе любяць, і сёстры, і дактары. Прабачце, што я гэтак разгаварылася. Не магу маўчаць — намаўчалася... — І раптам напружылася: — Дачушка, зірні. Хто гэта на ганку стаіць? Наш доктар? Ён!.. Страчае нас...

Яны выйшлі з машыны і паспешліва, подбегам кінуліся да доктара — ён таксама кіраваў да іх. З маці прывітаўся за руку, дзяўчынцы ўскудлаціў адрастаючыя валасы. Потым доктар з маці ажыўлена загаварылі між сабой, а дзяўчынка цярпліва чакала хвіліну, другую і раптам скокнула з ганка на адной назе, на другой... А калі затрымалася на імгненне, шукаючы раўнавагу, я ўспомніў, дзе бачыў яе: на шары. Тая ж ломкая постаць, танюткая шыйка, гэткія ж цені на твары і засяроджанасць: утрымаюся ці не?

Не ведаю, што азначае той шар у мастака — звычайная дэталь ці метафара жыцця, зямлі. Не ведаю, што — дзяўчынка: самае жыццё ці проста прывабная постаць. Зрэшты, не ў разгадцы знакамітага малюнка справа. У іншым, больш важным: трымайся, дзяўчынка. Шанц ёсць.

ЛІМ
ЧАСАПІС

## ПАЎЛУ АХРЫМЕНКУ — 75

**Вядомы беларускі і ўкраінскі крытык і літаратуразнавец Павел Ахрыменка з 1950 па 1972 год працаваў у Гомелі, займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Там жа, у Гомелі, у 1967 годзе ён выпусціў «Бібліяграфічны паказальнік прац аб беларуска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязях (1865—1965)». Творчым кантактам і ўзаемасувязям двух братніх народаў, іх літаратур прысвечана і кніга П. Ахрыменкі «Летапіс братэрства», што выйшла ў Мінску ў 1973 годзе. Акрамя таго, на творчым рахунку даследчыка ўдзел у калектыўных выданнях. У прыватнасці, ён з'яўляецца адным з аўтараў падручнікаў і дапаможнікаў для студэнтаў «Беларуская вусна-паэтычная творчасць», «Старажытная беларуская літаратура».**

**Жывучы апошнім часам у Сумах, П. Ахрыменка па-ранейшаму займаецца актыўнай даследчыцкай дзейнасцю. Не без удзелу яго праводзяцца розныя творчыя семінары, навуковыя канферэнцыі, на якія запрашаюцца беларускія навукоўцы, найперш выкладчыкі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.**

**Віншуем Паўла Паўлавіча з 75-годдзем! Зычым яму здароўя і творчай актыўнасці!**

## МІХАІЛУ БУЛАХАВУ — 75

**22 ліпеня сустракае сваё 75-годдзе вядомы беларускі мовазнавец Міхаіл Булахаў. Даўно і актыўна займаецца навуковай даследчыцкай дзейнасцю, рэгулярна выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы. Прыхільна былі сустрэты манаграфія М. Булахава «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX—XX стст. ва ўзаемаадносінах з іншымі славянскімі мовамі», выдадзеная ў 1958 годзе, даследаванне «Яўхім Фёдаравіч Карскі» (яно пабачыла свет у 1981 годзе).**

**Шырокі рэзананс меў складзены М. Булахавым кароткі энцыклапедычны даведнік «Слова пра паход Ігаравы ў літаратуры, мастацтве, навуцы», які выдавецтва «Універсітэцкае» выпусціла ў 1989 годзе.**

**З днём нараджэння, шаноўны Міхаіл Гапеевіч! Далейшага вам поспеху ў жыцці і навуковай дзейнасці!**

## РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫДАННЯ

**Новымі выданнямі збіраецца парадаваць чытачоў Беларускі інстытут навукі і мастацтва, што ў Злучаных Штатах Амерыкі. Ім падрыхтаваны кнігі, якія выклічуць заканамерную цікавасць і на Бацькаўшчыне. Прынамсі, складзены аднатомнікі выбраных твораў Уладзіміра Дудзіцкага і Міколы Целеша. Падрыхтаваны В. Пашкевіч «Англійска-беларускі слоўнік» (каля 30 тысяч слоў). Я. Максімюк напісаў «Гісторыю Беларускае гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, 1945 —1950».**

**Цяпер Управа БІНІМа пачынае збіраць сродкі сярод суайчыннікаў за мяжой, каб аплаціць расходы на выдавецкія і друкарскія патрэбы, а астатняя праца робіцца на грамадскіх пачатках.**

## ЯШЧЭ РАЗ УПЕРШЫНЮ

**Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла слоўнік «Самабытнае слова. Беларуская безэквівалентная лексіка ў рускамоўным дачыненні». Аўтар яго І. Шкраба першай уводзіць у шырокі навуковы ўжытак значную колькасць лексічных адзінак, што не маюць у рускай мове аднаслоўнага адпаведніка, таму перадаюцца апісальным спосабам. У якасці прыкладу выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял з твораў беларускай літаратуры.**

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫЯ: ВАЎКАЛАК!

**А таксама дамавік, лясун, вадзянік, русалкі... Многія прадстаўнікі беларускай народнай міфалогіі прапісаліся на старонках кнігі У. Васілевіча «Міфы Бацькаўшчыны», выпушчаной выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Ажываюць воблікі істот, створаных багатай фантазіяй народа, прываблiваюць самыя нечаканыя гісторыі, што знаходзяцца на мяжы фантастыкі і... рэальнасці. Так пра ўсё пераканаўча расказваецца, што хочаш-не хочаш, а часам і верыць пачынаеш. Што ж, невядомыя аўтары, валодаючы талентам, умелі самае неверагоднае паднесці так, быццам яно адбывалася ў сапраўднасці. У кнізе ж і прадстаўлены сюжэты, запісаныя ў свой час збіральнікамі непасрэдна ад саміх апавядальнікаў. Дарэчы, усе гэтыя звесткі былі раскіданы па самых розных публікацыях, асобныя з якіх шырокаму колу чытачоў недаступныя, а іншыя і ўвогуле захоўваюцца ў рукапісах. Тым самым У. Васілевіч зрабіў вельмі добрую справу, сабраўшы іх разам, пад адной вокладкай.**

Іван ЧАРОТА

# «ЮГАСЛАВІЯ, ЮГАСЛАВІЯ!..»

## НАТАТКІ ЎДЗЕЛЬНІКА БЯЛГРАДСКАЙ МІЖНАРОДНАЙ СУСТРЭЧЫ ЛІТАРАТАРАЎ ПАД НЕЗНІКОМАЕ РЭХА ПРЫГОЖАЙ І ЎЗНЁСЛАЙ ПЕСНІ

Сербія ў блакадзе, пад жорсткімі санкцыямі, што адбіваецца на ўсіх сферах жыцця. Відаць, не толькі ў мяне слова «блакада» асацыіруецца з Ленінградам, партызанскімі зонамі Беларусі перыяду другой сусветнай вайны, як свядома, так і падсвядома абумоўліваючы адмоўную рэакцыю. Пэўна, час цяпер іншы, змяніліся па форме ўзаемаадносіны дзяржаў свету, не тое ўжо размеркаванне сіл, сімпатый і саюзніцкіх абавязкаў у свеце, таму і вынікі розняцца, пакуль што. Аднак ранейшы сэнс захоўвае пытанне «агульных прынцыпаў». Не прэтэндуючы ахапіць усё адразу, спынюся на тым, што мне бліжэй і лепш вядома. Шмат пёраў, дый жыццяў, паламана ў дыскусіях пра «свабоду рэальную і сапраўдную» — ідэал гэта, норма ў цывілізаваным грамадстве ці «замаскаваная (альбо хлусліва маскуемая) залежнасць» ад нечага ўсё роўна. Для большасці тых, хто зведаў на сабе варварскае ажыццяўленне прынцыпаў партыйнасці, падпарадкаванасці актуальным інтарэсам партыі, дзяржавы, лагера краін, здавалася шляхаводнай зоркай нязменна дэкляруемая ў «вольным свеце»: змешваць палітыку з культурай абсурдна; асоба творчая павінна мець права на самавыяўленне і на самастойную пазіцыю; культуру нельга замыкаць у нейкіх межах, ізаляваць у стасунках, бо гэта пагібельна. Між тым згаданыя дэкларацыі і санкцыі, кажучы мякка, не стыкоўваюцца, хоць і зыходзяць з таго самага боку. Рэальнасць такая, што ні ўстановы, ні асобныя дзеячы мастацтва, культуры, навукі Сербіі ды Чарнагорыі (толькі) не могуць браць удзелу ў міжнародных фестывалях, конкурсах, выставах, сімпозіумах. Пад пагрозаю таксама ўсе мерапрыемствы адпаведнага ўзроўню, якія арганізоўваюцца ў самой СРЮ: замежныя патэнцыйныя ўдзельнікі баяцца альбо становішча, альбо высноў сваіх урадаў з-за парушэння правілаў блакады. А разам з тым і складзеныя традыцыі, і не страчаны гонар, і элементарны інстынкт выжывання не могуць дапусціць, каб навуковае, культурнае, мастацкае развіццё замерла. Так што, насуперак усяму, не прыпыняюць сваіх кантактаў з замежжам такія інстытуцыі, як Міжнародны славістычны цэнтр, Асацыяцыя перакладчыкаў, Пэн-цэнтр, Аб'яднанне пісьменнікаў. І я асабіста, ужо апошнім часам, атрымліваў запрашэнні ад іх узяць удзел у мерапрыемствах, якія сталі традыцыйнымі. Дзяржава, дарэчы, нават у лепшыя часы не брала на сябе абавязкаў утрымліваць згаданыя і да іх падобныя арганізацыі. Пры цяперашнім стане тым болей. Аднак, што паказальна, яшчэ дбайней да культуры пачалі ставіцца недзяржаўныя ўстановы рознага профілю, прадпрыемствы, прыватныя асобы як фундатары. Спадзяюся, чытачы зразумеюць, калі ў сувязі з гэтым само па сабе напросіцца параўнанне: колькі нашых навукоўцаў, артыстаў, мастакоў, літаратараў, не атрымаўшы камандзіровак ад збяднелай дзяржавы, пазбавіліся магчымасці ўдзельнічаць у карысных (не ім асабіста) і прэстыжных мерапрыемствах за мяжою! Я асабіста за бягучы год атрымліваў многія запрашэнні, але нават не мог даць на іх прыстойнага адказу, бо, скажам, білет у тую ж Югаславію каштуе гэтулькі, што дацэнтаўскай платаю за паўгода не пакрыць, а ганарарамі і за тры гады. Таму асаблівай удзячнасці заслугоўваюць тыя, хто разумее і падтрымлівае. У маім выпадку — Фёдар Мікалаевіч Капуцкі.

Мне давялося-такі быць удзельнікам XXX Міжнароднай сустрэчы літаратараў, якую Аб'яднанне пісьменнікаў і Пэн-цэнтр па сталай традыцыі правялі ў Бялградзе 19—26 кастрычніка ўжо мінулага года. Першы такі збор прайшоў у кастрычніку 1964-га, калі адзначалася дваццатая гадавіна вызвалення Бялграда, і вось дагэтуль наладжваецца як штогадовы і міжнародны, удзел у якім бралі сотні літаратараў замежнага свету, сярод якіх нашы былыя суграмадзяне М. Алігер, В. Аксёнаў, Г. Бакланаў, Ё. Бродскі, А. Бучыс, В. Бэлшавіца, У. Вайновіч, У. Дрозд, Д. Кугульцінаў, Э. Межэлайціс, Ю. Нагібін, а таксама і прадстаўнікі розных кантынентаў — напрыклад, Гюнтар Грас, Бернард Джонсан, Алеха Карпэнцьер, Анры Лефеўр, Рамеш Чандра Шах і многія іншыя. У 1974 годзе на Кастрычніцкую сустрэчу выязджаў Пімен Панчанка, запрашаліся туды Ніл Гілевіч, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Алесь Разанаў.

Паводле завядзёнкі праграма складаецца з дыскусій на папярэдне абвешчаную тэму, «круглых сталоў», паэтычнага фестывалю на гарадской плошчы, вечарын паэзіі ў культурных цэнтрах, бібліятэках, клубах, з экскурсій па краіне, наведвання славутых літаратурных і гістарычных мясцін.

Сёлетняя тэма фармулявалася так: «Пісьменнік у час ліха», а падтэмы — «Што сню і што са мною адбываецца (І. Андрыч)», «Таталітарызм і літаратура сёння», «Кон перасяленняў і выгнання (Ад Бібліі да Джойса, Мана і Црнянскага)». Разважаць, дыскутаваць было пра што. І было каму. Нягледзячы на блакаду, з'ехалася 27 прадстаўнікоў замежных краін (ЗША, Швецыі, Японіі, Венгрыі, Румыніі, Італіі, Аўстрыі, Тайваня, Кітая, Расіі, Вялікай Брытаніі, Францыі, Македоніі, Беларусі). Натуральна, калі не ўсе, дык пераважная большасць — неабыякавыя да лёсу культур былой і сённяшняй Югаславіі. Таму ў выступленнях гучалі і заклапочанасць, і парады, прапановы, як усталяваць мір, вярнуцца да нармальнага жыцця, і спагада ўсім, хто пакутуе пры цяперашнім становішчы. Удакладню, што палітызацыі, здавалася б, заканамернай, не было. Хутчэй наадварот, і гаспадары і госці намагаліся стварыць атмасферу чыста духоўнага і прафесійна літарацкага яднання, усім на карысць. Адзіная акцыя, што набыла палітычны змест — адозва да сусветнай грамадскасці, падпісаная замежнымі ўдзельнікамі, а прапанаваная пісьменніцай з Тайваня Чанг Шыянг Хуа. Кулуарныя размовы, асабліва сярод тых, хто наведаў Югаславію раней, вядома, часта зводзіліся да пытання, што было і што атрымліваецца зараз: не толькі выгляд у паселішчаў і вуліц, у дамоў і людзей іншы, але і паветра як быццам не тое... Абмен непасрэднымі ўражаннямі падагульняўся звычайна высноваю, што змены проста жахлівыя. Каб такое развіццё падзей з такімі наступствамі нехта прызнаваў лагічным і заканамерным, чуць не даводзілася. Суразмоўцы, наадварот, як правіла згадвалі, што Югаславія больш за ўсе астатнія краіны сацыялістычнай арыентацыі трымала курс на адкрытасць сусветным прагрэсіўным ідэям, не ўступала ні ў якія блокі, развівала прыватны сектар у эканоміцы, мела поспехі ў так званым «самакіраванні». Што да самасвядомасці з пункту гледжання «братэрства, адзінства», калегі-літаратары памяталі і памятаюць адназначна ўвасобленыя настроі многіх твораў — напрыклад, верша Ізэта Сарайліча «Патрыятызм югаслаўскіх пісьменнікаў» (паэт з Сараева, з Босніі, шырокавядомы ў свеце, і на беларускую мову перакладаўся; непасрэдна гэты верш пераклаў Я. Сіпакоў):

**Югаслаўскі пісьменнік**
**радуецца югаслаўскімі радасцямі,**

**смуткуе югаслаўскім смуткам,**
**святкуе югаслаўскія святы.**

**Не ведаю, ці адчуваеце вы,**
**які гэта горды верш!**

Больш-менш дасведчаныя ведалі, не сумняваліся ў шчырасці падобных радкоў. Зрэшты, многія самі гэта адчувалі, беручы ўдзел у аўтарытэтных міжнародных фестывалях мастацтва, навуковых сімпозіумах, кніжных кірмашах, якія рэгулярна праходзілі ў былой СФРЮ. А яшчэ ж і прамысловыя выставы, і ўплывовыя форумы палітычнага характару, і спартыўныя мерапрыемствы. Дарэчы, нядаўна (у Сараеве) гучалі не гарматы, а фанфары — праходзіла зімовая Алімпіяда. І зусім ужо блізкі той час, калі Бялград жыў надзеямі, што стане месцам правядзення летніх Алімпійскіх гульняў. Тады захоплена абмяркоўвалася, як стварыць найлепшыя ўмовы для прыёму спартыўнай эліты і многіх тысяч замежных гасцей. Між тым цяперашні клопат — размяшчэнне і забеспячэнне сваіх суайчыннікаў, бежанцаў, якіх тут да паўмільёна.

Дзіўна было б, каб гэта пакідала абыякавымі гасцей сустрэчы. А яшчэ больш дзіўна, каб да ўсяго заставаліся раўнадушнымі тамтэйшыя літаратары. Глабальная і вузкапрафесійная тэматыка не магла паставіць іх «над сутыкненнем». Былі, натуральна, і актуалізаваныя прамовы. Хапала вастрыні, скажам, у дакладах М. Егерыча (пра абумоўленасць творчай энергіі рознымі настроямі, у тым ліку нянавісцю), Д. Калаіча (погляд на калізіі вытокава-нацыянальнага і наднацыянальна-уніфікатарскага ў сучасным культурным працэсе), М. Шукалы (наконт ролі дзяржаўнай улады ў развіцці культуры, мастацтва, творчасці). Ды і ў гэтых выступленнях пераважалі не клікунства, галашэнне, заклікі мабілізавацца на падтрымку і да т. п. Гучала трывога, але ў роздуме, інтэлектуальных пошуках. Мяне, напрыклад, закранула думка, прыдатная і дзеля нашых умоў: «Мэта ўлады — не рай ствараць, а прадухіліць, каб стваралася пекла» (М. Шукала). Думаю, такія меркаванні падзяляю не я адзін.

Увогуле, аспект «сербская літаратура і палітыка» надзвычай складаны, багаты рознымі фактамі. Тут можна весці гаворку пра глыбокія традыцыі. Дастаткова згадаць аднаго з заснавальнікаў нацыянальнага прыгожага пісьменства, а таксама сербскай праваслаўнай царквы і дзяржавы Саву, уласна Святога Саву (1175—1235), які быў трэцім сынам вялікага сербскага жупана Стэвана Нэмані і ў мірскім жыцці зваўся Расткам. Чарговая значная веха сербскай гісторыі — так званае Першае паўстанне. Ваяводаю і старшынёю створанай тады незалежнай улады быў Мацiя Ненадавіч, таксама пісьменнік; удзельнік гэтага паўстання і славуты Вук Караджыч. Уладарыў Чарнагорыяй у XIX стагоддзі волат славянскай паэзіі Петар II Петравіч Негаш, пісьменнікам быў і легендарны чарнагорскі ваявода Марка Мілянаў. Ніяк не абмінуць і такія асобы, як Светазар Маркавіч — заснавальнік сацыялістычнага руху, Мілаван Джылас — лідэр камуністаў, а потым ліберал-дэмакрат, Драгіша Васіч — адзін з кіраўнікоў чэтніцтва. Пісьменнікаў, што знаходзіліся на дыпламатычнай службе, проста не злічыць: Любамір Ненадавіч, Грыгорый Трлаіч, Ёван Дучыч, Мілан Ракіч, Іва Андрыч, Мілаш Црнянскі, Мілан Дзедзінац, Радаслаў Пайкавіч...

У віры апошніх падзей таксама апынулася шмат літаратараў. Кожны са сваімі памкненнямі, ідэямі, вынікамі дзейнасці выступілі Добрыца Чосіч, Радаван Караджыч, Вук Драшкавіч, Ёван Радулавіч, Блажа Перавіч, Бранка Кітанавіч. У рознай ступені знаёмы асабіста і з творчасцю іхняй, не вазьмуся даваць нейкія абагуленыя ацэнкі. Спынюся толькі на асобе Чосіча. І таму, што асабістага знаёмства з ім не маю, і таму, што гэта першы прэзідэнт (ужо экс-) трэцяй Югаславіі, а галоўнае, што ён — пісьменнік надзвычай буйнога маштабу і з творчым наробкам, які зойме пачэснае месца не толькі сярод скарбаў нацыянальнай літаратуры. Апроч таго, ужо недзе з 60-х гадоў Чосіч адмежаваўся ад палітыкі афіцыйнай улады і да апошняга часу лічыўся дысідэнтам. Для мяне асабіста неспадзяваным было тое, што яго абралі прэзідэнтам СРЮ, а яшчэ больш неспадзяваным, што раптам пазбавілі гэтай пасады з фармулёўкаю: «за парушэнне Канстытуцыі». Бадай, не мне вызначаць, які прэзідэнт больш патрэбен цяперашняй Югаславіі — Добрыца Чосіч, а ці Зоран Ліліч. Разам з тым, навідавоку магутны розум, нядрэмнае сумленне дый значны грамадска-палітычны вопыт якраз гэтай асобы. Таму дапытваўся у многіх калег, як яны ўсё вытлумачваюць. І пачуў: «Відаць, адстаўка — меншая бяда, як абранне. Для самога Добрыцы». Неадназначная выснова, але сэнс мае: хоць бы той, што асацыіруецца з выслоўем пра Богава і кесарава.

Многа дыскусій звычайна вядзецца наконт адрознасці і спалучальнасці катэгорый «суб'ект — аб'ект — ахвяра... палітыкі». Менш за ўсё нас цікавіць умоўна-тэарэтычны бок пытання. Гэтаксама адсунуць можна і тое, што звязана з унутрыпартыйнай, роўна як і з міжпартыйнай, барацьбою, калі яна вядзецца ў мірных умовах. Але вось як гэта праяўляецца на лёсах пісьменнікаў (па прыродзе сваёй закліканых быць на Боскай службе) цяперашняй Югаславіі. Не называючы з розных прычын імёны, акрэслю некалькі выпадкаў рэальных і тыповых.

Актыўны і папулярны літаратар, што прадстаўляў, нібыта, чарнагорскі народ, сярод якога нарадзіўся, вырас у творчую асобу і правёў добры кавалак жыцця, раптам, прыняўшы каталіцкую веру, выехаў у Заграб, сталіцу ўжо не проста другой, але і варажнечаю аддзеленай рэспублікі, у той час як

*Працяг. Пачатак у № 26*

родны край у блакадзе. Адны калегі ўздыхаюць: маўляў, хто чужыя шляхі разбярэ... Другія лічаць, што за такое пракляне і род, і ўвесь народ.

А вось другая постаць. Узросту, на які звычайна прыпадае росквіт жыццёвых і творчых сіл, гэты чалавек ад пачатку сваё жыццё скіроўваў на самую мірную каляіну — пайшоў у настаўнікі, працаваў, як у нас кажуць, на перыферыі, каб дзятву баснійскіх сялян далучаць да разумнага, добрага, вечнага, сваю немалую сям'ю стварыў, і пісаў надзіва светлыя, сонечныя, вершы. Ён у Босніі нарадзіўся, потым у Сербскай Краіне жыў, перакананы, што ніхто не мае права на свой лад перакройваць межы, дзеля нейкіх там вышэйшых геапалітычных інтарэсаў. Ды наляцела віхура, моцна яго закруціла, шпурнула ў вязніцу, дзе праз катаванні адабрала шмат здароўя... Цяпер гэта перш за ўсё змагар, вой. А ў вершах ягоных усё большае гучанне набывае матыў: «Чалавек — звер. Усё новыя ліхадзеі сняцца».

І яшчэ. Сталага ўжо веку паэтэса з Босніі. Сербка паходжаннем, самавызначэннем, светапоглядам. Цяпер яна бежанка. Але не сам па сабе гэты статус, не адпаведныя матэрыяльныя страты яе прыгнятаюць, жахлівую тугу накладаюць на ўсё аблічча: два родныя сыны цяпер у «войску Аліінным» (г. зн. Аліі Ізэтбешавіча, мусульманскага лідэра). І не проста служаць, а мусяць ваяваць супраць сербаў-праваслаўных, суродзічаў па матчынай веры, мове, крыві. Ніхто з бялградскіх калег на каментарыі не адважваўся. Што называецца, няма слоў.

Цяжка знайсці таксама словы пра акты вандалізму ў дачыненні да пісьменнікаў, якія ўжо належаць вечнасці. На тэрыторыях, дзе распаўсюдзілася шаленства, без розніцы, былі там ваенныя дзеянні ці не, дэмантуюцца, па-варварску знішчаюцца, апаганьваюцца мемарыяльныя аб'екты, звязаныя з імёнамі Бранкі Радзічавіча, Евана Дучыча, Бранкі Чопіча, Івы Андрыча...

(І апошняга, між іншым, нібыта за прыналежнасць да сербства, хоць ён па крыві харват, па хросту католік, па светаадчуванні больш за ўсё басніец, а паводле мастакоўскай пазіцыі — надзвычай талерантны і аб'ектыўны. Хто жадае пераканацца, звярніцеся да яго твораў, дарэчы, толькі што выдадзеных «Мастацкай літаратурай» у серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», і дужа карысных у асэнсаванні цяперашніх падзей).

Пісьменства трымаецца на спалучэнні адвечных і надзённых функцый, з вопытам як станоўчым, так і адмоўным. Аднак пры любым варыянце канкрэтны пісьменнік здзяйсняе наканаванне толькі тады, калі жыццём і творчасцю ўвасобіць гістарычны лёс, карэнную існасць, адметны характар народа, незразумелы чужынцам, а таксама не заўсёды ўсвядомлены і большасцю носьбітаў самой нацыянальнай таямніцы. Бывае, што гэта выконваецца як пачэсны абавязак, усім прымальны і на розныя лады ўхвалены. Слава, трыумф. Але ж засталося месца і выпадкам, вышэйакрэсленым. Калі непазбыўны толькі крыж, які мусова несці скрозь пакуты. Трагедыя, перажыць якую пісьменнік здольны толькі пры свядомай ахвярнасці. Вось што не павінен абмінаць пабочны беглы позірк. А змест нашай гаворкі, відаць, будзе больш поўны і дакладны, калі мы разам ўчытаемся ў верш «Гімн» класіка новай сербскай літаратуры Мілаша Црнянскага (пераклад мой):

**Няма ў нас нічога. Ні цара, ні Бога.**
**Наш Бог — кроў.**

**З вышыні аднекуль накруціла снегу,**
**І роднага краю ніхто не пазнае.**
**Свае сем'і, хаты давялося страціць,**
**Можна спадзявацца хіба што на кроў.**

**Няма ў нас нічога.**
**Ні цара, ні Бога.**
**Наш Бог — кроў.**

**Ажывуць памалу цвінтары і скалы.**
**Ды віхура зоркі ў прорвы пакідала;**
**ані скарбу, ні прытулку,**
**ні нашчадкаў, ні бацькоў.**
**Засталася толькі яшчэ кроў.**

**Вой-ёй, ёй-ёй.**
**Страшна ганарымся мы крывёй.**

Незалежна ад асабістага прачытання, кожны з нас разумее, што гэта гімн не ў першасным сэнсе, не як услаўленне моцы, гераізму і г. д. Гучыць роспач, а не гонар. Падобна да купалаўскага «А хто там ідзе?». Ну, а каб змястоўнасць твора не абмяжоўвалася пафасам, даведка: Црнянскі напісаў гэты «гімн» як рэакцыю на войны, якія разам (дзве балканскія і першая сусветная) забралі трэць сербскага насельніцтва, а мужчынскага ледзь не палову. Гэтак пачыналася стагоддзе. І пад такім самым знакам канчаецца. Толькі ці адным сербам?

*Заканчэнне будзе*

# Клаўдзія КАЛІНА



25 чэрвеня 1994 года на 69-ым годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памерла пісьменніца Клаўдзія Каліна.

Клаўдзія Канстанцінаўна Каліна (Лукашэвіч) нарадзілася І лістапада 1925 г. у вёсцы Блювінічы Брэсцкага раёна. У 1953 г. скончыла Брэсцкае музычнае вучылішча. Працавала інструктарам мастацкай самадзейнасці ў гарнізонным Доме афіцэраў у г. Брэсце, пасля настаўніцай спеваў у школах Брэста, Кобрына, Віцебска, а з 1960 г. — Мінска.

Першыя апавяданні і казкі пачала друкаваць у дзіцячых часопісах у 1962 г. Аўтар кніжак для дзяцей: «Хлопчык-пакідайчык», «Забароненая песня», «Каляровыя месяцы», «Маці і сын», «Крылаты конь» і інш.

Светлая памяць пра Клаўдзію Канстанцінаўну Каліну, пісьменніцу, шчырую добразычлівую жанчыну, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

# ЯНА ЖЫЛА СВЕТЛА

Памерла Клаўдзія Каліна, дарагая Калінка-малінка, як пяшчотна называлі яе сябры. Доўга, цяжка хварэла, і ўсё ж верылася: выздаравее, бо столькі ж было ў яе жыццяздольнай сілы, трываласці, аптымізму, няўрымслівасці... Яна была прыгожай, любіла ўсё прыгожае і ўмела яго ствараць. Выдатна малявала, для многіх была нечаканаю выстава яе карцін і малюнкаў у Доме літаратара; так адкрылася новая гранка яе таленту. Клаўдзія Каліна цудоўна спявала, пэўны час нават працавала салісткай у філармоніі, потым гэтак жа захоплена, як усё рабіла, вяла ўрокі спеваў у школе. І сама яна была, як песня: заўсёды ў высокіх парываннях, у імкненні рабіць дабро. Умела шчыра сябраваць, з даверам ставілася да людзей, валодала рэдкімі здольнасцямі народнага лекара.

Ёй выпаў вельмі нялёгкі лёс, але ўсе цяжкасці Клаўдзія Канстанцінаўна ўспрымала цярпліва і мудра. Знаходзіла падтрымку ў працы, у яднанні з прыродай, людзьмі, песняй, з роднай зямлёй, якую апаэтызавала ў сваіх творах. Гэта была таленавітая пісьменніца, мастакоўская індывідуальнасць якой асабліва арыгінальна выявілася ў дзіцячай літаратуры. Умела гаварыць з дзецьмі дасціпна, займальна, непрыкметна раскрываючы ім прывабнасць і складанасць жыцця (апавяданні «Забароненая песня», «Світанне»). З тонкім адчуваннем асаблівасцей успрымання дзяцей малодшага ўзросту напісаны яе кнігі «Хлопчык-пакідайчык», «Каляровыя месяцы», якую склалі арыгінальна аўтарскія казкі, што сталі хрэстаматыйнымі. Аповесць «Бабуля Насця, дзед Адам, Петрык і каза Рагуля» заслугоўвае спецыяльнай размовы, бо ў ёй Клаўдзія Каліна пранікнёна расказала пра Беларусь, пра спрадвечныя маральныя каштоўнасці, якімі даражыў наш народ. Тут увасоблена шмат таго, што перажыта, перадумана самой пісьменніцай.

Прыгадваецца адзін яскравы эпізод з гэтага твора. Да бабулі Насці, выдатнай майстрыхі, якая ўпрыгожыла хату вышыванкамі, пасцілкамі і нават печ размалявала, звярнулася суседка:

— Навошта сядзіш над сваімі маляванкамі, час марнуеш, вочы слепіш і фарбы пераводзіш. І ні за табою, ні перад табою той капейкі...

— А навошта птушка спявае? — адказала пытаннем бабуля Насця...

Такой была Клаўдзія Каліна. Ніколі не была карыслівай, ніколі не адштурхнула іншых, каб выйсці наперад. Яна жыла светла, узнёсла, тварыла прыгажосць, служыла роднай зямлі сваёй, народу, не думаючы пра ўзнагароды. Проста інакш не магла!

Хай усё тое добрае, за што мы любім Клаўдзію Каліну, паўторыцца ў яе маленькіх чытачах. Хай напісаныя ёю творы ўзвышаюць, узбагачаюць душы дзетак-беларусаў не аднаго пакалення.

**Маргарыта ЯФІМАВА,**
**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

# Іван ЛАСКОЎ

2 ліпеня 1994 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Іван Ласкоў.

Іван Антонавіч Ласкоў нарадзіўся 19 чэрвеня 1941 года ў горадзе Гомелі ў сям'і рабочага. Выхоўваўся ў Магілёўскім спецыяльным дзіцячым доме. Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў 1964 годзе. Пэўны час працаваў у г. Дзяржынску Горкаўскай вобласці. Потым вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Некалькі гадоў (1966—1971) працаваў у газеце «Молодежь Якутии», у Якуцкім кніжным выдавецтве, а з 1977 года быў старшым рэдактарам часопіса «Полярная звезда» (Якуція).

Першыя вершы Івана Ласкова з'явіліся ў 1956 годзе на старонках газеты «Чырвоная змена». Пісаў на беларускай і рускай мовах. На рускай мове ўбачылі свет зборнікі паэзіі «Стихия» (1966), «Белое небо» (1969), паэма «Хромец» (1975), зборнік апавяданняў «Івановы» (1975). На беларускай мове ў розныя гады (1973 —1983) выйшлі з друку зборнік вершаў «Кружное лета», паэма «Кульга», а таксама кнігі для дзяцей: «Андрэй-Эндэрэй — справядлівы чалавек, або Беларусь на полюсе холаду», «Чароўны камень».



Светлая памяць аб здольным пісьменніку, чалавеку добрай душы і шчырых памкненняў назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці пісьменніцы Клаўдзіі Каліны і выказвае глыбокае спачуванне яе родным і блізкім.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны заўчаснай смерці Івана Ласкова і выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**



ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 7.07.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Тэлетыдзень

## ПАНЯДЗЕЛАК, 11.07

**Беларускае тэлебачанне**

9.00 Пад купалам Сусвету
9.10 Пяць хвілін на жарты
9.15 АВС-клуб
9.30 Існасць
10.00 «Праспект»
10.30 Акадэмічны час у Акадэмічным тэатры
11.30 Мультсерыял
12.00 «Маладзечна-94»
14.40 Дзелавы веснік
16.00 Навіны (Брэст)
16.15 Здароўе — дзецям
16.45 Навіны
16.55 Існасць
17.25 Навіны ВВС
18.00 «Незабыўнае»
18.25 «Піліпок», мульт
18.40 «Вялікая Айчынная», с. 20
19.25 «Баль над Пінай», ч. 3
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Тэлесябрына»
21.40 Спартыўны тэлекур'ер
22.00 Пад купалам Сусвету
22.10 «Карагод сяброў», ч. 4
23.10 НІКа
23.25 Надвор'е
23.35 «Забойства ў Рыме», м/ф (Італія)

**Канал «Астанкіна»**

5.30 Раніца
8.00 «Серабрысты званочак», мульт
8.15 Паглядзі, паслухай...
8.40 «Дзікая ружа»
9.05 «Прысвячэнне». Спявак І. Барысаў
9.25 Амерыка з М. Таратутам
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны
10.20 «Джыўс і Вустэр»
15.25 Комікс-бум
15.40 Наш музычны клуб
16.00 Зорная гадзіна
16.40 Кампанія «Мір»
17.25 Свет сёння
17.40 Азбука ўласніка
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.50 Мы
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Імгненні вялікага футбола
21.15 Сустрэчы для вас. Рэжысёр В. Фокін
22.00 Канал ілюзій
22.40 Праграма «Y»
23.15 Замак мастацтваў
23.55 Прэс-экспрэс

**Канал «Расія»**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Вуснамі дзіцяці
8.00 Навіны АВС
8.30 Зваротны адрас
9.00 «Блазан», м/ф
10.35 Тэлегазета
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Мульці-пульці
15.50 Там-там навіны
16.05 Ваенны кур'ер
16.20 Новая лінія
16.50 Бізнес у Расіі
17.20 Свята кожны дзень
17.30 Выратаванне 911
18.25 Наш сад
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Люстэрка мерцвяка», м/ф
20.35 Ніхто не забыты
20.40 ЭКП
21.00 Момант ісціны
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Праграма В. Вульфа
23.05 Рэпарцёр

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 «Агнявушка-паскакушка», т/ф
13.30 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
14.15 «Фімка», мульт
14.45 «Страсці», с. 2
16.15 Падарожжа па Усходзе
16.30 «Неразлучная пяцёрка», м/ф
17.45 «Праграма «Графіка» (Францыя), ч. 1
18.15 Мультфільмы
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
19.55 «Звычайная гісторыя», спектакль, ч. 1
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 Тэатральны бінокль
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Звычайная гісторыя», ч. 2

## АЎТОРАК, 12.07

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Эканамікст
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 Пяць хвілін на жарты
8.45 «Маладзечна-94»
10.45 Тэлеклуб «Гаў-гаў»
11.10 Трэці тайм
11.55 Грэка-рымская барацьба. Беларусь — Расія
12.55 «Нов і К»-топ-10
15.45 «Іван Чыгрынаў», д/ф
16.20 Ці любіце вы тэатр?
17.00 Існасць
17.30 Навіны
17.40 «Лёгкі хлеб», к/ф
18.00 Эканамікст
18.10 Навіны (Віцебск)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Эканамічная хваля
19.45 Мост
20.15 «Застаюся жыць...»
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Чыста англійскі поспех», м/ф (Вялікабрытанія), с. 1
22.35 Пад купалам Сусвету
22.45 НІКа
23.00 Надвор'е
23.10 Канкур
23.55 «След лёсу», д/ф

**Канал «Астанкіна»**

5.30 Раніца
8.00 Агляд рынку нерухомасці
8.15 Вясёлыяноткі
8.35 «Кутх і мышы», мульт
8.50 «Дзікая ружа»
9.15 Чалавек і закон
9.45, 23.50 Прэс-экспрэс
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.35 Навіны
10.20 «Джыўс і Вустэр»
15.25 «Вайна гобатаў»
15.50 Сінема
16.10 Джэм
16.40 За кулісамі
17.25 Дакументы і лёсы
17.40 Знак пытання
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.50 Тэма
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 З першых рук
20.55 Песня-94
21.45 «Апошняя мінута», м/ф (Італія)

**Канал «Расія»**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Музыка ўсіх пакаленняў
8.00 Навіны АВС
8.30 Ранішні канцэрт
8.45 Момант ісціны
9.40 Тэлегазета
9.45 «К-2»
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Не быць дыназаўрам
17.05 Вечар французскага кіно
17.45 Свята кожны дзень
17.55 Жывём і кахаем
18.10 L-клуб
19.25 Падрабязнасці
19.40 «Выгадная партыя», м/ф (Францыя)
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Франкенштэйн-90», м/ф (Францыя)

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
14.20 «Вяроўка», мульт
14.40 Тэлемагазін
14.45 «Наш двор», м/ф
16.25 «Радасная душа»
16.55 «Ліса, заяц і певень», м/ф
17.40 Адкрываю для сябе Расію
18.10 Мультфільмы
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
19.55 Кінафестываль «Пасланне да чалавека»
20.35 «Стадыён», т/ф
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 «Наўздагад»
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Звычайная гісторыя», ч. 3

## СЕРАДА, 13.07

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 Планета людзей
8.55 «Чыста англійскі поспех», с. 1
9.55 «Маладзечна-94»
11.45 Урокі здароўя
12.10 «Вясковыя канікулы», к/ф
12.35 Відзьма-нявідзьма
16.25 Як нараджаецца музыка?
16.45 Навіны
17.30 Бар'еры
17.40 «Прайшло сто гадоў», канцэрт
18.10 Навіны (Гомель)
18.25 Навіны ВВС
19.00 «Крок»
20.00 «Шануйце песні свае...»
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Чыста англійскі поспех», с. 2
22.35 Пад купалам Сусвету
22.45 НІКа
23.00 Надвор'е
23.10 «Жыцень-94»

**Канал «Астанкіна»**

5.30 Раніца
8.00 Агляд рынку нерухомасці
8.15 «Лёгкі хлеб», мульт
8.30 «Дзікая ружа»
8.55 Клуб падарожнікаў
9.45, 22.40 Прэс-экспрэс
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 22.50 Навіны
15.25 «Вайна гобатаў»
15.50 Дзіцячы кінафестываль
16.10 Адказы
16.40 Кампанія «Мір»
17.25 Свет сёння
17.40 Тэхнадром
17.50, 20.35 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.50 Кіназорка. Ж. Марэ
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Чалавек і закон
20.55 «Каханне, як ціхі вечар», спектакль МХАТ імя А. Чэхава. У перапынку (21.50) — Маналог
22.55 Футбол. Паўфінал. Чэмпіянат свету

**Канал «Расія»**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Добрай раніцы, Еўропа
8.00 Навіны АВС
8.30 Балет Санкт-Пецярбурга
9.00 «Санта-Барбара»
9.50 Тэлегазета
9.55 Тэатральны раз'езд
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Далёкі Усход
16.50 М-трэст
17.05 Бар'ер
17.40 Свята кожны дзень
17.50 Відзапазія
18.05 Тэледэбаты
18.50 Ніхто не забыты
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Пяць мінут пра добрае жыццё
20.30 Я — лідэр
21.00 Ціхі дом
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 «Фамільныя каштоўнасці», м/ф (Італія)

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
14.20 «Сястрычкі-прывычкі», мульт
14.45 «Нячыстая сіла», м/ф
16.50 Урок нямецкай мовы
17.05 «Неадкрытыя астравы», м/ф
18.10 Мультфільмы
19.05 «Каміла, ці Нераскрытыя таямніцы»
19.55 «На душу насельніцтва», т/ф
20.05 Блеф-клуб
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 «Зноў чую голас твой»
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 «Звычайная гісторыя», ч. 2

## ЧАЦВЕР, 14.07

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 «Новыя сустрэчы. С. Стрэзева»
9.00 «Чыста англійскі поспех», с. 2
10.00 «Маладзечна-94»
12.55 «Роднае слова»
17.05 Мастак А. Іваноў
17.30 Навіны
17.40 Свята ў Барысаве
18.10 Навіны (Гродна)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Зачытайце маё пісьмо...
19.05 Крымінальная хроніка
19.25 Якія мы гаспадары?
19.50 «Браслаўскія азёры»
19.55 Выступленне Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Беларусі К. Жаліфа
20.00 Планета людзей
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Чыста англійскі поспех», с. 3
22.35 Пад купалам Сусвету
22.45 «Крок»
23.45 НІКа
24.00 Надвор'е

**Канал «Астанкіна»**

5.30 Раніца
8.00 Агляд рынку нерухомасці
8.15 «Піпа і бык», мульт
8.20 «Дзікая ружа»
8.45 Футбол. Паўфінал чэмпіяната свету
9.45, 0.10 Прэс-экспрэс
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.25 Навіны
15.25 «Вайна гобатаў»
15.50 Мульціпролія
16.05 ... Да 16 і старэйшым
16.40 Планета
17.25 Дакументы і лёсы
17.40 Загадка СБ
17.50, 20.30 Надвор'е
18.00 Гадзіна пік
18.25 «Дзікая ружа»
18.50 Каб помнілі... І. Ізвіцкая
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква — Крэмль
21.00 Лато «Мільён»
21.35 «Сама нявіннасць», м/ф (Францыя)
23.40 Без паўзы

**Канал «Расія»**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Сем нот у цішыні
8.00 Навіны АВС
8.30 Тэлегазета
8.35 Паехалі
8.45 «Санта-Барбара»
9.35 Ранішні канцэрт
9.50 Тэледэбаты
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Панове-таварышы
17.05 Будні
17.45 Свята кожны дзень
17.55 У свеце аўта- і матаспорту
18.25 Свая гульня
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Джаз-клуб
21.00 Футбол. Паўфінал чэмпіяната свету
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Футбол. Паўфінал чэмпіяната свету
23.25 ЭКП

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 Ансамбль «Бярозка»
14.40 Тэлемагазін
14.45 «Вялікая сям'я», м/ф
16.30 «Дом на вуліцы Дурава», т/ф
16.50 Музыка — дзецям
17.00 «Небыліца», канцэрт
17.40 «Мелодыі кахання»
18.00 Па ўсёй Расіі
18.10 «Новая казка», мульт
18.55 «Дзень нараджэння вясны», мульт
19.05 «Не бядуй!», м/ф
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 «Вось які я адмоўны», т/ф
21.25 Тэлемагазін
21.30 Куток Расіі
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 Вячэрні звон

## ПЯТНІЦА, 15.07

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Эканамікст
8.20 Пад купалам Сусвету
8.30 Надвор'е
8.40 Пяць хвілін на жарты
8.45 «Рыкэ-чубарык», мульт
9.05 «Чыста англійскі поспех», с. 3
10.05 Музыканты ваенныя...
10.55 Здароўе
11.25 Рок-айленд-шоу
12.25 «Крок»
15.35 Тэлебом-баль
16.40 Лёгкая атлетыка
17.30 Навіны
17.40 «Рамансы», канцэрт
18.00 Эканамікст
18.10 Навіны (Магілёў)
18.25 Навіны ВВС
19.00 Камбінат «Белшына» сёння і заўтра
19.45 «Сніўся мне сад», д/ф
19.55 Рэйтынг
20.10 «Тэлесябрына»
20.25 Пяць хвілін на жарты
20.30 Кантакт
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Шукаю сябра жыцця», м/ф
23.10 Пад купалам Сусвету
23.20 НІКа
23.35 Надвор'е
23.45 Метраном

**Канал «Астанкіна»**

5.30 Раніца
8.00 Новы старт
8.15 Сарока
8.35 «Чароўныя званочкі», мульт
8.45 «Гарачаў і іншыя»
9.15 Агарод круглы год
9.45, 0.10 Прэс-экспрэс
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны
10.20 Хенлейская рэгата
10.30 Алеся і кампанія
15.25 «Па следзе белага фургона», м/ф
16.30 Чарадзей тыдня. М. Эсамбаеў
17.25 Рэха тыдня
17.45, 20.35 Надвор'е
17.50 Чалавек і закон
18.20 «Гарачаў і іншыя»
18.50 Поле цудаў
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Чалавек тыдня
21.05 «Дэн Огаст»
22.05 «Погляд»
23.10 Музагляд
24.00 Праграма «Х».

**Канал «Расія»**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі
6.20 Патрабуюцца... патрабуюцца...
6.30 Формула-730
7.00 Час дзелавых людзей
7.30 Джаз-клуб
8.00 Навіны АВС
8.30 «Санта-Барбара»
9.20 Футбол. Паўфінал чэмпіяната свету
10.15 Паехалі
10.25 Ранішні канцэрт
10.40 Сялянскае пытанне
15.20 Студыя «Рост»
15.50 Там-там навіны
16.05 Новая лінія
16.50 Дысней па пятніцах
17.45 Свята кожны дзень
17.55 Здорава жывеш
18.10 Тэатральны раз'езд
19.25 Падрабязнасці
19.35 «Санта-Барбара»
20.25 Маскі-шоу
20.55 «Час, калі губляюцца каровы», мульт
21.10 Праграма «А»
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Праграма «А»

**Санкт-Пецярбург**

12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інфарм ТБ
12.10 Чароўная лінія
12.25 «Нямецкая хваля»
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Еўрапейскі калейдаскоп»
14.00 Кубак Дэвіса
14.40 «Джыгіты Анаевы», т/ф
15.00 Кубак Дэвіса
16.15 «Там, дзе жыве Павуціныч»
16.35 «Лясная казка»
18.10 Мультфільмы
19.05 «Уладзімір Святы», м/ф
20.20 «Музычныя серады ў М. А. Рымскага-Корсакава»
20.45 Тэлеслужба бяспекі
20.55 Ансамбль «Руская песня»
21.25 Тэлемагазін
21.30 Будні
22.00 Спорт, спорт, спорт...
22.10 Ваш стыль
22.20 Кубак Дэвіса
23.05 «Дыхаючыя агнём», м/ф (ЗША)

## СУБОТА, 16 ЛІПЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Надвор'е
8.30 Пяць хвілін на жарты
8.35 «Шукаю сябра жыцця», м/ф
10.10 «Душа стамілася ў бязвер'і». Мастак Я. Ражкоў
10.45 Паказвае Магілёў
11.15 Сталіца
11.35 «Мы такія розныя»
12.20 «Тры таўстуны», мульт
12.55 «Наталі»
13.15 «Любоў мая — тэатр». Закрыццё тэатральнага сезона ў Мінску, ч. 1
14.00 «Праспект»
14.30 Бялыніцкія карцінкі
15.50 «Любоў мая — тэатр», ч. 2
16.35 «Чырвонае лісце», м/ф
18.15 Паміж намі, жанчынамі...
19.00 Мультсерыял
19.30 «Нов і К»-топ-10
20.30 Пяць хвілін на жарты
20.35 Калыханка
21.00 Панарама
21.35 «Майстэрства жыць у Адэсе», м/ф
23.20 Пад купалам Сусвету
23.30 «Каскад»
23.45 Відзьма-нявідзьма

**Канал «Астанкіна»**

7.00 Раніца дзелавога чалавека
7.45 Праваслаўная пропаведзь
8.00 «Покліч джунгляў»
8.30 Кампанія «Мір»
10.00 Ранішняя пошта
10.30 Медыцына для цябе
11.00 Навіны культуры
11.10 Смак
11.25 «Сезон цудаў», м/ф
12.55 Дапамажы сабе сам
13.25 Палітра
13.55, 20.35, 23.40 Надвор'е
14.00, 23.35 Навіны
14.20 Лабірынт
14.45 «Кэтвізл»
15.10 Азбука ўласніка
15.25 Грай, гармонік!
16.15 Чалавек і закон
17.10 Магік-шоу
17.55 Да і пасля...
18.50 «Б'юлаленд»
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс
20.45 «Камісар»
21.40 Акадэмія
22.10 Імгненні вялікага футбола
22.25 Футбол. Матч за 3-е месца
23.45 Танцы, танцы, танцы...

**Канал «Расія»**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Мульці-пульці
7.45 «Мы адкрываем Амерыку»
8.15 Пілігрым
9.00 Парламенцкі тыдзень
9.40 Музыка ўсіх пакаленняў
10.10 Тэлеэрудыт
10.15 «Як жыць будзем?»
11.00 «Капітан Нема», м/ф, с. 2
12.10 Расійская энцыклапедыя
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 Казырная дама
13.50 «Таінства шлюбу», д/ф
15.00 Залатая шпора
15.30 Футбол без межаў
16.25 «Востраў скарбаў», мульт
17.25 Вуснамі дзіцяці
17.55 Свята кожны дзень
18.05 «К-2»: «Ведай нашых»
19.25 «Ася», м/ф
21.05 Зусім сакрэтна
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Зоркі гавораць
22.30 Спартыўная карусель
22.35 Поўня
23.25 Футбол. Матч за 3-е месца

**Санкт-Пецярбург**

8.40 «Ахоўваецца дзяржавай», т/ф
9.10 Чароўная лінія
9.25 «Дыхаючыя агнём», м/ф (ЗША)
10.55 «Пра павучка, з якім ніхто не сябраваў», мульт
11.05 «Салодкая жанчына», м/ф
12.45 «Тры браты і зялёны дракон», мульт
13.00 Хуткая дапамога
13.30 «Ірынчын дзённік», т/ф
13.45 Кубак Дэвіса
15.30 «Марыяна першая»
16.00 «Партрэт Дарыяна Грэя», спектакль
18.30, 21.45 Інфарм ТБ
18.55 Экспрэс-кіно
19.10 «Страсці», м/ф, с. 3
20.40 «Сустрэча з класікай», т/ф
20.55 «Старадаўнія рускія рамансы», муз. фільм
21.15 «Вароне дзесьці бог...», т/ф
22.00 Ваш стыль
22.10 Адам і Ева+
22.40 Кубак Дэвіса

## НЯДЗЕЛЯ, 17.07

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Раніца рэспублікі
8.10 Пад купалам Сусвету
8.20 Пяць хвілін на жарты
8.25 Слова да чалавека
8.55 Беларускі тур
9.10 Справы вайсковыя
9.40 «Школьны вальс», м/ф
11.10 MTV. Лепшыя хіты
11.40 Мультсерыял
12.10 Конкурс салдацкай песні
13.10 «Барбі-лато»
13.40 Парад надзей
14.40 Вяскоўцы
15.10 Тэлебом
16.05 «Цудоўны Гоша», мульт
16.20 «Вяселле ў Малінаўцы», м/ф
17.50 Тэлекрама
18.00 «Гінес-шоу»
18.30 Дзелавы веснік
18.45 Мультсерыял
19.15 Радавод
20.00 Панарама
20.35 Пад купалам Сусвету
20.40 Калыханка
21.00 Пяць хвілін на жарты
21.10 «Белыя Іклы», м/ф (Італія)
23.05 Матагонкі-94

**Канал «Астанкіна»**

7.15 Алімпійская раніца
7.50 Спортлато
8.00 Марафон-15
8.30 Раным-рана
9.00 Палігон
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.55 Пад знакам «пі»
11.40 «Кантрольная для дарослых»
12.25 Малыя гарады Расіі
12.55 Шпаргалка
13.00 «Піф і Геркулес»
13.10 «Падводная адысея каманды Кусто»
14.00, 17.15, 23.05 Навіны
14.20 Дыялогу прамым эфіры
15.00 Жывое дрэва рамёстваў
15.05 Акно ў Еўропу
15.35 Вялікі тэатр. Дні і вечары
16.20 Клуб падарожнікаў
17.25 Тэлелоцыя
17.40 Мультфільмы (ЗША)
18.30 Бамонд
18.45 Надвор'е
18.50 «Страх над горадам», м/ф (Францыя)
21.00 Нядзеля
21.50 Спартыўны уік-энд
22.10 Вестуны. В. Шукшын
22.50 Аўта-шоу
23.30 Футбол. Фінал чэмпіяната свету

**Канал «Расія**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 Футбол. Матч за 3-е месца
8.35 Сігнальны экземпляр
8.45 Суайчыннікі
9.15 Добрай раніцы
9.45 Лепшыя гульні НБА
10.45 Аты-баты...
11.15 «Крымінальны партрэт», м/ф
12.40 Сялянскае пытанне
13.20 «Не высечы...»
13.35 Залатая галінка
14.05 Белая варона
14.50 «Строгі юнак», м/ф
16.45 «Ліпень»
17.00 Чароўны свет Дыснея
17.55 Свята кожны дзень
18.05 Каробка перадач
18.20 У Ксюшы
19.25 «Ода футболу». Канцэрт П. Дамінга, Х. Карэраса, Л. Паварроці ў Лос-Анжэлесе
21.35 «Горад», мульт
21.50 Зоркі гавораць
22.20 Аўтаімгненне
22.25 Футбол. Фінал чэмпіяната свету

**Санкт-Пецярбург**

9.00 «Гаючае слова»
9.30 «Клемянціна»
10.00 Экспрэс-кіно
10.15 «Белая сава», н-п/ф
10.30 «Свецкая хроніка»
11.00 Нядзельны лабірынт
12.30 «Ад першай асобы»
13.15 «Аліса ў Зазяркаллі», мульт
14.00 Кубак Дэвіса
15.55 Сёння і штодзённа
16.15 Гістарычны альманах
17.00 Зебра — плюс, дожджык — мінус
17.40 Пецярбургскі ангажэмент
18.30 Інфарм ТБ
18.55 А. Хачатуран. «Спартак»
21.20 Ваш стыль
21.30 «Сірано дэ Бержарак», м/ф
22.55 Кубак Дэвіса

11-17 ліпеня